

Язэп ЛЁСІК
Беларускі Мовазнаўца, Пісьменьнік
ды Палітычна-Грамадзкі Дзеяч
1884 — 1940

БЕЛАРУСКІ
СЬВЕТ
BYELORUSSIAN
WORLD

NO. 14 [43] - 1983

# СЛУЦКІЯ ТКАЧЫХІ

*Словы М. БАГДАНОВІЧА* *Муз. М. МАЦІСОНА*

Moderato

1. Ад род–ных ніу, ад род–най ха– ты у пан–скі
доу– гі–я ча– сі– ны, дзя–во–чы–

двор дзе–ля кра– сы я– ны, бяз–доль– ныя я, у–
я за– быу–шы сны, сва– е шы– ро– кі– я тка–

–зя– ты ткаць за–ла– ты– я па– я– сы. 2. І ця– гам//
– ні– ны на лад пер– сід– скі ткуць я–

–ны. 3. А за сця– мой смя–ец– ца по– ле, зі– я– е

не– баз–за ак– на,— і дум–кі мкнуц– ца мі– ма–

–во– лі ту– ды, дзе рас– цві– ла вяс–на.

**Ад родных ніў, ад роднай хаты**
**У панскі двор дзеля красы**
**Яны, бяздольныя, узяты**
**Ткаць залатыя паясы.**
**І цягам доўгія часіны,**
**Дзявочыя забыўшы сны,**
**Свае шырокія тканіны**
**На лад персідскі ткуць яны.**
**А за сцяной смяецца поле,**
**Зіяе неба з-за акна,—**
**І думкі мкнуцца мімаволі**
**Туды, дзе расцвіла вясна;**
**Дзе блішча збожжа ў яснай далі,**
**Сінеюць міла васількі,**
**Халодным срэбрам зззяюць хвалі**
**Між гор ліючайся ракі;**
**Цямнее край зубчаты бора...**
**І тчэ, забыўшыся, рука,**
**Заміж персідскага узора,**
**Цвяток радзімы васілька.**



Вітаўт Кіпель (ЗША.)

# ЯЗЭП ЛЁСІК

(1884 — 1984)

1980 - 1990-я гады для беларускага нацыянальнага руху асаблівыя: на гэтую дэкаду прыпадаюць стагоднія юбілеі цэлае пляяды заслужаных і выдатных правадыроў і дзеячоў беларускага палітычнага руху й нацыянальна-культурнага адраджэньня.

Летась, у сусьветным маштабе былі адзначаныя Купала-Коласаўскія ўгодкі, на Захадзе ды часткава на Беласточчыне былі адзначаныя таксама ўгодкі Івана Луцкевіча, сёлета ў Лёндане ды Нью Ёрку адзначаўся юбілей Вацлава Ластоўскага, а далей плянуецца адзначэньне юбілеяў Сьцяпана Некрашэвіча ды іншых нашых дзеячоў.

На сакавік 1984 году прыпадае стагадовы юбілей ад нараджэньня Язэпа Лёсіка, выдатнага беларускага нацыянальнага дзеяча, якому, ужываючы тытулы, бясспрэчна належыць тытул **Правадыра Беларускага Нацыяналізму**.

У Менску, у дваццатых гадох (ведаю гэта ад бацькоў і ад блізу 50-ці гадовага майго настаўніка сп. А. Адамовіча) казалі: Беларускім рухам кіруюць тры "эЛ" — Луцкевіч, Ластоўскі й Лёсік. Пагляд слушны, хоць крыху й спрошчаны. Аднак, бясспрэчна, што вага гэтых трох "эЛ" была надзвычайная. Гэтыя тры "эЛ" задавалі руху нацыянальны тон ды кіравалі шмат якімі дзялянкамі нацыянальнага адраджэньня. Язэпу Лёсіку ў гэтай "тройцы" належыць пальма пяршынства ў дзейнасьці масавай нацыянальна-палітычнай.

Вось кароткі ягоны жыцьцяпіс: Язэп Лёсік нарадзіўся 6-га лістапада 1884 году ў сяле Мікалаеўшчына, Менскага павету. Ён быў малодшым зь сямёх братоў і даводзіўся дзядзькам Якубу Коласу. Я. Лёсік вучыўся ў Маладэчанскай настаўніцкай сэмінарыі й Ноўгарад-Северскім гарадзкім вучылішчы. Там-жа здаваў экстэрнам экзамін і атрымаў годнасьць настаўніка. Настаўнічаў на Бабруйшчыне і Ноўгарад-Севершчыне.

Нацыянальным дзеячом Язэп Лёсік стаўся адразу, ён ня мог зьмірыцца з тым, што яго ня прынялі ў Нясьвіжскую настаўніцкую сэмінарыю дзеля беларускасьці паглядаў і настрояў ягонага брата Антона, які ў гэтай сэмінарыі быў выкладчыкам ды таксама дзеля беларускае актыўнасьці Язэпу Лёсіку не далі магчымасьці скончыць сэмінарыю ў Маладэчне. Ад раньніх гадоў Язэп Лёсік дзейнічаў сярод народу: ён арганізоўваў зборкі сялянаў і чытаў ім газэты, усьведамляў іх у беларускасьці. Вельмі хутка ён трапіў на вочы паліцыі, і ў 1905-ым годзе Язэпа Лёсіка арыштавалі й пасадзілі ў Ноўгарад-Северскую турму. У 1907 годзе яго перавезьлі на суд у горад Старадуб. Лёсік са Старадубскае турмы ўцёк ды хаваўся да 1911 году, калі яго нарэшце царская паліцыя злавіла ды засудзіла на бястэрміновае пасяленьне ў Сібіры. Вельмі характэрная рыса дзейнасьці



Я. Лёсіка: хаваючыся ад паліцыі, ён тым ня менш браў актыўны ўдзел ў арганізацыі беларускага настаўніцтва. У Сібіры Лёсік пазнаёміўся з Алесем Гаруном ды навязаў лістоўную лучнасьць з газэтай "Наша Ніва" ды шмат зь якімі дзеячамі беларускага руху. На Беларусь Язэп Лёсік зьвярнуўся пасьля рэвалюцыі ў 1917 годзе й затрымаўся ў Менску. Тут Язэп Лёсік цалком аддаўся палітычнай працы: ён увайшоў у Беларускую Цэнтральную Раду, стаўся ейным старшынём ды адыграў ролю аднаго з матораў у рыхтаваньні й правядзеньні Усебеларускага Кангрэсу ды абвешчаньня незалежнасьці Беларусі — Беларускае Народнае Рэспублікі. У гэтым пэрыядзе, Я. Лёсік бадай як ніхто ў нашым руху спрычыніўся да пашырэньня ў народзе ідэі незалежнасьці ды асноваў дзяржаўнасьці Беларусі праз рэдагаваную ім газэту "Вольная Беларусь".

Пасьля акупацыі Беларусі бальшавікамі Язэп Лёсік застаўся ў Менску. Бальшавікі пачалі раз-пораз арыштоўваць Лёсіка й толькі дзякуючы захадам У. Ігнатоўскага Лёсіка нарэшце пакінулі ў супакоі.

Далейшы пэрыяд жыцьця Я. Лёсіка ў Менску напрацягу 20-ых гадоў можна азначаць як пэрыяд вельмі інтэнсыўнае настаўніцкае працы. Я. Лёсік выкладаў беларускую мову ў шмат якіх сярэдніх школах Менску, у Беларускім Пэдагагічным Тэхнікуме, чытаў лекцыі на курсах Беларусаведы, меў лекцыі на Унівэрсытэце. Адначасна Я. Лёсік шмат працаваў акадэмічна: ён напісаў колькі падручнікаў, працаваў у тэрміналягічнай камісіі ў Інбелкульце, потым Беларускай Акадэміі Навук, напісаў колькі працаў зь гісторыі Беларусі. Праз сваю працу ў школах, краязнаўчых гуртках, ды асабліва праз падручнікі Язэп Лёсік стаўся ведамым усёй Беларусі. Для тысячаў і тысячаў студэнтаў Я. Лёсік быў адзіным аўтарытэтам ня толькі ў мове, але наогул у Беларусаведзе. Зь Лёсікам лічылася бадай усё беларускае грамадзтва, а ў навукова-культурных беларускіх колах Лёсік стаўся першым аўтарытэтам. Праз аўтарытэт Я. Лёсіка й беларуская мова і ўся беларускасьць паступова ўваходзілі ў штодзённае жыцьцё. Беларускаму грамадзтву было ведама, што Лёсік — бескампрамісовы ў дачыненьні да мовы, да беларускасьці. Беларускасьць была ягоным жыцьцём, і сваёй моцнай натурай ён змушаў і іншых да гэткага стаўленьня. Лёсік уважаў гэта адзіным правільным падыходам — **на Беларусі павінна панаваць беларускасьць.** Як расказвае мне мая маці (яна слухала Язэпа Лёсіка на вышэйшых курсах Беларусазнаўства ў 1925 годзе) на аднэй лекцыі студэнтка неяк выказала сумніў, што да беларускае мовы, дык Лёсік сказаў гэтак: "Тут слухаюць тыя, што вераць у Беларусь. Вось там Бог (ён паказаў на покуць), а вось там парог", і выпрасіў студэнтку з клясы. Брату Антону аднойчы Язэп Лёсік сказаў: "Калі я праходжу вуліцамі Менску й чую беларускую мову, то слухаю яе як музыку".

Аднак беларускасьці ня было суджана гэтым разам разьвівацца. Гэта йшло насуперак савецкай дзяржаве. Актыўны наступ на беларусаў пачаўся пасьля Акадэмічнае канфэрэнцыі да рэформы беларускага правапісу (1926 г.). На беларускіх дзеячоў пачалі зьяўляцца

артыкулы ў друку, зьявіўся тэрмін "нацдэмы". Язэп Лёсік апынуўся ў цэнтры камуністычнае крытыкі. Крытыкаваліся ягоныя падручнікі, ягоная дзейнасьць, ягоны аўтарытэт. Лёсіку ставіўся канкрэтны закід: духовае кіраўніцтва нацдэмамі, г. зн. беларускім нацыянальным актывам. У канцы ліпеня 1930 году Язэпа Лёсіка арыштавалі на Каўказе, дзе ён быў у санаторыі. У Менску ў ягоным памешканьні зрабілі ператрус і на хурманцы вывезьлі бадай усё: кніжкі, архіў і навет некаторую мэблю. Насталі вельмі цяжкія часы для беларускага нацыянальнага актыву ў БССР. Ішло рыхтаваньне да працэсу нацдэмаў. Улада ўважала, што зломіць Я. Лёсіка, і ён станецца адным з галоўных раскаяных ды абвінаваціць усіх арыштаваных. Ды дарма, Саветы, як выглядае, не зразумелі Язэпа Лёсіка, яго яны не зламалі й працэс ня быў сфабрыкаваны. Гэта не паўстрымала ўладу ад таго, каб нацыянальны актыў, нацыянальнае кіраўніцтва зьнішчыць. Адных яны трымалі ў турмах, а другіх раскідалі па вялікім Савецкім Саюзе, ці як казалі даўней, "по великой необъятной России".

Язэпа Лёсіка выслалі ў Камышын на Волзе. Па адбыцьці пяцігадовае высылкі Я. Лёсіку не дазволілі вярнуцца на Беларусь. Ён выбраў месца пасяленьня горад Новазыбкаў, каля ўсходняе мяжы БССР, што давала магчымасьць яму час- часам прыяжджаць у горад Гомель, наведваць беларускі тэатр ды кнігарні. Аднак, былыя "нацдэмы" Савецкай уладзе ўсё-ж не давалі супакою. Пачалася паўторная хваля арыштаў. Лёсіка арыштавалі паўторна ў 1938-ым годзе. Гэтым разам Язэпа Лёсіка зьнішчылі.

Дакладна няведама, як загінуў Язэп Лёсік. Недзе ў 1939 годзе жонцы ягонай паведамілі, што Язэп Лёсік памёр. Зьвярнулі жонцы некаторыя Лёсікавы рэчы ўжо падгнілыя, магчыма гэта адзінае сьведчаньне аб камэрных абставінах, у якіх быў Я. Лёсік перад сьмерцяй. Сьмерць Я. Лёсіка — яшчэ адна таямніца і яшчэ адно падцьверджаньне нясупыннага змаганьня беларускага адраджэньня з Расейскай імпэрыяй.

Вось гэта кароткі жыцьцяпіс і агляд дзейнасьці вялікага беларускага патрыёта, дзеяча й палітыка-правадыра беларускае нацыянальнае плыні, што ўвайшла ў беларускую нацыянальную гісторыю пад назовам плыні **"нацдэмаўскае"**, ды пакінула нашчадкам выдатны сьлед і праграму.

Адзначэньне юбілею Я. Лёсіка — абавязак беларускіх патрыётаў!





Р. СЕМАШКЕВІЧ

## ЧАСОПІС "ГОМАН"

### Адам ГУРЫНОВІЧ у Пецярбурзе
### Браніслаў ЭПІМАХ-ШЫПІЛА і яго «Беларуская Хрэстаматыя»

працяг

Як працяг рэвалюцыйнай традыцыі беларускага руху ў Пецярбурзе, непасрэдна пасьля «Гоману» вылучаецца й дзейнасьць беларускага паэты Адама Гурыновіча. Гаварыць пра Гурыновіча ў Пецярбурзе — значыць характарызаваць яго як рэвалюцыйнага дзеяча, і хоць матэрыял гэты ня чыста літаратурны, але ён датычыць біяграфіі паэты, атмасфэры, у якой фармаваўся яго сьветапогляд.

Гурыновіч у 1887 годзе стаў студэнтам Пецярбурскага тэхналягічнага інстытуту й прымаў удзел у рэвалюцыйнай дзейнасьці падпольнай арганізацыі «Коло польске», якая мела яшчэ й назву «Гурток моладзі польскай, беларуска-літоўскай і маларускай».

Жыцьцёвы й творчы шлях Гурыновіча быў надзвычай кароткім і трагічным. Аб дзейнасьці паэты сьведчыць толькі частка пасьмяротна апублікаваных вершаў, сабраныя ім фальклёрныя матэрыялы ды жандарская перапіска аб яго арышце й пратаколы допытаў. Але й па гэтых скупых матэрыялах можна зрабіць некалькі вывадаў аб умовах дзейнасьці выхадцаў з заходніх губэрняў Расеі й Польшчы ў 80-я й 90-я гады мінулага стагодзьдзя.

Пераважная большасьць вершаў Гурыновіча напісана па-беларуску ў студэнцкія часы. Ён уваходзіў у арганізацыю, якая вяла прапаганду ў аснаўным сярод студэнтаў, пецярбурскіх рабочых — выхадцаў з заходніх губэрняў Расеі (Польшча, Літва-Беларусь). (...) Статыстыка сьведчыць, што студэнтаў-палякаў у Пецярбурзе ніколі ня было менш, чым дзьве тысячы, а ў часе навучаньня Гурыновіча толькі ў Тэхналягічным інстытуце іх было 170 чалавек. Самастойнай беларускай групы, якая-б вылучалася з «Кола польскага», ня было, былі толькі выхадцы зь Беларусі, сярод іх шмат і вельмі актыўных дзеячоў арганізацыі.

Тэхналягічны інстытут меў багатыя традыцыі студэнцкага руху. Зьяўляючыся адной зь вядучых навучальных устаноў Пецярбургу, ён набыў там большую папулярнасьць нават і па той прычыне, што людзі з тэхнічнай адукацыяй станавіліся людзьмі новых, вельмі патрэбных і прагрэсіўных спэцыяльнасьцяў.

Аб характары студэнцкага жыцьця ў пэрыяд, які папярэднічаў навучаньню ў інстытуце Гурыновіча, пісаў сын буйнейшага беларускага магната Вайніловіча: «... паступіў у Тэхналягічны інстытут у Пецярбурзе. Тут сабралася моладзь, якая парывала з усімі прывілеямі, настроеная дэмакратычна, а нават і сацыялістычна. Гэта таксама было прычынай, што любыя тагачасныя выпадкі й палітычныя падзеі знаходзілі водгук ва ўстанове ці нават і паходзілі адтуль. Такім чынам, як напрыклад, пасьля замаху 4 красавіка (1866) Каракозава на жыцьцё цара Аляксандра II, бывалі ў студэнтаў вобыскі, арышты, разгон так званых у нас «сходак», на якіх звычайна выступалі палымяныя, крайніх поглядаў прамоўцы. Прапаведвалі яны тэорыю, якая не давала магчымасьці пагадзіцца з традыцыямі, што былі вынесены з бацькоўскага дому, але мела гэта й добры бок, што з тым новым кірункам пачаў я асвойваць, у некаторых выпадках прызнаваць іх слушнасьць, і ва ўсякім разе

навучыўся я ўсіх людзей лічыць за роўных сабе». (Е. Вайніловіч. Успаміны. Вільня, 1930, стар. 78.)

Трэба яшчэ дадаць, што ў Тэхналягічным інстытуце вучыўся Пляханаў, а таксама й заснавальнік першай рэвалюцыйнай марксісцкай польскай партыі «Пралетарыят» — Людвіг Варынскі. І хоць ён арганізаваў сваю партыю пасьля заканчэньня інстытуту ў карэннай Польшчы, аднак фармаваньне яго сьветапогляду адбывалася ў інстытуце.

Традыцыі рэвалюцыйнасьці й свабодалюбства, якія жылі сярод студэнцтва наагул і іституту ў прыватнасьці, ня зьніклі й узрадзіліся нанова, новымі формамі ў часе, калі Гурыновіч пачаў вучобу ў інстытуце. Перад гэтым часам, недзе ад 1881 г., калі А. Грынявіцкі зьдзейсьніў удалы замах на жыцьцё Аляксандра II, новы цар пайшоў на ўзмацненьне курсу палітычнай рэакцыі ва ўсіх галінах жыцьця, асабліва ў галіне асьветы. Узмацніўся паліцэйскі кантроль, і студэнтам забаранялася быць сябрамі якіх-бы там ні было арганізацыяў, на што яны давалі прысягу ў пісьмовай форме. Урад пайшоў на абмежаваньне прыёму ў навучальныя ўстановы людзей з немаёмасных клясаў, а таксама ўвёў вайсковую павіннасьць у часе навучаньня. Міністар асьветы ў афіцыйным рапарце (1887) заявіў, што ні на якія ўступкі студэнцтва разьлічваць ня можа. І ўсё-ж студэнцкі рух, асабліва польскага студэнцтва, як падпольны, так і легальны, у два апошнія гады васьмідзесятых і першыя гады дзевяностых гадоў дасягнуў небывалага ўздыму.

Найправільней, відаць, зьвязваць найвышэйшы ўздым у грамадзкім жыцьці польскай моладзі Пецярбургу ў гэты час з фармаваньнем польскага сацыялістычнага руху, які ўзрастаў на расейскай глебе, і найбольш сярод палякаў Пецярбургу, а яны пасьля перанесьлі сваю канкрэтную работу на радзіму й таксама на Беларусь.

Апублікаваныя нядаўна ў кнізе «Революционная Россия и революционная Польша» архіўныя дакументы сьведчаць, што польскае студэнцтва адыграла немалую ролю ў стварэньні й дзейнасьці пецярбурскай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі, вяло асабліва вялікую прапаганду сярод рабочых яшчэ да стварэньня «кола польскага», а пасьля стварэньня яго не пакідала прапагандная работы. Зрэшты, і гурток быў вынікам іх рэвалюцыйнай настроенасьці. Але ўтварэньне яго мае сваю перадгісторыю.

Ёсьць усе падставы, каб зрабіць некаторыя вывады аб Віленскім рэальным вучылішчы, дзе вучыўся Гурыновіч у 1879-1886 гг. Магчыма, падпольнай арганізацыі там і ня было, але што перадавыя ідэі часу знаходзілі пэўнае месца пры фармаваньні сьветапогляду навучэнцаў, — гэта амаль бясспрэчна. Бясспрэчна хоць-бы таму, што сярод актыўных дзеячоў пецярбурскіх арганізацыяў знаходзім шмат выпускнікоў Віленскага рэальнага вучылішча, у тым ліку й сяброў Гурыновіча. У першую чаргу гэта адносіцца да Казіміра Акуліча і Юзэфа Бурачэўскага: іх прозьвішчы часта фігуруюць у дакумантах па справе Гурыновіча. І нездарма. Акуліч, Бурачэўскі й Гурыновіч — аднаклясьнікі зь Віленскага рэальнага вучылішча, і да таго-ж у некаторай ступені іх можна назваць яшчэ й землякамі (Бурачэўскі — з Ковенскай губэрні, селянін, католік; Акуліч — з Ковенскай губэрні, дваранін, католік; Гурыновіч зь Віленскай губэрні, дваранін, католік. Усе разам яны паступілі ў 1887 годзе ў Тэхналягічны інстытут, дзе праз некаторы час блізка пазнаёміліся зь Ігнатам Непакайчыцкім, які быў родам зь Кіеўскай губэрні. Гурыновіч, Непакайчыцкі і Акуліч адзін час, перад арыштамі 1893 г., жылі на адной кватэры, дзе часта адбываліся студэнцкія сходкі й дзе хавалі забароненую літаратуру. Відавочна, што Гурыновіч быў далучаны да рэвалюцыйнай работы сваімі сябрамі, у першую чаргу Бурачэўскім і Акулічам. У паказаньнях на допыце ён гаворыць: «Да справы распаўсюджваньня злачынных выданьняў я дачыніўся пры наступных абставінах: яшчэ ў 1889 годзе я прачытаў некаторыя забароненыя кнігі тады першы раз».

Пасьля разгрому ўладамі таварыства санкт-пецярбурскіх масьцеравых у 1887 годзе ў Пецярбурзе быў створаны адзін зь нешматлікіх гурткоў марксіцкага напрамку. Кіраваў ім студэнт-тэхнолаг Г. Пятроўскі. Сваёй галоўнай мэтай гурток паставіў весьці сацыял-дэмакратычную прапаганду сярод рабочых марскога порту й на Абухоўскім заводзе. Праз год пасьля стварэньня дзейнасьць гуртка была ўжо заўважана паліцыяй, але пакуль што ўсё ішло добра й да работы прыцягваліся новыя сябры. Так, у 1889 годзе ў арганізацыю ўступіў Бурачэўскі. Да таго-ж ня лішне адзначыць, што паліцыя склала сьпіс людзей, зь якімі сябраваў сябра гуртка Лелеваль, і сярод іх значыцца прозьвішча Акуліча.

Вось дзе, відаць, тоіцца разгадка гурыновічавага 1889 г., як года першага знаёмства з марксістоўскай літаратурай, бо несумненна, што кнігі, якія распаўсюджвалі Бурачэўскі і Акуліч, не маглі ня трапіць у рукі іх прыяцеля. Гурыновіч адкрыта прызнае на допыце: ён пад уплывам гэтых кнігаў прыйшоў да пераканаsuccessfully, «што многае з таго, што гаворыцца ў гэтых кнігах, мае сваю долю праўды й што наагул выказаныя ў іх погляды могуць мець жыцьцёвае прымяненьне». Так Гурыновіч знаходзіць сваю маральную аснову, вылучае з жыцьця сапраўды прагрэсыўныя й рухаючыя сілы часу. Практычна гэта выявілася ў яго грамадзкую актывізацыю, удзел у рабоце «Кола польскага» й некаторы час старшынства ў ім.

Важна адзначыць, што «Коло польске» ўтварылася ў гэтым-жа 1899 г. Былі, відавочна, дзьве перадумовы стварэньня, а пасьля і асаблівасьці ў дзейнасьці арганізацыі. Па-першае, сябры яе былі выхадцы з Польшчы й Літвы-Беларусі. Гэта надавала «Колу польскаму» характар зямляцкай арганізацыі, якую цікавілі пытаньні з усіх галін жыцьця заходніх ускраін Расеі й былі асабліва цікавымі для выхадцаў з гэтых ускраін. Па-другое, стварэньне арганізацыі мела яшчэ й канкрэтную мэту, пра якую гаворыць у паказаньнях Гурыновіч: «Звычайна на сходах сябры гуртка прапаноўвалі тую ці другую кніжку для разгляду прыгоднасьці яе да распаўсюджваньня. Да наступнага сходу прапаноўвалася сябром саставіць даклад аб прапанаваных кніжках, які й разглядаўся на тым сходзе».

Зьвернемся да афіцыйных дакумантаў, якія даюць сваю казённую ацэнку арганізацыі. Пецярбурскі гараданачальнік пісаў у дэпартамэнт паліцыі пра «Коло польске» на пятым і фактычна апошнім годзе дзейнасьці яго: «Гурток гэты існуе і ў Варшаве й мае мэтай асьвету гарадзкога й сельскага працоўнага насельніцтва... шляхам распаўсюджваньня ў іх асяродзьдзі кніг па магчымасьці напісаных складам, зразумелым для маларазьвітых людзей. Пачатак арганізацыі пецярбурскага польскага гуртка адносіцца да 1899 г. Гурток гэты, па агентурных зьвестках, зусім ня меў да гэтага часу рэвалюцыйных мэтаў і творы, якія распаўсюджваліся ім, дазволены да зваротку ў публіцы... Старшынствавалі на сходах сябры гуртка па выбары, прычым зь ліку прадстаўнікоў вядомы: К. Дабкевіч, І. Вілейшыс, студэнты С-Пецярбурскага ўнівэрсытэту, зубны лекар М. Дамашэвіч, касірамі былі студэнт С-Пецярбурскага ўнівэрсытэту А. Янчэўскі, Горнага інстытуту Л. Цясьлінскі, Тэхналягічнага інстытуту Ф. Малкоўскі, Б. Урбановіч, А. Гурыновіч, Інсты-

туту грамадзянскіх інжынераў У. Шавярноўскі, М. Касоўскі і А. Гэнрых. У склад гуртка ўваходзілі пераважна навучэнцы вышэйшых навучальных устаноў Пецярбургу, зь якіх некаторыя прыцягваліся ўжо да дазнаньня палітычнага характару».

Увесь ход судовых разбораў, які цягнуўся за малым не чатыры гады (кастрычнік 1893 — май 1897 гг.) дазваляе зрабіць наступны вывад. Сябры арганізацыі «Коло польске» прайшлі значную эвалюцыю ў сваім духоўным разьвіцьці й многія зь іх дасягнулі ў даволі маладым узросьце перадавога грамадзкага сьветапогляду. Гэта калі й не заслуга, то подступы да яе. Думаецца, што гэта арганізацыя ўзьнікла як зямляцкая з чыста асьветніцкімі мэтамі. Ужо сам факт гуртаваньня людзей засьвядчае, што розум і сьвядомасьць шукалі нейкай канкрэтнай карыснай для грамадзтва справы Натуральна, што ў ходзе практычнай работы ў гэтую асьветніцкую плынь усё больш трывала і ўладна пачаў улівацца струмень рэвалюцыйны. Само па сабе асьветніцтва — зьява прагрэсыўная, а сапраўдны прагрэс заўсёды апіраецца на рухаючыя сілы грамадзкай думкі. (...)

У беларускай літаратуры другой паловы XIX стагодзьдзя нават непазьбежна атрымоўваецца так, што прозьвішча Гурыновіча трэба ставіць побач з прозьвішчам заснавальніка рэалізму ў нашай літаратуры Багушэвіча, хоць большую частку напісанага Гурыновічам паглынулі архівы паліцыі. Гэта, вядома, трагічны (й ня першы) выпадак у гісторыі нашай літаратуры.

На сапраўдную літаратуру грамадзкія фактары заўсёды ўзьдзейнічаюць з такой сілай, што калі праз працяглы адрэзак часу мы можам нават і ня ведаць пра канкрэтныя фактары, то літаратурнае іх увасабленьне, ажыўляе нанова мінулае або дае повад да пазнаньня яго. Здаецца правамернай думка, што шляхі жыцьця й разьвіцьця беларускага народу XIX ст., уплывы й павевы розных (палітычных у першую чаргу, — і ў значна меншай ступені літаратурных) плыняў у літаратуры адлюстраваны. У гэтым, вядома, вядучую ролю адгулялі шматлікія палітычныя падзеі, якія пакінулі свой адбітак на грамадзкім жыцьці.

Лічыць Гурыновіча пасьлядоўнікам, вучнем Багушэвіча дазваляе наступная акалічнасьць — нават і ў вядомых нам вершах Гурыновіча гучыць тая-ж агульная сацыяльная й нацыянальная накіраванасьць, ідэйная блізкасьць да паэзіі Багушэвіча, якую Гурыновіч успрыняў як наказ, як эстафэту.

Але мы маем рацыю, калі сьцьвярджаем, што для непасрэднага абуджэньня самасьвядомасьці роднага народа пасьля Вільні вялікія ідэйныя лекцыі даў Пецярбург зь яго сьвядомай студэнцкай атмасфэрай, з пачаткам удзелу Гурыновіча ў падпольнай дзейнасьці. Якраз гэтая атмасфэра выклікала ў ім жаданьне разабрацца ў грамадзкіх праблемах, аб чым ён прызнаецца й сам на допыце. Гэта можна назваць паглыбленай грамадзкай актыўнасьцю думкі й дзеяньня. Наагул, відаць перадумовай зьяўленьня кожнага паэты ёсьць неабходнасьць своеасаблівага грамадзкага штуршка, ад якога-б пачынаўся рух і разьвіцьцё паэты, а дакладней, яго паэзіі ў грамадзтве. Думаецца, што для Багушэвіча, напрыклад, такім штуршком было няўдалае паўстаньне 1863 году. Бязумоўна, Багушэвіч — вялікі талент, але ўлічым і такія, відавочна, зыходныя фактары. Па-першае, гэта няспраўджаныя надзеі паўстанцкай маладосьці й горыч, якая засталася на ўсё жыцьцё. Багушэвіч быў таксама й непасрэдным сьведкам нацыянальнага ўздыму ўкраінцаў. Гэтыя акалічнасьці біяграфіі паэты сталі крыніцай патэнцыяльнай энэргіі для творчасьці яшчэ да зьяўленьня першых вершаў.

Таксама і ў Гурыновіча ёсьць у біяграфіі момант, які абумовіў станаўленьне й характар яго грамадзка-палітычных поглядаў. Гэта — Пецярбург эпохі пачатку сацыял-дэмакратычнай прапаганды й прадвесьня тых падзеяў, што сталі галоўнымі рухаючымі сіламі новага часу. У сьветапоглядзе Гурыновіча знаходзіць месца сынтэз дэмакратычных імкненьняў і рэвалюцыйных ідэалаў.



З аднаго боку, Гурыновіч успрыняў першыя рэвалюцыйныя ідэі. На допыце ён ня ўтойвае сваіх думак пра тое, што гэтыя ідэі могуць мець жыцьцёвае прымяненьне. Таму Гурыновіч стаіць у шэрагу прагрэсыўных людзей усёй тагачаснай Расеі наагул. Неад'емнай часткай заслуг Гурыновіча зьяўляецца яшчэ і яго ўклад у беларускую літаратуру, этнаграфію і, наагул, у разьвіцьцё беларускай грамадзка-палітычнай думкі. Гурыновіч стаў буйным беларускім інтэлігентам таго часу, дзякуючы далучэньню да дзейнасьці палітычнага характару. Сацыяльная ўсьвядомленасьць прыйшла да Гурыновіча на нейкі няхай можа й нязначны час, раней, чым нацыянальная. Гэтыя дзьве галіны грамадзкай сьвядомасьці ў нашым сёньняшнім разуменьні існуюць як адзінства, характэрнае для сьветапогляду паэты. Але нацыянальная ўсьвядомленасьць узьнікае ў выніку паглыбленага вывучэньня праблем часу, праблем жыцьця народу.

Сябрамі «Кола польскага» былі палякі й беларусы-ліцьвіны, але большасьць складалі палякі. Несумненна, што там праходзілі дыскусіі вакол польскага пытаньня, якое ў царскай Расеі ніколі ня сыходзіла з палітычнай арэны і якое мела дачыненьне й да лёсу Літвы-Беларусі. Характэрныя ў гэтым сэньсе прызнаньні Гурыновіча на допыце, калі ён тлумачыць сьледчаму пра адабраныя ў яго рукапісы: «Верш на трох чацьвярцінках паперы, які пачынаецца словамі: «Станем, братья, сомкнутыми рядами» (на жаль, нельга зразумець, на якой мове напісаны верш, бо допыт і пратакол вяліся, вядома, на расейскай мове, — Р.С.), ёсьць уласны твор, напісаны мною супраць шавінізму асабіста для сябе, і такога я не распаўсюджваў. На паўлісьце паштовай паперы мной запісаны некаторыя творы на беларускай мове, у тым ліку й сацыяльна-рэвалюцыйная газэта пад загалоўкам «Гоман», для памяці як творы, напісаныя на беларускай мове, якімі я цікавіўся». Вядома, калі Гурыновіч пісаў вершы, накіраваныя супраць шавінізму, то нам тым больш зразумелай становіцца яго сьвядомая грамадзянская пазыцыя. Ад яе й вытокі яго любові да простага чалавека, да этнаграфіі й фальклору роднага народу, які адчуваў на сабе жорсткія й нечалавечыя праявы гэтага шавінізму.

Духоўным настаўнікам Гурыновіча, як беларускага паэты, інтэлігента-рэвалюцыянера, быў Ф. Багушэвіч. Пра гэта вельмі добра й нядвухсэнсоўна сказана ў поўным павагі і ўдзячнасьці вершы Гурыновіча:

Дзякуй табе, браце, Бурачок Мацею,
За тое, што ў сэрцы збудзіў ты надзею.
Што між братоў нашых знаходзяцца людзі
З кахаючым сэрцам і баляшчай грудзяй.
Дзякуй табе, браце, і за тыя словы,
Што ўспомнілі звукі нашай роднай мовы.

Гэты верш вылучаецца ня толькі як верш-пасланьне, а як і ўласнае паэтычнае крэда Гурыновіча, яго разуменьне прызначэньня й задач паэты ў адказны для народу час. Гурыновіч ведаў творчасьць Багушэвіча. Аб тым, што яго даўно цікавіць «Дудка беларуская», ён два разы прызнаецца на допыце ў 1893 годзе. Паэта яднае з Багушэвічам агульнасьць разуменьня некаторых аспэктаў жыцьця. Так,

 

у Багушэвіча й Гурыновіча ўжо няма ўяўленьня, якое было характэрным для некаторых беларускіх пісьменьнікаў XIX стагодзьдзя, напрыклад, для Дуніна-Марцінкевіча. Гаворка ідзе пра ідэалізацыю мінулых часоў, аб пропаведзі клясавай гармоніі. Гурыновіч канчаткова парывае зь мінулым тае клясы, да якое належыць і сам. Ён дае справядлівую ацэнку гістарычнаму мінуламу панства й шляхты, разумеючы, што былыя прывілеі, заможнасьць шляхты купляліся цаной эксплуатацыі сялянства. Вось катэгарычны вершаваны прысуд Гурыновіча:

Перш душылі паны,
Што шляхтай зваліся.
Цяпер сукіны сыны
За нас узяліся.

А далей характарыстыка расплаты, якая павінна наступіць:

Няхай хлопцы ўсе
Зьбіраюцца кучай
У такім хаўрусе
Станімся мы тучай.
. . . . . . . . .
А з гэтай тучы, як гром
Сярод летняй ночы,
Загручыць усім паном
Загуба ў вочы.
(«Перш душылі паны»)

У Гурыновіча, як і ў Багушэвіча, ужо няма ніякіх ілюзіяў папярэдніх і часткова сучасных яму прадстаўнікоў нашай інтэлігенцыі аб добразычлівасьці да беларусаў і польскага панства й царызму. Яны ставяцца паэтам на адну ступень, ён не аддае ні тым, ні другім перавагі.

Ды навучыць (цар — Р. С.) рабя
Лаіцца па-руску;
«Сукин сын, я тебя
Засажу в кутузку».
«Сукин сын» ці «psia mać» —
Абое рабое.
Ці-ж ня маюць нам даць
Што кольвек другое?
(«Што ты сьпіш, мужычок...»)

«Што кольвек другое» — гэта патрабаваньне тых ці іншых умоў, якія-б забясьпечылі беларусам дэмакратычныя правы ў розных галінах грамадзкага жыцьця, гэта новае, далейшае разьвіцьцё тых ідэяў пэўнай самастойнасьці беларусаў як нацыі, што былі выказаныя яшчэ ў «Гомане».

Калі сын беларускага магната Вайніловіча піша, што Пецярбург навучыў яго прызнаваць усіх людзей за роўных сабе, то Гурыновіча Пецярбург навучыў змаганьню за будучыню свайго народу. Гурыновіч быў і застаецца адным з выдатнейшых прадстаўнікоў нашага народу.

(працяг будзе)



Міхась Белямук (ЗША.)

## ПАНЁМАНСКАЯ ЗАГАДКА

Тэрыторыя сярэдняга й верхняга цячэньня Нёману ды ягоных датокаў ад 1950 году афіцыйна атрымала назву Панёманьня. Гісторыя панёманскіх местаў, як Горадні, Ліды, Наваградка, Нясьвіжа, Косава, Слоніма й Ваўкавыска пачынаецца, згодна пісьмовых крыніцаў, ад паловы XIII стагодзьдзя. Паколькі ў Панёманьні фармавалася Вялікае Княства Літоўскае, таму дасьледчыкі Вялікага Княства імкнуцца ўявіць гістарычны працэс Панёманьня, прыкладам В. Пашуто. Ягоная капітальная праца [1]) дзе пералік і анатацыя ўсіх ранейшых дасьледаваньняў і адначасна спроба расшуканьня чыньнікаў, якія садзейнічалі нараджэньню Вялікага Княства Літоўскага, застаецца на даўгія гады настольнай кнігай, але ня ёсьць у сучаснасьці задавальняючым адказам на шмат якія пытаньні.

Н. Варонін пісаў: «Панёманьне ў сэнсе архэалягічнай асьведамлёнасьці адстала ад іншых вобласьцяў СССР на паўстагодзьдзя... і паколькі архэалягічныя дасьледаваньні ня былі сыстэматычнымі, дык на аснове прыпадковых раскопкаў нельга рабіць высновы аб важных гістарычных пытаньнях». (**2**, б. 10-11) Сёньня мінае амаль 30 год, як былі апублікаваныя манаграфіі акадэмікаў В. Пашуто й Н. Вароніна. Цяпер ужо пад поглядам архэалягічнай асьвядомленасьці нам вядома, што гісторыя панёманскіх местаў ёсьць значна старэйшая ад летапісных вестак. Архэолягі дасьледавалі ня толькі панёманскія месты, але мястэчкі, гарадзішчы, селішчы ды курганы й раскопкі сталі больш сыстэматычнымі.

Можна спадзявацца, што лінгвісты Акадэміі Навук БССР запросяць замежных калегаў-лінгвістаў, каб супольна дасьледаваць гідронімы й тапанімы Панёманьня. Аднак у сучасным мамэньце, архэалягічныя знаходкі станоўляцца першакрыніцай і даюць мажлівасьці зырчэй зірнуць у мінулыя стагодзьдзі ды асэнсаваць гістарычны працэс Панёманьня ў XII і пачатку XIII ст.

Панёманьне было заселенае Балтамі, а славянская пэнатрацыя пачалася ў другой палове першага тысячагодзьдзя. (**3**, б. 180) Паколькі лінгвісты ўважалі, што гідронімы й тапанімы з суфіксам «да» можна лічыць за яцьвяскія, а архэолягі лічылі, што курганы зложаныя з каменьня адносяцца да яцьвяскага пахавальнага абраду, таму В. Сядоў спрабаваў апрацаваць карту яцьвяскай тэрыторыі. (**4**, б. 41) Карта В. Сядова выклікала дыскусію [5]), бо аказваецца, што Панёманьне было заселенае балцкім племям — Яцьвягамі. Мова Яцьвягаў была зьбліжанай да мовы славянскай [6]) і фактар гэты на нашу думку мог садзейнічаць раньняму зьяўленьню дрыгавіцкіх й крывіцкіх пасяленцаў у Панёманьні. (**7**, б. 135-137; **7а**, б. 54-65)

Інтэнсыўнае засяленьне Панёманьня Дрыгавічамі, прыпушчаем, пачалося, калі Ігар зьявіўся ў Кіяве. Дрыгавічы акупавалі правы бераг Дняпра, які быў важнай транзытнай артэрыяй і трэба было яе забясьпечыць. У дадатак, Ігар быў прагавітым, і за сваю прагавітасьць заплаціў галавой у Дрэўлянаў. Падобную прагавітасьць ён мог праяўляць да Дрыгавічоў. Усё дрыгавіцкае жыхарства не магло ўцякаць, калі пачаўся наступ Русі. Дрыгавічы пачалі шукаць дапамогі й зьвярнуліся ў Полацак. Паміж полацкімі Крывічамі й паўночнымі Дрыгавічамі наступіла аб'яднаньне, а паўдзённыя Дрыгавічы трапілі пад уладу Русі. Мажліва адсюль пачынаецца варожасьць Кіева й Полацка.

Пад 980 годам летапісец запісаў, як Уладзімер сватаўся да Рагнеды. Аднак у



 

апавяданьні маем устаўку, якая калечыць зьмест сватаўства *). Пад 1128 г. устаўка выпушчаная, але маем іншыя дэталі, а менавіта, вяльможа Дабрыня загадуе Уладзімеру публічна (ў прысутнасьці рагнедзіных бацькоў) згвалціць Рагнеду. (**8**, б. 299-300) Ведама, што Рагвалод не адмовіў Уладзімеру, ён запытаўся Рагнеды, каго яна хоча, дык чаму зьдзекавацца й губіць Рагвалода з сынамі? Мы думаем, што устаўка ў апавяданьне аб сватаўстве Уладзімера пра дрыгавіцкага князя Тура ня прыпадкова ўнесеная летапісцам. Дабрыня рэпрэзантаваў таксама інтарэсы Кіеўскай знаці, якой не даўпадобы было дрыгавіцка-полацкае паразумленьне.

На дрыгавіцкія гарады Заслаўе й Менск пачаліся паходы князёў Русі, але Дрыгавічы заўзята змагаліся з князямі Русі й дрыгавіцка-полацкая фэдарацыя не распалася, але частка жыхарства ратуючыся ад мяча Русі й няволі, шукала сховішча ў Панёманьні. Тыя паўдзённыя Дрыгавічы, што трапілі пад уладу князёў Русі, ня былі задаволеныя і шукалі прыпулку ў Панёманьні. Валынцы таксама ўцякаюць у Панёманьне, таму ў XI ст. «славянскае насельніцтва ў Беларускім Панёманьні становіцца дамінуючай этнічнай групай». (**7**, б. 131)

Панёманьне, паводле В. Сядова, засялялі Яцьвягі, але летувіскія археолягі сьведчаць, што паабапал вярхоўяў Мерачанкі, сярэдняга цячэньня Вільлі да возера Сьвір і ад Сьвянцянаў на Укмер і Варэну маецца іншы пахавальны абрад — усходня літоўскія курганы — які вырозьніваўся «особенностями погребального обряда от курганов остальной территории Литвы и юговосточной Латвии». (**9**, б. 47) Летувіскі археоляг А. Таўтавічус прапануе называць дадзеную тэрыторыю «літвой», а што датычыць «аўкштайтаў», аб якіх маем весткі ў пісьмовых крыніцах, дык на тэрыторыі Аўкштайты «восточнолитовские курганы не встречаются». (**7**, б. 56) У сувязі з тым, што ў X стагодзьдзі ўзмоцнілася калянізацыя Панёманьня з паўдня і ўсходу Дрыгавічамі, а з паўночнага-ўсходу Палачанамі-крывічамі й ў XI стагодзьдзі славянскі элемэнт стаў дамінуючым, таму «восточнолитовские курганы по своему внешнему виду почти не отличаются от курганов соседних славянских племен». (**9**, б. 50)

Панёманскія пасяленцы, калі ходзіць пра Дрыгавічоў, былі ўцекачамі з пад панаваньня Русі, а з Русьсю змагаецца Полацкае княства. Дзеля таго Панёманьне паступова становіцца пэрыфэрыяй Полацкага княства. Князі Русі накіроўваюць свае паходы ў Панёманьне. Мы прыпушчаем, што абарончыя ўмацаваньні панёманскіх местаў узьнікаюць ня супроць Яцьвягаў, але панёманскае жыхарства стараецца забясьпечыць свае паселішчы ад нападаў Русі. Такім чынам, панёманскія месты й мястэчкі нельга разглядаць як «фарпосты Русі», бо яны хутчэй за ўсё былі фарпостамі Полацкага княства.

Летапісы аднатоўваюць паходы князёў Русі на Яцьвягаў і на Літву, а археолягі, раскопваючы панёманскія месты, знаходзяць пласты вугольля, як доказ таго, што места было спаленае. Так у летапісах паход князя Русі Уладзімера аднатаваны пад 983 годам: «ідзе Уладзімер на Яцьвягі й перамог іх, і ўзяў зямлю іх». (**10**, б. 69) Падчас археалягічных раскопкаў у Ваўкавыску аказалася, што паселішча было

---

*) «...хощю пояти дщерь твою жене. Он же рече дъщери своеи, хощеши ли за Володимера. Она же рече, не хощю розути Володимера, но Ярополка хочю. Бе бо Рогволод перешел изъ заморыя, имяше волость свою Полотьске, а Туръ Турове, от него же и Туровци прозвашася. И придоша отроци Володимири и поведаша ему всю рець Рогнедину». ПСРЛ т. 2, М. 1962, б. 63-64.



зьнішчана пажарам прыблізна ў 980-990 гадох і пасьля пажару быў пабудаваны «моцны абарончый вал». (**11**, б. 20) Летапісец аднатаваў князя Русі Яраслава пад 1038 г., што ён хадзіў на Яцьвягаў, а ў 1040 годзе «хадзіў Яраслаў на Літву» (**10**, б. 141) Летапісец Вялікага Ноўгараду паведамляе, што Яраслаў хадзіў яшчэ раз на Літву ў 1044 годзе. (**12**, б. 181)

Паколькі Ваўкавыск быў спалены ў X стагодзьдзі, а Уладзімер у тым часе меў паход на Яцьвягаў, дык можна меркаваць, што ў 1038 годзе Яраслаў хадзіў у напрамку Ваўкавыска. Летапісец цяпер паўстрымаўся ад камэнтарыя: «перамог іх і ўзяў зямлю іх», што-б азначала, што паход Яраславаў ня быў удалым.

У якім-жа кірунку накіраваны паход Яраслава 1040 і 1044 гадоў? Калі жыхарства «ўсходня-літоўскіх курганоў» у VII-XI стагодзьдзях называла сябе «літвой», дык паселішчы Літвы маглі пачынацца на поўнач ад Наваградку, значыць, што Яраслаў ідучы на Літву — ішоў у кірунку Наваградка.

Археолягі выявілі ў Наваградку сьляды пажару прыблізна з паловы XI стагодзьдзя. Яны раскапалі невялічкі могільнік таксама з XI стагодзьдзя ды пытаюць: «якая прычына прымусіла наваградчанаў хаваць нябошчыкаў каля парогаў сваіх хатаў, калі гарадзкі могільнік быў тут-жа за горадам». (**13**, б. 22-23; **13а**, б. 39) Мы мяркуем, што Наваградак перажыў аблогу Яраслава, а таму жыхары змушаныя былі хаваць нябожчыкаў каля парогаў сваіх хатаў.

У гістарычнай навуцы пашыраецца вэрсія, што «Брачыслаў прыймаў удзел у паходзе Яраслава на Яцьвягаў у 1038 годзе й на Літву ў 1040 г.» (**14**, б. 10) Э. Загорульскі стараецца запярэчыць і кажа: «история Руси XI-XII вв. заполнена постоянной борьбой Полоцка с Киевом. Брачислав Изяславич «вся дни живота своего» воевал с Ярославом». (**15**, б. 10) Летапісы маўчаць што да ўдзелу Брачыслава па старане Яраслава, а скандынаўская сага аб конунгу Эймунду запярэчвае аб удзеле Брачыслава, як саюзьніка Яраслава. «Сага аб Эймундзе» (**16**, б. 89-104) мае шмат фантастыкі, але адначасна ў ёй маюцца каштоўныя й канкрэтныя інфармацыі. Праўдападобна, што ў сазе спалучаны некалькі падзеяў рознага часу ў адно апавяданьне, але ігнараваць нельга вельмі канкрэтнага факту, што паміж Брачыславам і Яраславам узьнікнуў канфлікт і жонка Яраслава, Інгігерда, зрабіла захады, каб князі зьмірыліся. Прычына канфлікту — Яраслаў патрабаваў ад Брачыслава нейкую тэрыторыю, якую Брачыслаў уважаў за сваю ўласнасьць. Пасьля замірэньня «Брачыслаў пражыў тры зімы й захварэў, і памёр». (**16**, б. 103) Вось-жа летапісы сьведчаць, што Брачыслаў памёр у 1044 годзе. Калі мы ад даты сьмерці Брачыслава адымем тры гады, то атрымоўваецца, што замірэньне Брачыслава зь Яраславам наступіла ў 1040-1041 гадох. Такім чынам, як мог полацкі князь Брачыслаў быць саўдзельнікам князя Русі Яраслава ў паходзе на Яцьвягаў і Літву ў 1038-1040 гадох, калі ён у тым самым часе быў у канфлікце з князем Яраславам?

Дзякуючы археалягічным раскопкам выявіўся культурны ўзравень Панёманшчыны, таму варта пазнаёміцца з матэрыяламі раскопкаў, асабліва з рэчамі прывезенымі, ці рэчамі мясцовай вытворчасьці, але сырэц якіх быў прывезены, як серабро й золата. Нельга быць абыякавым аб панёманскім будаўніцтве, бо панёманскія дойліды стварылі арыгінальныя помнікі, якія выклікаюць зьдзіўленьне й захапленьне.

З нагоды надыходу 400-лецьця народзінаў Сьцяпана Баторага, польскія ўлады вырашылі правесьці рэстаўрацыю палаца пабудаванага вялікім князем Сьцяпанам

Баторым у Горадні. Падчас нівэляцыйных работаў, пад наглядам Я. Ёдкоўскага, былі выяўленыя ня толькі ўмацаваньні старажытнага замку князя Вітаўта, але фундамэнт царквы значна старэйшага пэрыяду. Публікацыі Я. Ёдкоўскага зьдзівілі навукоўцаў і ўзьнікла дыскусія, крытыка й дамаганьні дэлегаваць археоляга З. Дурчэўскага для дасьледаваньня гарадзенскіх старажытнасьцяў. З. Дурчэўскі прыехаў у Горадню ў 1937 годзе, але палітычная канюктура ня была спрыяльная для далейшых дасьледаваньняў і З. Дурчэўскі вырашыў правесьці кансэрвацыю раскопак. Яны былі адноўленыя пад кіраўніцтвам Н. Вароніна ў 1947-1949 гадох.

Гарадзенская «Ніжняя» царква, так назваў яе З. Дурчэўскі, мае запазычанасьць з Полаччыны, а менавіта бакавыя абсыды схаваныя ў сьценах царквы, таму іх ня відаць звонку. Такім стылям пабудаваныя цэрквы ў Полацку: на дзядзінцу з 60-80 гадоў XII ст.; Спаска Афрасінеўскага манастыра ў пал. XII ст.; Барысаглебская, Бельчыцкага манастыра зь сярэдзіны XII ст.; Благавешчанская ў Віцебску з XII ст. (**17**, б. 94-100, таб. XI, н. 162, 167, 169, 172) У такім-жа стылі пабудаваныя цэрквы ў былым Смаленскім княстве: сабор сьв. Тройцы з канца XII ст.; сабор Спаскага манастыра з пачатку XIII ст.; Міхайлаўская царква з 1180-1190 гг.; царква на рачулцы Чурымаўка сутык XII-XIII стст.; Пятніцкая царква з пачатку XIII ст. і царква на Малой Ручаеўцы на сутыку XII-XIII стагодзьдзяў. (**17**, б. 81-91, таб. XIII, н. 132, 136, 137, 139, 146, 154) Пабудову гарадзенскай «Ніжняй» царквы Н. Варонін датаваў 1116-1141 гг. (**2**, б. 140), але П. Раппопорт уважае, што пабудова «Ніжняе» царквы адбылася ў пачатку другой паловы XII ст. (**17**, б. 102)

Памер плінфы (цэглы) «Ніжняе» царквы набліжаны да памераў плінфы сабору й царквы Бельчыцкага манастыра й кладка плінфы выкананая па рэцэпту полацкага будаўніцтва. Аднак гарадзенскія дойліды задумалі паказацца ўмельцамі новае, як унутраное, так і вонкавае кампазыцыі. Яны імкнуліся да стварэньня свае ўласнае архітэктурнае школы.

«Ніжняя» царква мела шэсьць квадратовых стаўбоў у сваёй аснове, але ў інтэр'еры царквы яны маюць зрэзаныя вуглы й было гэта навізной у збольшаньні ўнутранага абыйма царквы. Падкупальныя стаўбы ссунутыя назахад, стваралася асымэтрычнасьць, але пабольшыўся інтэр'ер царквы. Хоры мелі падвойную аркаду й высунутыя былі ў падкупальную прастору. Нартэкс быў вылажаны адшліфаванымі, уважліва дапасаванымі з падабраньнем шэрага й зялёнага колеру каменьнямі, нагадваючы народную гарадзенскую дзяружку. Падлога хораў была высланая маёлікавымі каляровымі пліткамі, нажаль яна абвалілася й нельга гаварыць аб яе ўзоры. Падлога інтэр'еру царквы таксама была вылажаная маёлікавымі пліткамі зялёнага, жоўтага й карычнявага колеру й пліткі былі рознага памеру й фасону. Найляпей захаваўся арнамэнт падкупальнае прасторы й ён цяпер поўнасьцю адноўлены М. Малеўскай. (**18**, б. 148, уклейка) Арнамэнт зьдзіўляе містэрна распрацаваным узорам, якому пакуль-што няма аналёгіі. Можна толькі дапушчаць, што гарадзенскія ўмельцы зачарпнулі ідэі з Бізантыі, або Блізкага Усходу, дзе квітнела дэкаратыўнае мастацтва, але гарадзенскія дэкаратары пастараліся дапасаваць да традыцыяў народнага мастацтва. Дзеля рэзанансу ў сьцены закладзены рознай вялічыні галасьнікі-амфары. Паколькі захаваліся сьцены вышынёй ад 2.5 да 3.5 мэтраў, дык аказалася, што яны звонку ўдэкараваныя адшліфаванымі рознакаляровымі гранітнымі й гнейсавымі валунамі. Такой дэкарацыі сьценаў ня было яшчэ ў Усходняй Эўропе да пабудовы «Ніжняе» царквы й цэркваў Прачысьценскае ды Барыса й Глеба ў Горадні. (**2**, 106-114, 122-128)



Дасьледаваньні «Ніжняе» царквы выявілі, што яна мела пазалочаны Іканастас, а на салеі знойдзеныя мядзяныя гравіраваныя, пазалочаныя «жженым золатам» іконкі, якія сваім «мастацкім эфэктам ня былі горшымі ад запраўдных залатых». (**2**, б. 101, 117, 118, 119) У інтэр'еры царквы былі знойдзеныя вылітыя фігуркі Хрыста й Дзімітра Салунскага. Яны былі пакрытыя золатам. (**2**, б. 119)

У «Ніжняй» царкве быў пахаваны мужчына, а пад ягонай галавой ляжала залатая істужка. Яна была аздобленая «мелким жемчугом и бисером... и не имеет аналогий в древнерусской орнаментике». (**2**, б. 180) На пальцы левай рукі ён меў залаты пярсьцёнак з чырвоным каменям-вочкам; гняздо-ж гэтага вочка трымаюць галовы львоў. (**2**, б. 181) Залатыя пярсьцёнкі на руках нябожчыкаў — зьява даволі рэдкая, а арнамэнтацыя гнязда львінымі галовамі робіць пярсьцёнак амаль унікальным.

Недалёка спачываў таксама мужчына. Ён быў апаясаны «золататканымі паясамі». (**2**, б. 181) Там-жа пахаваная была дзяўчынка, якая мела каралі. Паміж пацеркамі былі завешаныя дзьве ракавіны каўры. (**2**, б. 179) Ракавіны каўры ў часе архэалягічных раскопкаў сустракаюцца даволі рэдка, і былі яны дарагім упрыгожаньнем для жанчынаў, бо паходзяць зь Індыйскага акіяну.

У Горадні архэолягі знайшлі адломкі толькі 7-мі амфараў, у якіх прывозілі паўдзённае віно і алеі. Аднак сустрэліся адломкі парцэлянавага начыньня, пакрытыя люстровай размалёўкай. Асаблівае зацікаўленьне выклікае парцэлянавая талерка, бардзюр якой упрыгожаны «чешуйчатым» арнамэнтам, а дно — арнамэнтам у выглядзе пчаліных сотаў зь сінімі, зялёнымі й чырвонымі вочкамі. (**2**, б 60) Н. Варонін паўстрымаўся выказаць меркаваньне аб паходжаньні парцэлянавага начыньня, але апісаны ім арнамэнт здраджае краіну вытворчасьці. Яна паходзіць з Пэрсыі-Ірану, дзе модным быў арнамэнт «honey comb and pigeon eye». **19**, p. 11) Мы не сумняваемся, што Н. Варонін ведаў дзе падобная парцэляна выраблялася, але паўстрымаўся назваць краіну, ён толькі сказаў: сустрэліся адломкі дарагога імпартаванага посуду. (**2**, б. 60) Паўстрыманасьць Н. Вароніна паясьняе Ф. Гурэвіч: «спроба прасачыць якіясь узаемасувязі... на тэрыторыі Беларусі з краінамі Блізкага Усходу магла выклікаць толькі зьдзіўленьне». (**20**, б. 34)

Адломкі тонкасьценнага шклянога начыньня доўгія гады не дасьледаваліся*) й толькі цяпер мы даведаліся, што пацерка з чорнага шкла й трыма вочкамі ёсьць замежнага імпарту. (**21**, б. 100) Фрагмэнт з чорнага глушонага й цёмнага празрыстага шкла, якое на сьвятле дае фіялетавае адценьне; адломкі графіна, што размалёваны золатам, чырвонай і зялёнай эмальлю; адломкі сьлязьніцаў зь сьветласіняга шкла, якія размаляваныя белай эмальлю; адломкі шклянкаў зь бясколернага шкла, але аздобеныя чырвонай, блакітнай і жоўтай эмальлю, а на кантурах заўважваюцца сьляды размалёўкі золатам; кавалачкі блакітнага празрыстага тонкасьценнага шкла, на якіх відаць белую эмаль — усе яны ёсьць замежнага паходжань-

---

*) М. Яніцкая зрабіла вялікую паслугу падаючы дакладнае апісаньне шклянога начыньня, але з выснавамі яе, што шкляное начыньне мясцовай вытворчасьці — нельга згадзіцца. Падобныя экзампляры былі знойдзеныя ў Наваградку й дасьледчыкі пераканаўча даказалі, што яны бізантыйскага й сырыйскага паходжаньня.

Ф.Д. Гуревич, Р. М. Джанполадян, М. В. Малевская: Восточное стекло в Древней Руси. Л. 1968, б. 8-15; таксама гл. СА I, М. 1966, б. 312-315; ВВ XIX, М. 1961, б. 166-171.

ня, бізантыйскай або сырыйскай вытворчасьці. (**21**, б. 101-108)

М. Яніцкая аглядаючы, сартуючы і апісваючы горадзенскія шкляныя знаходкі, адшукала адломкі воканнага шкла, якое, на жаль, не паддалі хэмічнай аналізе й таму ня ёсьць ведамым, ці яно мясцовае, ці імпартаванае. Шкло было зялёнага колеру, але па версе маецца роспіс глушоным шэра-бэжавым колерам шкла. М. Яніцкая мяркуе, што гэта адломкі ад ваконнага вітражу царквы й кажа: «апублікаваныя матэрыялы не ўпамінаюць знаходкі расьпіснога шкла падобнага колеру ў іншых старажытнарускіх гарадох». (**21**, б. 105-106) Такім чынам, мы маем яшчэ адну дэталь што да «Ніжняй» царквы — ваконныя вітражы.

На беразе Нёману й Гараднічанкі стаіць царква Барыса й Глеба, але больш яна вядомая, як Каложская царква. Гэтае імя яна атрымала, праўдападобна пасьля 1405 году, калі кн. Вітаўт пасяліў тут палонных псковічаў — жыхароў Каложы. Каложскай царквой аддаўна цікавіліся архітэктары, мастацтвазнаўцы, гісторыкі ды дапытлівыя асобы, а ў XX ст. зацікавіліся археолягі. Аднак, нягледзячы на ўсеагульнае зацікаўленьне і адарацыю, на багатую бібліяграфію, — царква стаіць абдзёртая, паўразваленая ды трымаецца яна на трох сьценах, а хвалі Нёмана дзяўбуць, падмываюць бераг. Ці знойдзе яна спаўчуцьцё? Ці можа Нёман утуліць у сваіх хвалях унікальны помнік царкоўнага будаўніцтва XII стагодзьдзя, шэдэўр горадзенскага дойлідства й жывога сьведку Панёманскае старасьветчыны?

Царква Барыса й Глеба трох абсыдная і абсыды выступаюць навонкі. Сваяцтва з Полаччынай мы заўважваем у памерах плінфы й кладкі яе на белай цемянцы.

Звонку, каб прыдаць вэртыкальнасьць, на лапаткі накладзеныя «пучкавыя пілястры», амаль ня сустрэтая асаблівасьць для ўсходнеславянскай архітэктуры XII стагодзьдзя. Сьцены інкустраваныя дасканальна адшліфаванымі рознакаляровымі гранітнымі й гнейсавымі валунамі, але дэкаратыўны матыў прадуманы. Валуны пры цокалі вялікія, і гама колераў іх цёмная, але чым вышэй, тым сьвятлейшая, каб на ўзроўні алтарных вокнаў аддаць старшынства пяшчотлівым маёлікавым каляровым пліткам. Яны так разьмешчаныя, каб адлюстроўвалі народны арнамэнт вышыты крыжыкамі. Трэба сказаць, што горадзенскія народныя ўмельцы пастараліся змайстраваць дэкаратыўнае панно, каб аглядаючы сьледкаваў за ўзорам і падняў свае вочы ўвысь, дзе на фоне сінеючага неба йскрыўся сымбаль хрысьціянства — Крыж. На сутыку XV-XVI стагодзьдзяў дах і купалы абваліліся, а таму мы ня ведаем аб іх стылю й форме.

Калі мы ўваходзім праз абрамаваны калёнамі партал, дык заўважваем, што нартэкс высока падняты й не паўмрок і таямнічасьць нас сустракае. Мы адразу бачым заліты сонечным сьвятлом інтар царквы, які мае зальны, палатны выгляд. Горадзенскія архітэктары ўпяршыню ўвялі гонкія калёны й гэтым надалі стрункасьць, дынаміку й лёгкасьць царкве. Вакол сьценаў праходзяць не масыўныя мураваныя галярэі, але драўляныя бальконы, каб падкрэсьлівалі зграбнасьць і дэлікатнасьць будоўлі. А каб увыдатніць вэртыкальнасьць, увялі вузкія нішы ў сьценах і на лапатках сьцен у якіх у поўны рост была скульптура або фрэскавая роспісь сьвятых. Сёньня нішы стаяць замураваныя. Сьцены не пакрывала штакатурка, а чырвоная цэгла на белай цэмянцы стварала асаблівы калярыт і адначасна напамінала аб будаўлянай тэхніцы й сваяцтву з далёкай Полаччынай.

Горадзенскія дойліды чульлівыя былі да царкоўнае музыкі й, каб узмоцніць рэзананс, дык замовілі ў горадзенскіх ганчароў рознага памеру й фасону амфары, якія ўмуравалі ў сьцены. Падлога была вылажаная жоўтымі, зялёнымі й карычневымі маёлікавымі пліткамі, толькі яна так зьнішчана, што немагчыма ўявіць яе мастацкага ўзору. У алтары і алтарных абсыдах знаходзілася фрэскавая роспісь да XIX стагодзьдзя. Алтарная частка ня была асьветленая сонечным сьвятлом, яна была паўзмрочная, каб прыдаць эмацыянальны эфэкт, каб эстэтычна ўзьдзеяць на людзей падчас маленьня. Іканастас асьвятляўся запаленымі сьвечкамі. Царква пабудаваная ў пачатку 80-ых гадоў XII стагодзьдзя. (**2**, б. 83-104, 137-148)



У царкве Барыса й Глеба знайшлі бронзавага вадалея. В. П. Даркевіч уважае, што адліты быў у Гідэльсгайме, у Ніжняй Саксоніі ў першай палове XIII ст. (**22**, б. 27-28) Дасьледчыкі вадалеяў О. Фалькэ і Е. Мэйер маюць іншую думку, паводле іх горадзенскі вадалей: «aber nicht zur Hidelsheimer Gruppe». (**23**, р. 43, 47) Яны ўважаюць, што маюцца вельмі блізкія аналёгіі горадзенскага вадалея з вадалеямі пад нумарамі 253 і 254, якія зьяўляюцца скандынаўскага паходжаньня з XII стагодзьдзя. Такім чынам, мы лічым, што В. Антаневіч і Н. Варонін правільна паставілі дату горадзенскаму вадалею XII стагодзьдзе. (**2**, б. 99-100)

У 1977 годзе ўлады пастанавілі адчыніць музэй атэізму ў кляштары базыльянак у Горадні. Кляштарам зацікавіўся археоляг Іван Чарняўскі. Ён адразу заўважыў, што маецца нераўнавага архітэктурна-плянавай кампазыцыі кляштарнага комплекса, таму пачаў раскопкі. У 1980 годзе ён раскапаў руіны няведамай царквы з XII стагодзьдзя, якія былі на захад ад існуючай царквы. І. Чарняўскі пачаў архіўныя пошукі й высьветліў, што да пабудовы кляштара базыльянак у 1720 годзе на гэтым месцы знайходзілася старажытная Прачысьценская саборная царква й час яе пабудовы няведамы.

Раскапаная царква мае падабенства да «Ніжняе» й Каложскае цэркваў. Фасад яе аздоблены ўстаўкамі адшліфаваных камянёў розных памераў і адценяў ды таксама рознакаляровымі маёлікавымі пліткамі. Арыгінальнасьць Прачысьценскай царквы ў тым, што яна трох абсыдная, але абсыды ўнутры й навонкі прастакутныя. Бакавыя абсыды, як і ў «Ніжняй» царкве, схаваныя ў усходняй сьцяне, а цэнтральная выступае навонкі. У цэнтральнай абсыдзе дзьве вельмі цікавыя канструкцыі з плінфы — цагляны прастол, і пры самай сьцяне з фігурным абрысам сінтрон (горнае места). Яно ў старажытнасьці прызначанае было для ўстанаўленьня крэсла-трону архіпастыра (мітрапаліта, архіяпіскапа, япіскапа). Вось-жа, пісьмовыя крыніцы маўклівыя, што ў Горадні была япіскопія, а ў Прачысьценскай царкве сітрон сьведчыць, што быў тут архірэй.

Сьцены царквы былі не аштакатураныя й мелі галасьнікі. Падлога вылажаная рознакаляровымі пліткамі жоўтага, зялёнага й карычневага колераў. Найбольшай прыгажосьцю вызначаўся малюнак у падкупальнай прасторы, маючы ў аснове сваёй кругавую кампазыцыю, вылажаную дробнымі рознага памеру й фасону пліткамі. Ад бакавых парталаў да падкупальнай прасторы праходзіла дарожка з квадратных каляровых плітак, абмежаваная двайнымі пасамі з трапэцападобных плітак, а прамежак запоўнены маленькімі трыкутнікамі. Такім чынам утвараўся прыгожы дыван падлогі

Дах пакрыты сьвінцом падтрымоўваўся шасьцю слупамі-пілонамі са скошанымі вугламі. Слупы заходняй і сярэдняй пар больш магутныя за ўсходнюю пару, значыць купал царквы падтрымліваўся заходнімі й сярэднімі стаўбамі й аказаўся крыху зсунутым на захад. Царква мела тры парталы, а прыступкі пры ўваходзе сьведчаць, што яна была паднятая над паверхняй зямлі.

Дасьледчыкі Прачысьценскай царквы мяркуюць, што яна была пабудаваная

некалькі год пасьля пабудовы «Ніжняе» царквы. Падабенства пляну, аднолькавыя інжынерныя памылкі дапушчаныя пры іх будове, выклікаюць меркаваньне, што будавалі іх тыя самыя дойліды.

Падчас раскопкаў Прачысьценскае царквы І. Чарняўскі знаходзіў рэчы з XI ст. Больш таго, царква стаіць на культурным пласьце XI стагодзьдзя. Значыць, узьнікае сумніў што да ранейшых разважаньняў аб заснаваньні Горадні й ня будзе выключаным, што Горадня значна старэйшая — таму далейшыя раскопкі ёсьць неабходныя. (**24**, б. 34-36; **17**, б. 103)

У Горадні знойдзена каменная шахматная фігурка — тура. Яна, праўдападобна, выразана мясцовым умельцам і зь мясцовай пароды каменя, але яна ўсхвалявала дасьледчыкаў, бо «унікальнасьць мініятурнай скульптуры й... дасканаласьць мастацкага выкананьня» (**2**, б. 75) выклікае зьдзіўленьне. Тут паказана канструкцыя баявога марскога й вялікарэчнага судна. Гарадзенскі рэзчык ня толькі пасьведчыў знаёмасьць з «ладзьдзёй», але азнаямленьне з захадня-эўрапэйскім узбраеньнем, зьмяшчаючы міндалепадобныя шчыты XII стагодзьдзя.

— * —

Археоляг В. Тарасенка ў 1956 годзе на ўзгорку «Замчышча» ў Ваўкавыску раскапаў фундамэнты царквы, але грунтоўнае дасьледаваньне было праведзенае толькі 10 год пазьней. (**25**, б. 420-428) Аказалася, што недалёка ад падмурка царквы была зложаная радамі нявыкарыстаная плінфа (цэгла) й гэта наводзіць на думку, што праца каля царквы была спыненая нейкай падзеяй. «Ніжняя» царква ў Горадні й Ваўкавыская на «Замчышчы» — гэта дзьве родныя сястрыцы, так яны падобныя адна на адну. Бакавыя абсыды схаваныя ў усходняй сьцяне. Дах мелі ўтрымліваць шэсьць слупоў. Купал зсунуты на захад. Фасад мелі аздабляць адшліфаванымі гранітнымі й гнейсавымі валунамі, шэрага, зялёнага, розавага й чырвонага колераў. Валуны ляжалі недалёка падмурка. На плінфе маюцца рэлефныя знакі цагельняў і падобныя знакі сустракаем у Горадні. Памер плінфы адпавядае памерам гарадзенскіх будоўляў і, такім чынам, пераклікаецца з Полаччынай. (**2**, б. 139; **17**, б. 104) Паколькі Варонін датаваў «Ніжнюю» царкву першай паловай XII ст., а ваўкавыская царква сястра гарадзенскай царкве, дык маем усе асновы сказаць, што будаўніцтва было спыненае ў сувязі з нападамі князя Русі Яраслава на Панёманшчыну ў 1038-1044 гадох. Такім чынам маем яшчэ адзін доказ, што панёманскія месты ня былі «фарпостамі Русі» й князі Русі ня былі будаўнікамі, але зьнішчальнікамі панёманскіх местаў.

Аднак ваўкавыская царква мае арыгінальнасьці. Яна вельмі дакладна ар'ентаваная па старонам сьвету й П. Раппопорт кажа: «гэта даволі рэдкая зьява для рускіх цэркваў таго часу». (**26**, б. 240) У паўдзённа-заходнім куце залягае падмурак пад чатырохкутную вежу, прызначэньне якой застаецца загадкай. Уздоўж паўдзённае й паўночнае сьценаў залягае другі падмурак, прызначэньне якога ня могуць дасьледчыкі разгадаць, бо таўшчына арыгінальнае сьцяны прыблізна 1.5 мэтра, дык узмацняць яе ня было патрэбы.

Запазычанасьць з Полацку — ня толькі памер плінфы, але крыжападобныя слупы на якіх спачываў-бы дах і купал царквы.

Раскопкі на «Швэдзкай гары» ў Ваўкавыску выявілі, што паселішча ўзьнікла ў пачатку другой паловы X стагодзьдзя, а ў палове XII стагодзьдзя становіцца «княжым замкам». (**9**, б. 142) Таму ня дзіў, што калекцыя ўзбраеньня ў Ваўкавыску



зьяўляецца самай багатай у Беларусі. Тут знойдзены часткі ад мячоў, баявыя сякеры, наканечнікі дзідаў, пікаў, стрэлаў і самастрэлаў. Мы маем мажлівасьці пазнаёміцца з кальчугай, інкустраванымі шпорамі, накладкамі ад лукаў і умбонамі. Зацікаўленьне й зьдзіўленьне выклікае вялікая колькасьць (63.7%) утулчатых наканечнікаў, а ўтулчатыя наканечнікі для Русі й насяленьня Усходняе Эўропы ня ёсьць характэрнымі, яны складаюць усяго 1% у параўнаньні з хвосьцікавымі наканечнікамі. (**27**, б. 54) Затое ў Цэнтральнай і Заходняй Эўропе яны былі шырока распаўсюджаныя. Падобнае зьявішча маем з арбалетнымі наканечнікамі, іх у Ваўкавыску знойдзена 7 штук; 3 экзампляры тыпу 15 знойдзены толькі ў Ваўкавыску й Навагрудку, але не на тэрыторыі Русі. (**27**, б. 95); 1 наканечнік тыпу 16 да Ваўкавыскіх раскопкаў зусім ня быў вядомым. (**27**, б. 96) Аднак такія наканечнікі вядомыя заходня-эўрапэйскаму рыцарству.

У Ваўкавыску знойдзена залаты пярсьцёнак. (**11**, б. 40) Тут знайшлі ня толькі кавалачкі серабра, але цэлыя зьліткі, адзін зь іх важыў 69.5 гр., а другі— у некалькі кіляграмаў. (**11**, б. 40, 82) Маючы шляхотны мэтал, як сырэц, ваўкавыскія ювэліры выкарыстоўвалі серабро для вырабу кольцаў, пярсьцёнкаў, пражкаў, розных накладкаў, ажурных прывескаў, інкустрацыі шпораў і ўтулкаў дзідаў, а таксама ўжывалі як складнік для сплаваў. (**11**, б. 40, 101, 115; **28**, б. 310)

У Ваўкавыску знойдзена 4 кніжныя засьцежкі, а на адной відаць пазалоту; 13 стыляў (пісалаў); прасьлічкі з выдрапанымі славянскімі літарамі й сказамі — наяўны доказ, што пісьменства пашыранае было паміж мяшчан у XII ст. (**11**, б. 124-126; **29**, б. 294; **29а**, б. 147-148)

Наагул шыферных прасьлічкаў знойдзена 224 экз., значыць ткацтва было на высокім узроўні, хоць ваўкавыская глеба тканінаў не перахоўвае. Прыблізна 13% шкляных бранзалетак і 20% пацеркаў былі бізантыйскай вытворчасьці, але ёсьць пацеркі, якія паводле хімічнага складу шкла славянскія, а паводле тэхналёгіі выкананьня — бізантыйскія. Такое «спалучэньне сустрэнута першы раз». (**30**, б. 164) Сем пацеркаў зь сердаліка й дзьве з горнага крышталю, праўдападобна, прывезеныя зь Сярэдняга Усходу. Прывезенымі адтуль былі танкасьценныя начыньні, але зь іх захаваліся толькі дробныя фрагмэнты. Маецца шмат адломкаў тонкасьценнага сіняга, зялёнага, жоўтага, фіялетавага празрыстага колеру шкла й некаторыя адломкі маюць арнамэнтацыю «хвалістымі лініямі». Можна здагадвацца, што гутарка ідзе аб арнамэнтацыю «ніцямі», у такім выпадку некаторыя экзампляры шклянога посуда маглі быць сырыйскага паходжаньня. (**11**, б. 76178; **31**, б. 13)

У Ваўкавыску знойдзена 1600 адломкаў амфараў і больш за 30 адломкаў вაконнага шкла, якое аказалася паводле хэмічнага складу — шклом заходня-эўрапэйскага паходжаньня. (85%) (**30**, б. 164) Археолягі раскопваючы гарады Русі знаходзяць ваконнае шкло пераважна ў цэрквах, але ня ў хатах мяшчан. (**32**, б. 242) Вынятак становіць Вялікі Ноўгарад, дзе на 1000 раскопаных хатаў 9 мелі зашклёныя вокны. У Ваўкавыску, на «Швэдзкай гары» амаль кожная заможнейшая хата мела зашклёныя вокны. (**11**, б. 24)

У Ваўкавыску былі знойдзеныя вельмі рэдкія імпартаваныя прадметы, як ракавіны каўры й ракавіны якогась зь цёплых водаў малюска. (**11**, б. 80) Знайшлі таксама ўнікальныя знаходкі. Першы раз на тэрыторыі СССР знайшлі косьці птушкі павы. (**11**, б. 137) Касьцяное наверсе, якое было аздобаю багатага цараманіяльнага складанага крэсла. Такога тыпу крэсла faldistorium выкарыстоўваліся захадня-эўрапэйскай царкоўнай і сьвецкай арыстакрацыяй як палёвыя, паходныя

пасады-троны ў XII-XIII стагодзьдзях. Мейсцам вырабу іх уважаецца паўдзённая Нямеччына. (**34**, б. 105-109; **22**, б. 28-29) Касьцяная іконка правай стараны трыпціха не дараўноўвае вырабам канстантынопальскім касьцярэзаў, таму прыпушчэньне, што яна выразана ваўкавыскім майстрам. (**11**, б. 128) Трыпціхі-ж былі распаўсюджаныя ў Бізантыі й Заходняй Эўропе, але на абшары Усходняе Эўропы ня ёсьць вядомыя, дык як маглі вырэзваць яе ў Ваўкавыску й «па бізантыйскаму ўзору»? (**11**, б. 128) Дапусьцім, што меркаваньні мастацтвазнаўцаў правільныя, што выразаў яе панёманскі майстра паводле бізантыйскага ўзору ў XII ст. Такім парадкам панёманскі майстра адведаў Канстантынопаль і ня выключаным, што ня толькі ўважліва прыглядзіўся тэхніцы канстантынопальскіх касьцярэзаў, але быў нейкі час вучнем, калі наважыўся спаборнічаць.

Цікавай і загадкавай знаходкай ёсьць мядзяны, гравіраваны, пазалочаны мэдальён «Димитры» (**9**, б. 175) На мэдальёне прадстаўлены конны рыцар, які вакол галавы мае німб — значыць кананізаваны, але не царквой, бо традыцыйнае «А» (агіос) адсутнічае. Мастак праз жывы разварот фігуры рыцара пасьведчыў, што паказаны тут рэальны рыцар-князь. Такім чынам «иконографический извод изображения Димитрия совершенно необычен». (**35**, б. 30) Галава пад шоламам прыкрытая капюшонам і становіць з кальчугай адну цэласьць. Такога тыпу адзеньне ўзбраеньне было характэрным для заходня-эўрапэйскага рыцарства. (**35**, б. 31) Шолам, які мы бачым на галаве ў рыцара-князя, і шчыт, якім ён засланяецца, бывалі ў Заходняй Эўропе ў X-XII стагодзьдзях. Значыць, тут паказана «изображение не византийского и не русского, но западно-европейского рыцаря». **35**, б. 31) Дзеля таго, знаходка мэдальёна ёсьць «миниатюрный, но драгоценный памятник изобразительного исскуства XII в. западнорусских княжеств» (**35**, б. 32)

Тры валавяныя пячаткі былі знойдзены ў Ваўкавыску. Адна дрэннай захаванасьці, але другая даволі добрая й на ёй з аднаго боку аблічча сьв. Сымона; з адваротнага-ж боку малюнак шасьціканцовага квітнеючага крыжа (афрасінеўскага). В. Янін кажа, што яе можна «бяспрэчна зьвязваць з княжай сфрагістыкай заходнярускімі вобласьцямі» (**36**, т., б. 152) Трэцяя пячатка добрай захаванасьці мае 23 мм. дыямэтрам і знойдзеная яна была ўнеспадзеўкі, паколькі на ёй маем «изображение самога князя». (**9**, б. 173) На пячатцы князь паказаны ў поўны рост. Ён стаіць, у левай руцэ трымае круглы шчыт, у правай — дзіду, а на галаве шапка ў выглядзе кароны. Пячатка зьяўляецца ўзорам дэтальнага мастацкага выкананьня. На ёй вакол постаці грэцкі напіс-легенда. В. Янін чытае — «Дімітрэос», а Г. Пех напіс на ваўкавыскай пячатцы расчытаў: «Ді(мітрі) оспо(дарь)». (**37**, б. 271) Інфармацыя Г. Пеха інтрыгуючая, але мы паўстрымоўваемся ад камэнтарыяў, паколькі ня маем дакладнае, выразнае фатаграфіі, бо кніжныя рэпрадукцыі цьмяныя. На адваротным баку пячаткі не «розетка», (**36**, т. 1, б. 167) але грэцкі роўнараменны крыж, вакол якога, як арнамэнт, абведзеныя дзьве лініі.

В. Янін трэцюю ваўкавыскую пячатку «Дзьмітры» прыпісаў кіеўскаму князю Ізяславу Яраславічу (княжыў з перапынкамі ў Кіяве 1054-1073 гг.) толькі таму, што хроснае імя Ізяслава — Дзьмітро вядомае зь летапісаў. (**36**, т. 1, б. 35) Нас вельмі зьдзіўляе дэцызія В. Яніна. Ваўкавыская пячатка сваім памерам, легендай, кампазыцыяй (авэрс і рывэрс) і мастацкасфцю выкананьня вырозьніваецца ў групе пячатак Ізяслава Яраславіча. Таксама сумніўна, каб Ізяслаў Яраславіч за 18 год панаваньня ў Кіяве стварыў 6 варыянтаў пячатак, а сучасьнік ягоны, які ў 1068-1069 гг быў кіеўскім князем, легендарны полацкі князь, аб якім народ



Русі стварыў эпас, (**37**, б. 13-86; **37а**, б. 85, 91-98) а летапісец сьмерць ягоную запісаў: «1101 г., месяца красавіка, у 14 дзень, у сераду, у 9 гадзін раніцы» (**38**, б. 182) — быў без пячаткі. Ці знойдзем мы такія дакладнасьці сьмерці аб князёх Русі? Дакладнасьць сьмерці полацкага князя Усеслава Брачыславіча вымоўна сьведчыць, што была гэта асабістасьць надзвычайная, таму назвалі яго «Чарадзеем».

Летапісы не запісалі хроснае імя Усеслава Чарадзея, але ніхто ня мае сумліву, што ён быў хрысьціянінам, таму дасьледуючы пячаткі XII ст. мы павінны мець факт гэты на ўвазе, што Усеслаў Чарадзей пракняжыўшы 57 год напэўна карыстаўся пячаткамі. Дзеля гэтага мы наважыліся выказаць меркаваньні, ці мы маем зьбег акалічнасьцяў, ці ўзаемасувязь што да знойдзеных рэчаў. Вось-жа ў Горадні мы маем скульптуру сьв. Дзьмітра (Салунскага), у Ваўкавыску — мэдальён «Дімітры» й пячатку «Дімітрэос», а паводле Г. Пеха «Дімітры осподар», у Полацку крыж сьв. Афрасіньні, на дзяржальні із задняй стараны ўстаўленыя мошчы і іконка сьв. Дзьмітрыя, а на вонкавай старане дзяржальні маем іконку сьв. Юрыя (патрона бацькі сьв. Афрасіньні). Узьнікае пытаньне, ці хтосьці з дынастыі полацкіх князёў меў хроснае імя Дзьмітра? Дакладней кажучы, ці полацкі князь Усеслаў Чарадзей меў хроснае імя Дзьмітрыя? Такім чынам цьверджаньне В. Яніна, што пячаткі XII ст. зь імём Дзьмітра можна замацаваць за кіеўскім князем Ізяславам Яраславічам выклікаюць засьцярогі й было-б вельмі пажаданым, каб В. Янін адклікаў сваё цьверджаньне й пытаньне пячатак пакінуў адкрытым, асабліва ваўкавыскую пячатку і ідэнтычныя пачаткі да ваўкавыскай знаходкі. (**36**, т.1, таб. 33, нум. 5, 1 і 5, 2)

— * —

Над рэчкаю Шчараю распаложана мястэчка Слонім. Раскопкі ў Слоніме пачаў Г. Пех у 1959 годзе. Я Зьвяруга з 1968 году кіруе раскопкамі і аказваецца, што Слонім узьнік на сутыку XI-XII стагодзьдзяў. Дасьледчыкі кажуць, што Слонім у другой палове XII стагодзьдзя стаўся «багатым і добраўпарадкаваным местам». **9**, б. 148) Археолягі знайшлі ў Слоніме стыль (пісала), адломкі ад дзевяці амфараў, залатую ажурную падвеску, «листовое золото»; медзяны збаночак «элегантнай работы», такія збаночкі выраблялiся ў Сярэдняй Азіі; жалезны шолам з наносьнікам, адрозны ад вядомых шоламаў Русі XII стагодзьдзя, але такія шоламы бывалі ў Скандынавіі, ды самае цікавае, адломак тонкасьценнага шкла, арнамэнтнванага золатам і адломак пасудзіны з арабскімі літарамі (напісам — Салім). (**40**, б. 251, 254, 259-260, 269-270, 273; **41**, б. 32, 36,38,40)

---

Скароты: АО — Археологические Открытия
КСИА — Краткие Сообщения Института Археологии
КСИИМК — Краткие Сообщения Института Истории Материальной Культуры
МИА — Материалы и исследования по археологии СССР
ПСРЛ — Полное Собрание Русских Летописей
СА — Советская Археология
САИ — Свод археологических источников

1. В. Т. Пашуто. Образование Литовскоко государства. М. 1959
2. Н. Н. Воронин. Древнее Гродно. МИА 41, М. 1954

3. Ф. Д. Гуревич. Этнический состав населения Верхнего Понеманья по археологическим данным второй половины I тысячелетия н. э. «Исследования по археологии СССР» (сб. в честь М. И. Артамонова) Л. 1961
4. В. В. Седов. Курганы ятвягов. СА 4, М. 1954
5. В. В. Седов. Заселяли ли ятвяги Южную Литву? СА 2, М. 1968
Acta Baltico-Slavica IX, Oss. 1976, pp. 83, 86-87
Rocznik Białostocki XIV, W-a 1981, pp. 78, 126-135
6. J. Otrębski. Zagadnienia Galindów. "Studia Historica" w 35-lecie pracy naukowej H. Lowmiańskiego. W-a 1958, p. 39-40
J. Nalepa. Przyczynek do znajomości toponomastyki i mowy Jaćwięgów. "Acta Baltico-Slavica III, Białystok 1966, p. 132
7. Ф. Д. Гуревич. Древности Белорусского Понеманья. М-Л. 1962
7а. Ф. Д. Гуревич. О длинных и удлиненных курганах в Западной Белоруссии. КС ИИМК 72, М. 1958
8. Лаврентьевская летопись. ПСРЛ I, М. 1962
9. Очерки по археолоии Белоруссии, ч. II, Мн. 1972
10. Ипатьевская летопись. ПСРЛ II, М. 1962
11. Я. Г. Зверуго. Древний Волковыск. Мн. 1975
12. Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. М-Л. 1950
13. Ф. Д. Гуревич. Древний Новогрудок. Л. 1981
13а. К. В. Павлова. Могильник на територии окольного города древнего Новогрудка. КСИА 110, М. 1967
14. Г. В. Штыхов. Древний Полоцк. Мн. 1975
15. Э. М. Загорульский. Возникновение Минска. Мн. 1982
16. Е. А. Рыдзевская. Древняя Русь и Скандинавия IX-XIV вв. М. 1978
17. П. А. Раппопорт. Русская архитектура X-XIII вв. СНИ-ЕI-47, Л. 1982
18. М. В. Малевская. К реконструкции майоликового пола Нижней церкви в Гродно. «Культура Древней Руси» сб. 40-летию научной деятельности Н. Н. Воронина. М. 1966
19. C. J. Lamm. Glass from Iran in the national museum in Stockholm. Stockholm 1935
20. Ф. Д. Гуревич. Ближневосточные изделия в древнерусских городах Белоруссии. «Славяне и Русь» М. 1968
21. М. М. Яніцкая. Вытокі шкларобства Беларусі. Мн. 1980
22. В. П. Даркевич. Произведения западного художественного ремесла в Восточной Европе (X-XIV вв.) САИ-ЕI-57. М. 1966
23. O. Falke, E. Meyer. Romanische Leuchter und Gefasse Giessefässe der Gotic (Bronzegerate des Mittelalters) Berlin 1935
24. I. М. Чарняўскі, Г. П. Жарова. Нечаканае адкрыцьцё. «Помнікі гісторыі й культуры Беларусі» 4, Мн. 1982
25. М. К. Каргер. К вопросу о памятниках зодчества XII в. в Волковыске. «Славяне и Русь», М. 1968
26. П. А. Раппопорт. Раскопки в Волковыске в 1959 г. СА I, М. 1963
27. А. Ф. Медведев. Ручное метательное оружие (лук и стрелы, самострелы) САИ-ЕI-36, М. 1966
28. Я. Г. Зверуго. Раскопки на городище Муравельник в Волковыске. АО за 1970 год. М. 1971
29. Я. Г. Зверуго. Некоторие итоги раскопок Волковыска. «Древности Белоруссии», Мн. 1966
30. Д. В. Наумов. Стекляные изделия древнего Волковыска. «Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии». Мн. 1969
31. Ф. Д. Гуревич, Р. М. Джанполадян, М. В. Малевская. Восточное стекло в Древней Руси. Л. 1968
32. Ф. Д. Гуревич. Об окольном городе летописного Новогородка X-XIII вв. СА I, М. 1962
33. Ю. Л. щапова. Стекляные изделия древнего Новгорода. МИА 117, М. 1963
34. В. П. Даркевич. Костяное навершие из Волковыска. КСИА 96, М. 1963
35. Н. Н. Воронин. Находки в Гродно и Волковыске. КСИИМК 62, М. 1956
36. В. Л. Янин. Актовые печати Древней Руси X-XV вв. т. I, М. 1970
37. В. Р. Тарасенко. Раскопки городища «Шведская гора» в Волковыске. «Материалы по археологии БССР». Мн. 1957
38. R. Jakobson, M. Szeftel. The Vseslav Epes. "American Folklore Society, Memoirs". Philadelphia 1949, vol. 42
Б. А. Рыбаков. Древняя Русь: сказания, былины, летописи. М. 1963
39 Повесть Временных Лет. т. I, М-Л. 1950
40. Я. Г. Зверуго. Археологические работы в Слониме. «Беларускія Старажытнасьці». Мн. 1972
41. Ф. Д. Гуревич. Древние города Белорусского Понеманья. Мн. 1982

далей будзе.

**Ларыса ГЕНІЮШ**

* * *

**Хай славіцца наш Беларускі род,**
**Душой зь вясны, а з воляю са сталі.**
**Каб з гнёздаў нам ня пеўнікі на плот,**
**А горда арляняты вылялі!**

**Благаславенны край наш ад вазёраў сіні,**
**Лугоў раздольле, бы шырокі стэп,**
**Сыном даючыя жыцьцё жанчыны,**
**І нівы родзячыя хлеб!**

**Адвечныя шляхі маёй Айчыны,**
**Мячы і кнігі Белае Русі,**
**І гарады, дзе родзяцца Скарыны,**
**Сялібы, скуль выходзяць Кастусі.**

**Благаслаўленныя лясы нашы й рэкі,**
**Наш белы сад, блакітныя ляны,**
**Благаслаўленныя заўсёды й на векі,**
**Краіны нашай верныя сыны!**

**Благаслаўленныя старыя ў пушчах дрэвы,**
**І роднай мовы найсьвяцейшы скарб,**
**Старой зямлі старэйшыя напевы,**
**І нашы продкі, што ў курганах сьпяць.**

Васіль Сініца (ЗША.)

# МАЁ МЯСТЭЧКА

## (УСПАМІНЫ)

працяг

Віцька скончыўшы сельска-гаспадарчую школу ў Лучаю, ніколі дадому не вярнуўся, бо ня мог зносіць дацінкаў сям'і, якая бачыла ў ім ледзь не бандыта з прычыны яго беларускасьці. Перад самай вайной ён працаваў дзесьці ў ваколіцах Вільні, пазьней аб ім ня было ніякіх чутак. Старых-жа «господажаў» і трох іхніх дачок бальшавікі вывезьлі ў Казахстан. Далейшы іх лёс таксама няведамы.

Цётка Юлька даводзілася братавой мае бабкі, дык фактычна яна была мне бабкай у «другім калене», але дзеля таго, што ўсё мястэчка называла яе «цёткай Юлькай», дык і я буду таго- прытрымоўвацца.

Цётка Юлька была «майстрыхай на ўсе рукі». За недахопам кваліфікаваных акушэрак, а таксама й з гледзішча матэрыяльнага яна асыставала пры народзінах добрай паловы ўсіх местачковых дзяцей. Далейшым абавязкам цёткі Юлькі было абавязкава прысутнічаць, калі хтосьці зь яе «абходу», а быў ён дарэчы сказаўшы даволі вялікі, пакідаў назаўсёды гэтую краіну сьлёзаў. І вось гэтым кандыдатам на нябожчыкаў толькі цётка Юлька ўкладала грамніцу ў халадзеючыя пальцы. Яна зналася таксама на дамовым лячэньні, без дапамогі лекароў і іх хімічных лекаў, усялякія недамаганьні яна ў большасьці лекавала зёлкамі. Цікава аднак, што яна ня ў прыклад іншым дамовым лекарам даволі скэптычна адносілася да загавораў ды іншых забабонаў. Яна кастравала, ці як у нас казалі «выкладала» парасят, бараноў і нават пеўняў. Нарэшце яна была не абы якім аўтарытэтам у часе вясельляў, хрысьцінаў ці паховінаў ды зьвязаных з гэтымі падзеямі абрадаў.

Выконваючы абавязкі акушэркі, цётка Юлька вельмі рэдка мела якіясь «фаховыя» няўвязкі, а калі яны й здараліся, то яна іх прадбачыла й загадзя адсылала пацыентку да сапраўднае акушэркі, або лекара.

Каталічка паводле веравызнаньня, яна аднолькава шанавала й праваслаўе й каталіцтва, а сьвятароў гэтых веравызнаньняў называла «войчанькамі», толькі дадаючы для дакладнасьці «рускі» або «польскі».

Маючы трох жанатых сыноў, яна аднак жыла асобна, бо любіла незалежнасьць, і не хацела, як сама гэта казала «мяшаць у чужым гаршку». Яе паслугі людзям, прыносілі ёй пэўныя матэрыяльныя карысьці й таму яна ня вельмі аглядалася на ссыпку *), якую ёй давалі сыны. Кожны год яна выкормлівала ладнага кабанчыка й трымала зазвычай добрую карову. Дзеля гэтага, мы падшыванцы, часта ласаваліся цётчынымі дасканалымі сырнікамі, блінамі й клёцкамі з «душамі».

Мяне яна чамусьці любіла (пэўна дзеля майго калецтва) ці ня больш за сваіх родных унукаў, якіх яна мела больш за паўтара дзесятка. Ня было ніколі выпадку, каб яна пабачыўшы мяне на вуліцы не паклікала ў хату й не пачаставала сапраўды чымсьці смачным. Толькі адна бяда, што жартуючы яна называла мяне «зяцёк», што прыводзіла ў неабыякое захапленьне маіх сяброў, а мяне даводзіла да чорнай роспачы. Шмат разоў я даваў сабе слова ўжо больш ніколі не заходзіць у яе хату, або нават і на панадворак, але жаданьне перакусіць нешта смачнае заўсёды перамагала.

*) Ссыпка — пэўная колькасьць збожжа, бульбы й гародніны, а часамі й сена для каровы, што давалі дзеці старым бацьком, якія жылі асобна.



Прычына, чаму цётка Юлька называла мяне зяцем была наступная: яна мела дачку Маню, дзяўчыну сапраўды вельмі прыгожую. Маня, хоць перад замужжам, жыла пры братох, але спала зазвычай у матчыным пакойчыку. І вось, у Маню, якая даводзілася мне дваюраднай цёткай, маючы шэсьць год я без памяці закахаўся. Прыходзячы ў іх пакойчык я часта ўкрадкам клаў на яе ложак кветку, ці хоць які лісток. Я думаю, што Маня гэта заўважала, але ніколі не давала гэтага па сабе пазнаць, а толькі таямніча ўсьміхалася. Найбольшай прыемнасьцяй для мяне было часамі ў сыботы, калі яна зьбіралася на вечарыну, сесьці каля стала й прыглядацца ня спускаючы зроку, як яна пры помачы адумысловых абцужкоў, награваных над лямпай, закручвае валасы. Тады я забываўся аб усім і глядзеў толькі на яе. Часамі я нават і не заўважаў, што яна ўжо скончыла свой туалет і толькі пасьміхаючыся сядзіць ля стала. Часамі ў такіх мамэнтах яна дапускалася нявіннага хоць для мяне крыўднага жарту, хоць я ніколі не злаваў на яе за гэта. Заўважыўшы, што я ўжо некалькі часінаў гляджу на яе ня спускаючы вачэй, яна гарэзьліва праводзіла пальцам па маёй губе ніжэй носу, а пазьней выцірала гэты палец нібы ён быў мокры. Але трэба сказаць, што ніколі гэтага не рабіла, калі яшчэ хтосьці быў у хаце.

Ды вось, хутка прыйшла трагэдыя. Да яе пачаў сватацца сусед Жэнька Лютынскі, які нядаўна вярнуўся з вайны й жыў на нашай вуліцы адзін у хаце, якая засталася яму па сьмерці цёткі. Ён быў даволі прыстойным і жыў на гаспадарцы, хоць штопраўда й запушчанай, але атрымоўваў ад польскага ўраду інвалідзкую рэнту, а да гэтага ня толькі што добра граў на баяне, але й вырабляў гэтыя баяны сам, прадаючы іх пазьней за даволі высокую цану. Усё гэтае рабіла Жэньку салідным кавалерам і дзяўчаты ліплі да яго як мухі да мёду. Тое, што ён меў перабітую ніжэй калена нагу, якая ніколі не зраслася, і тое што кожнага дня Жэнька быў п'яным, не рабіла на іх ніякага ўражаньня. Дзякуючы сваёй прыгажосьці Маня хутка перамагла іншых канкурэнтак. Калі-ж ён прыйшоў у сваты, то цётка Юлька крыху ўпіралася ня хочучы мець зяця п'яніцу, але пад ціскам сыноў, якія хацелі пазбыцца з дому сястры, дый самой Мані, якой імпанаваў прыгажун і музыкант Жэнька, ўканцы пагадзілася. Толькі я сваім дзіцячым розумам і сэрцам прадчуваў, што Мані не чакаць дабра ад Жэнькі.

Праз пару тыдняў, калі ўжо ўсё амаль было гатовае да вясельля я даведаўся ад маёй маці, што я і мой трыюрадны брат Янка Юхноўскі будзем дружбантамі, у часе шлюбу ў касьцеле будзем стаяць адразу-ж за маладымі папярэджваючы яшчэ некалькі пар дарослых дружбантаў. Калі я катэгарычна адказаў «не!», дык маці таксама катэгарычным тонам сказала: «а вось пабачым, як яно будзе!».

У дзень вясельля мне загадалі адпаведна апрануцца й маці ўзяўшы мяне за руку павяла да Донькавых (клічка сям'і маладой, Юхноўскіх). Там мяне ўжо чакала шасьцігадовая чорнавокая й чорнавалосая як жучок Туська зь белай кветкай, якую яна прышпіліла мне да грудзей. Гэтага ўжо было зашмат! Я сарваў кветку, кінуў яе на зямлю й абазваўшы ні ў чым непавінную Тоську «паскудай» ды пабег дамоў і забраўшыся ў запечак даў волю сьлёзам. У хуткім часе на парозе паказаліся маці й дзядзька, якія выцягнуўшы мяне з запечку ўлілі мне добрую порцыю «гарачых» пры помачы дзядзькавай вайсковай дзягі, загадалі вярнуцца, перапрасіць Туську й больш не рабіць падобных «ціятраў». Тады я даведзены





© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

да роспачы закрычаў: «Ну добра, я перапрашу Туську, але што будзе, як гэты «кавяла» заб'е Маню!?» Абзываючы Жэньку кавялой я й ня думаў, што за некалькі месяцаў і я буду такім самым калекам, як і ён.

На гэтыя мае разумаваньні я пачуў адказ, што я яшчэ за малы, каб мяшацца ў справы, якіх я не разумею й не павінен разумець. Пры гэтым настаўленьні ледзь што не далажылі дадатковую порцыю гарачых. Воляй-няволяй я быў змушаны размазваючы бясьсільныя сьлёзы, вярнуцца на вясельле, а там... о, ганьба! пацалаваць Туську. Штопраўда крыху пазьней мы зь ёй як-бы ні ў чым ня бывала стаялі ўзяўшыся за рукі ў касьцеле, а потым елі з аднаго куска вясельны каравай.

Мае панурыя прадбачаньні збыліся вельмі хутка, хоць і ня ў поўнай меры. Праўда, Жэнька не забіў Маню, але ўжо ў вельмі кароткім часе пасьля вясельля пачаў даваць волю кулакам, галоўнае тады, калі вяртаўся з гулянкі з сябрамі. А гулянкі гэтыя адбываліся вельмі часта, таму, што як я ўжо ўспамінаў, Жэнька заўсёды быў пры грашах. Таму бедная Маня хадзіла часта то з падбітым вокам, то з прыпухшым носам. І так цягнулася больш за год пакуль у акцыю не ўвайшла цётка Юлька. Аднаго сыботняга вечара Жэнька адправіўся на звыклую п'янку. Нехта загадзя паведаміў цётку Юльку, якая прыйшла ў іх хату ды затаілася дзесь у запечку маючы пад рукамі таўкач, якім таўкуць бульбу. Недзе каля поўначы Жэнька зьявіўся дамоў, але як на злосьць не пачынаў ніякай авантуры і ўжо нават зьбіраўся класьціся спаць. Тады Маня высунуўшы галаву з-пад коўдры запытала ў яго. чаго ён наагул вяртаецца дамоў, бо мог-бы ўжо й начаваць там, дзе п'е. Ня прызвычаены да такіх прывітаньняў, Жэнька мігам сьцягнуў зь яе коўдру й пачаў дубасіць кулакамі. Але цётка Юлька тут-жа выскачыла з- запечку са сваім таўкачом і справіла яму такую лазьню, што ён праз некалькі наступных дзён ня мог паказацца ў людзі. Мала таго, удадатку яна яшчэ ўгаварыла Маню, каб тая зрабіла стараньні перад уладамі аб тым, каб ягоную інвалідзкую пэнсію выплачвалі ёй, а не яму. Пасьля некалькіх месяцаў ўлады пайшлі на ўступку й штопраўда, выплачвалі гэтыя грошы толькі ў прысутнасьці іх абаіх. Ня трэба й казаць, што Маня ня пытаючыся нават ягонай згоды забірала грошы сабе. Праўда, у тыя часы польскія маркі ня былі вартыя амаль нічога, але хутка прыйшла валютная рэформа й Маня пачала даставаць больш як 100 злотых на месяц, так што праз пару год выбудавала даволі прыгожы домік, які заўсёды здавала ў арэнду польскім урадаўцам. Жэнька-ж мусіў задаволіцца тымі даходамі, якія ён меў з вырабу баянаў, а таксама за граньне на вечарынах і вясельлях. Трэба дадаць, што нягледзячы на гэтыя непаладкі, Лютынскія мелі аж шасьцёра даволі ўдалых дзяцей.

Цётка Юлька хоць асабліва ня любіла плётак, але занадта іх і ня высьцерагалася, а калі ў іх было хоць крышачку праўды, дык ня стыдалася паўтарыць іх нават у прысутнасьці тых, каго яны датычылі. З гэтай прычыны яна даволі часта мела канфлікты з суседкамі.

Памерла цётка Юлька таксама як і мая бабка без асаблівых цярпеньняў, але гадоў хіба на дзесяць перажыўшы яе.

Праз вуліцу, ці на другім баку ад Донькавых, гэта значыць ад цёткі Юлькі, жыла вельмі цікавая сям'я Івашкевічаў, па клічцы «Мосьпядзі». Было іх тры браты й дзьве сястры. Наймаладзейшаму зь іх Ігналю было ўжо гадоў больш за 60, а найстарэйшаму Алёксу пад 80. Сярэднімі былі дзьве сястры блізьнючкі — Юлька й Ганыся, а крыху старэйшым за іх — Юзюк, па клічцы «Мэдыцына». Гэтая ўжо



падвойная клічка паходзіла ад таго, што ён у японскую вайну быў санітарам, а вярнуўшыся дамоў спрабаваў, зрэшты безь вялікіх посьпехаў, лекаваць суседзяў. Юльку-ж, а таксама й Ганусю дражнілі — «На піражок».

Нягледзячы на тое, што «Мосьпядзі» мелі даволі ладны кавалак зямлі, яны нягледзячы на сваю старасьць ніколі й нікога не наймалі для дапамогі нават у касавіцу ці жніво, ці як у нас казалі на «пільніцу». Дзеля гэтага яны былі хіба што найбольш запрацаванымі людзьмі ў мястэчку. Толькі адзін дзед Ярох, дый то не заўсёды перамагаў іх у працавітасьці. Трэба сказаць, што працавала іх толькі чацьвёра, ды ня зусім, бо Алёкса быў ужо зусім старым, а наймаладзейшы Ігналя быў калекам зь дзяцінства, — меў прыкорчаную ў калене нагу й дзеля гэтага ня мог выконваць усіх сялянскіх працаў, а галоўнае толькі даглядаў коняй ды іншую жывёлу, якой, дарэчы сказаўшы, «Мосьпядзі» мелі больш ад суседзяў. Колькі якой жывёлы яны мелі, ніхто дакладна ня ведаў. Бывала прадаўшы жыдом-мясьнікам колькігадовага бычка ці падцёлка, яны давалі яму магчымасьць першы і апошні раз у жыцьці пабачыць навакольны сьвет, бо выгадаваны ў цёмным хляве ён ня бачыў нічога й нікога акрамя сваіх гаспадароў. Пабачыўшы сьвятло й незнаёмых людзей бедная жывёліна захоўвалася як шаленая, а ня менш бедныя жыдкі мелі немалы клопат пакуль загналі яго ці яе ў местачковую бойню. Аднаго разу даволі вялікі й добра адкормлены бык параніўшы рогам аднаго са сваіх прасьледвальнікаў ды параскідаўшы на бакі двух іншых сам ускочыў на калючы дрот, паламаў сабе нагу й разадраў чэрава, так што выкліканы паліцыянт быў змушаны яго застрэліць, каб далей ня мучыўся.

Прычынай, чаму «Мосьпядзі» гадавалі жывёлу ў заперці было тое, што яны страшна й сьлепа верылі ў розныя «ўроцы» ды «благія вочы». Яны верылі, што іх жывёлу, а асабліва маладняк, могуць зачараваць, або нават і ненаўмысна пашкодзіць глянуўшы завідным вокам. І вось гэтая іх вера й даводзіла да таго, што большасьць сваёй жывёлы яны трымалі зіму й лета ў хлявох. Выпускаючы іншую жывёлу на поле, яны гэтым самым давалі повад падшыванцам з усяго мястэчка да бесканечных зьдзекаў над сабою. Напрыклад Юлька ці Ганыся гоняць у поле сьвіней а падшывацы пачынаюць іх лічыць і налічаць абавязкава больш чым у сапраўднасьці. Бедная жанчына ня ведае што рабіць, бо верыць, што гэтае лічэньне а асабліва большы лік пашкодзіць яе падсьвінкам. Спачатку яна раіць ім палічыць свае зубы і абзывае гэтых падшыванцаў найгоршымі словамі, якія толькі былі ў лексіконе тагачасных нашых людзей. Наапошку просіць іх з ласкі перастаць і не рабіць яе парасятам крыўды. Калі-ж нічога не памагае,, ужывае апошні сродак, які на яе думку зможа абараніць яе жывёлу ад няшчасьця, — падымае спадніцу й паказвае рассьмешанай да апошняга зграі «адваротны бок мэдалю».

Бывала таксама, што Юзюк едзе з поля седзячы на сапраўды прыгожай кабыле, а дзьве іншыя вядзе на повадзе. Тыя-ж самыя, або і іншыя, самавольнікі ні з таго, ні зь сяго пачынаюць хваліць ягоныя кабылы.

— Паглядзі, якія яны сытыя й прыгожыя, — кажа адзін.

— І ня дзіва, — дадае іншы, — ён-жа корміць іх адным аўсом ды адборнай канюшынай.

— А ўначы апасвае чужыя ўзьмежкі, — дадае трэйці.

— Але гэта яму так ня пройдзе, — умешваецца ў гаворку чацьвёрты, — чужое можа пашкодзіць.

Гэтай апошняй заўвагі Юзюк ужо ня можа сьцярпець. Ён саскаквае на зямлю, выломвае з найбліжэйшага плоту калок і гоніцца за сваімі ворагамі, якія, ведама, не чакаючы яго рассыпаюцца па вуліцы як вераб'і перад каршуном. Насуліўшы ім розных пошасьцяў ды ўспомніўшы розныя правіны іхных бацькоў, а перадусім мацярок, ён нарэшце ловіць сваіх кабылаў, якія ў міжчасе разбрыліся па вуліцы, і накіроўваецца дамоў плюючы на ўсе бакі й хрысьцячыся, як перад нячыстай сілай.

Апрача хваленьня й лічэньня «мосьпядзяўскай» жывёлы, падшыванцы забаўляліся зь імі і ў іншы спосаб. Напрыклад у адзін зь цёмных восеньскіх вечароў, калі ў «Мосьпядзяў» ужо пагасьне сьвятло, а трэба сказаць, што клаліся яны спаць зараньня, гэтая-ж дзетвара падыйшоўшы пад іхняе вакно стукала ў яго й зьмененым грубым і моцным голасам крычала па-польску: — «Цо то ест до холеры яснэй! Ці вы ня ведаеце, што заўтра тжэцего мая?! Зараз-жа вывесіць сьцяг і па дзьве сьвечкі на вакно. Але жыва!» «Мосьпядзі ня вельмі разьбіраючыся, што 3-га мая ня можа быць ўвосень, хуценька вывешвалі польскі сьцяг, а заміж сьвечак на вокнах якія былі ад вуліцы, стаўлялі па дзьве маленькія лямпкі-смаркачкі.

Тым, хто ня жыў у міжваеннай Польшчы ня лішне будзе паясьніць, што дзяржаўнае сьвята — угодкі канстытуцыі 3-га мая абыходзіліся там вельмі ўрачыста, а вечарам папярэдняга дня ўлады загадвалі ладзіць «ілюмінацыю», — асьвятляць франтовыя вокны ў дамох сьвечкамі.

Іншым, даволі такі няпрыемным для «Мосьпядзяў» жартам было тое, што іх «прасьледавальнікі» зьнімалі летняй ноччу посьцілкі й радзюшкі якія сушыліся на плоце й завешвалі імі ўсе вокны ў «Мосьпядзевых». Яны-ж, як звыкла, ніколі ня маючы ў хаце гадзіньніка ўставалі зранку калі толькі навонкі пачынала шарэць. Напрацаваўшыся ў полі яны былі вельмі задаволеныя тым, што так доўга ня віднее і яны могуць паляжаць даўжэй у пасьцелях. Праз посьцілкі сьвятло амальшто не прабівалася ў хату. І так яны бывала спалі да гадзіны 9-ай ці нават 10-ай. А дзеля таго, што гэта звычайна адбывалася ў начы з сыботы на нядзелю, дык будзіў іх заўсёды Ігналя, які прыяжджаў з начлегу. Ведама-ж, у нядзелю коні ня былі патрэбныя, дык ён ехаў дамоў толькі добра прагаладаўшыся. На гэты час і чакалі тыя, хто пазавешваў вокны. Яны зьбіраліся на другім баку вуліцы й загадзя цешыліся з таго, якія «ціятры» пачнуцца калі Ігналя пабудзіць сваіх братоў і сёстраў. І сапраўды гэта былі «ціятры», калі ўсе «Мосьпядзі» ў даўгіх да пят кашулях бегалі па панадворку праклінаючы тых, хто пазавешваў вокны, а таксама, няведама чаму, і адзін аднаго.

Зь бедным Ігналем таксама аднаго разу страслася бяда якой ёй ня мог забыцца праз даўжэйшы час. Яму зазвычай менш дакучалі чым іншым, хіба з жаласьці дзеля ягонага калецтва. Але аднаго разу давялося і яму. Як ведама, начлежнікі ў большасьці хлопцы-падлеткі карыстаючы з таго, што пад восень у садох пачынаюць дасьпяваць яблыкі, грушы ды сьлівы, а ў гародах падрастаюць гуркі, рэпа ды інш. часта ласуюцца імі не зважаючы на права ўласнасьці. Адным словам, залязаюць не ў сваё, тым больш, што й ночы стаюцца даўжэйшымі й на ўсё хапае даволі часу. Пераважна старэйшыя мужчыны ў якіх ня было сыноў або ўнукаў адпаведнага веку і якія езьдзілі на начлег самі, былі заўсёды супроць такога дробнага зладзейства. Але ня Ігналя! Ён, наадварот, сам іх падбухторваў, каб схадзілі ў «здабычу».

— Мальцы, тоісь-то, (тоісь-то, — Ігналева прымаўка, якой ён густа перасыпаў усю сваю гаворку) схадзіце ў здабычу, а я коні прыпільную й бульбачкі вам напяку, тоісь-то.



Ведама-ж, што прынёсшы дабычу хлопцы добрасумленна дзяліліся ёю зь Ігналем. Але вось аднаго разу едучы на начлег хлопцы заўважылі праз адчыненае вакно на «мосьпядзяўскім гарышчы разложаныя на спэцыяльных паліцах дзеля сушэньня, ці як у нас казалі «вяленьня», сыры. Дык вось, неўспадзеўкі тэй начы здабычай былі ня яблыкі ці гуркі, але духмяныя ў меру падсушаныя з бурштынавага колеру скарупкай сыры. Ведама-ж, Ігналя атрымаўшы сваю частку ня вельмі дапытваўся ў каго прапалі гэтыя сыры, а толькі хваліў хлапцоў.

— Вось, дык зухі вы мальцы! Але-ж і сыр! Вялы сыр, відаць добрая гаспадыня рабіла яго й не пашкадавала сьмятаны. Каб ёй добра было, дый вам мальцы, тоісь-то!

Ведама, што праз пэўны час Юлька ці Ганузя панёсшы на гарышча новую колькасьць сыраў заўважыла крадзеж і нарабіла страшэннага вэрхалу. На хуткую руку было праведзена даходжаньне сярод сяброў сям'і й сьцьведжана, што ў апошнім часе Ігналя быў страціўшы апэтыт і мала еў за сталом. Гэты доказ быў папросту паклёпам на беднага Ігналю, бо ён пад'еў сыраў толькі раз і дзеля гэтага ня мог наесьціся на некалькі дзён. Але, як кажуць — факты, рэч упартая, і як на злосьць ў часе асабістай рэвізіі, праведзенай на жаданьне Юлькі, у кішэні Ігналевага каптана знойдзена сырныя крошкі. Гэтага было даволі, каб давесьці Ігналеву віну, але яшчэ й прыпісаць яму іншую, што ён, ведама, ня змог за кароткі час зьесьці такую колькасьць сыраў, дык відавочна прадаў іх, або перадаў іх некаму іншаму. Колькі ён, бядняк, не заклінаўся й не прысягаўся аб сваёй нявіннасьці, ніхто яму не паверыў. Самасудам і ўсёй сям'ёю «Мосьпядзі» так адлупцавалі яго, што ён праз некалькі тыдняў хадзіў з сінякамі пад вачыма ды з падрапаным тварам. Але фізычныя цярпеньні былі нічым у параўнаньні з маральнымі бо сапраўдныя злачынцы яшчэ доўга нахабна пыталіся яго ці ён любіць вялы сыр. Аднак праз некаторы час усё забылася і Ігналя, як ні ў чым ня бывала ізноў нагаварваў «мальцаў» на здабычу, тоісь-то.

Сёньня мы часта наракаем на сучасную моладзь за яе паводзіны й самавольства. Але калі мы зьвернемся памяцьцю на некалькі дзесяткаў год у мінулае, дык пабачым, што й тады моладзь была мала лепшай. А што-б было, каб у тыя часы яна мела такія выгады, якія мае сучасная моладзь?

Яшчэ прыпамінаецца мне адно маленькае здарэньне якое трапілася Алёксу ў нашай хаце. Тады за Алёксаву нязграбнасьць атрымалі ў «скуру» мае сёстры і я.

«Мосьпядзі» даводзіліся далёкай раднёй маёй бабцы Крыстыне й з гэтай прычыны Алёкса, як найстарэйшы і, трэба прызнаць, найбольш паважнейшы ў сям'і часамі прыходзіў у госьці да яе, ці дакладней да нашай сям'і. Бабка Крыстына будучы вельмі гасьціннай заўсёды частавала яго. І вось аднаго разу ён трапіў да нас якраз на вячэру. Вядома, запрасілі і яго. Пасьля вячэры бабка падала на стол каву, а дзеля таго, што гэта было коратка пасьля заканчэньня вайны, дык былі труднасьці з цукрам. Заміж цукру бабка падала ў малым сподку драбкі сахарыны. Сахарыну ўсе бралі пальцамі, але Алёкса відавочна хочучы паказаць сваю выхаванасьць, узяў мокрую лыжачку з кубка й пачаў у яе набіраць сахарыну. Укапаўшы зь вялікім трудам пару драбкоў у лыжачку, ён не заўважыў, што за дно мокрай лыжачкі прыклеілася іх пэўна зь дзесяць. І вось, калі ніхто са старэйшых не заўважыў гэтага, дык нам малым гэта было добра відаць, бо нашыя

вочы былі амаль што на ўзроўні стала й таму мы бачылі як выглядае спод лыжачкі з прыклеенымі драбкамі сахарыны. Алёкса тымчасам разьмешваў іх у каве, а мы зь нецярплівасьцю чакалі што будзе далей. Трэба сказаць, што смак сёньняшняй сахарыны далёка адбягае ад тагачаснай. Калі-б сёньня камусьці трапіўся такі выпадак, то ўсё-такі гэтую каву можна было-б выпіць. Але не тады! Аднак словам Алёкса пасмакаваўшы гэтай кавы скрывіўся, быццам паводле прыказкі «як серада на пятніцу», а мы ўсе трое паднялі дружны рогат. Насьледкаў ня трэба было доўга чакаць, бо мы маланкава апынуліся ў кухні дзе ў ход пайшла дзядзькава дзяга.

Перад самай II-ой Сусьветнай вайной Юзюк ажаніўся, «ломячы» сямейныя законы й то з маладзейшай ад сябе на больш чым у два разы дзяўчынай, Надзяй. Перабраўшыся ў сям'ю, Надзя адразу навяла свае парадкі й сталася фактычнай гаспадыняй, нягледзячы на пратэсты «Мосьпядзяў». Былі чуткі, што яна выманіла ад іх «панчоху золата» складанага сям'ёй праз доўгія гады.

Цяжкія жыцьцёвыя абставіны ды ў хуткім часе наступіўшае «раскулачваньне» за пару год зьвяло ў магілы ўсіх «Мосьпядзяў». Засталася толькі Надзя з малым сынком, якому суседзі запярэчвалі Юзюковае бацькоўства.

На гэтым закончу апісаньне «маёй» Гарманаўскай вуліцы і яе жыхароў ды перайду да апісаньня Дзісьненскай вуліцы.

(далей будзе.)



Юры Весялкоўскі (Англія)

## БЕЛАРУСЬ

### У Першай Сусьветнай Вайне

(Гістарычны Нарыс)
(працяг)

### ПАЛІТЫКА ЦАРСКАЙ РАСЕІ

Пачынаючы з XV стагодзьдзя Расея распачала сваю сыстэматычную экспансію ва ўсе бакі й з часам пад яе заваяваньнем знайшліся: азіяцкія народы, каўказкія народы, балтыйскія народы, беларусы, украінцы, палякі і іншыя, якія гранічылі з Расеяй. За прыклад можа паслужыць табліца пашырэньня тэрыторыі Маскоўскай дзяржавы на працягу стагодзьдзяў:

| | | |
|---|---|---|
| 1389 г. | паверхня каля | 100.000 квадратных вёрст |
| 1425 г. | ” ” | 400.000 ” ” |
| 1615 г. | ” ” | 8.580.000 ” ” |
| 1725 г. | ” ” | 15.500.000 ” ” |
| 1825 г. | ” ” | 20.185.000 ” ” |

Шляхам падбояў і войнаў, Расея ў XIX стагодзьдзі налічвала больш за 120 мільёнаў насельніцтва й больш за 150 моваў у сваёй імпэрыі. Ужо гэтыя цыфры гавораць, што колькасьць чужынцаў



перавышала расейцаў. Паводля перапісі 1897 году, расейцаў налічвалася 43% агульнага складу насельніцтва.

Абшырная дзяржава валодала ўсімі неабходнымі й невычарпальнымі багацьцямі. Нажаль, ня было адпаведна адукованых людзей у краіне, якія-б маглі заняцца выкарыстаньнем гэтага натуральнага дабра для заспакаеньня штодзённых патрэб народу. Багацьці ляжалі ў зямлі, а Расея жыла на чужым загранічным капітале, за які аддавала апошні хлеб — зярно. Толькі ў XIX стагодзьдзі заходнія экспарты пачалі дабываць сыравіну, закладаць індустрыю й транспарт. Таму матушка Расея з бацюшкамі царамі ведамай была з пракон вякоў як адсталая краіна, якой кіраваў казацкі бізун і тэрор. Нават ў XX стагодзьдзі, у вачох заходняй Эўропы, Расея ўсьцяж напамінала сабою эпоху сярэднявякоўя.

У 1453 годзе туркі занялі Канстантынопаль і гэта дало новы ход гісторыі Расеі, якая пачала пераймаць на сябе абавязкі абаронцы праваслаўнай веры, а Масква прыняла на сябе ролю Трэйцяга Рыму й візантыйскі дву-галовы арол стаўся сымбалем “сьвятой” Расеі.

У гэтым ужо часе татарская дамінацыя над Расеяй з кожным годам слабела й Вялікі Князь Іван III (1462-1505) канчаткова вызваліўся ад татарскай залежнасьці. Толькішто скінуўшы татарскае ярмо, Іван III пачаў дамагацца ад Вялікага Княства Літоўскага “Полацка, Віцебска, Смаленска і ўсіх іншых рускіх зямель”. Як ён, так і яго насьледнікі ўважалі сябе спадкаемцамі Візантыі й стаўшыся магутнымі ўладарамі свае дзяржавы, адгарадзіліся ад заходніх уплываў Рэнэсанс й Рэфармацыі, а ўзялі меч у рукі й пайшлі падбіваць сваіх суседзяў.

Нягледзячы на прыбраную сьвятасьць, Расейская дзяржава ў сваім нараджэньні кіравалася самавольнай тыраніяй і абсалютызмам, якія запачаткаваў Іван Грозны (1553-1584). Ён стварыў “апрычнікаў” у 1565 годзе, інакш кажучы тайную паліцыю, якая дарогай тэрору й подступаў выкрывала баяраў няпрыхільна настаўленых да цара. Праз канфіскацыі маёмасьцяў, выгнаньні, катаваньні й забойствы, замацоўваў Іван сваю ўладу дэспата й за яго царстваваньня Расея распачала падбоі сваіх суседзяў. Збройныя захопы чужой тэрыторыі Маскоўскім княствам, паводля слоў цара, выкліканы былі ў сэньсе абароны праваслаўнага хрысьціянства супраць бязбожных людзей. Асоба Івана IV ведамая, як цара-садысты, які фізычна вынішчаў усіх тых, хто зь ім не пагаджаўся й нават уласнаручна забіў свайго малалетняга сына, за што гісторыя празвала яго Грозным. Быў ён адначасна першым каранаваным царом Расеі.

Расейскія цары глядзелі больш на Ўсход і адтуль бралі прыклады. Сталася гэта таму, што на працягу двух з паловай стагодзьдзяў (1240-1480) татара-мангольскай акупацыі Расеі, яны многа чаго пераняли ад сваіх былых гаспадароў і па традыцыі арыентаваліся й кіраваліся суровасьцямі татара-мангольскіх ханаў. Ды каб забясьпечыцца перад новымі нападамі азіятыцкіх чынгісханаў, маскоўскія цары самі сталіся чынгісханамі. І таму астаткі азіяцкага нашэсьця спалучаныя зь Візантыйскай царкоўнай цырымоніяй, запачаткавалі

свой собскі ўсходні абсалютызм для будучых цароў Расеі.

Пятро Вялікі (1682-1725) прарэзаў вакно на захад у Эўропу й праз яго імпартаваў заходнюю тэхніку, ваенную тактыку й дзяржаўную адміністрацыю. Паводжаньне ў вайне са швэдамі, туркамі й пэрсамі пашырылі граніцы Расеі й Пятро I прыняў тытул Імпэратара. Але гэтыя посьпехі не зьмянілі яго поглядаў, а нават яго абсалютызм стаўся яшчэ больш абсалютным, асабліва ў царкоўнай галіне, калі ён заміж Патрыярхату ўвёў Сьвяшчэнны Сынод. Гэтым зрабіў ён Праваслаўную царкву прыладай свае палітыкі, а непаслушным баярам, што бунтаваліся, абразаў бароды й нават адсякаў галовы, і ён-жа спрычыніўся да зьнішчэньня свайго сына.

Пасьля сьмерці Пятра I, яго насьледнікі: Кацярына I, Пятро II, Іван VI і Альзьбета займалі царскі пасад нядоўга й няслаўна, аж пакуль ня прыйшла Кацярына II. Прыйшла яна, а фактычна зрабіла сама сябе імпэратрыцай, праз змову супраць свайго мужа, цара Пятра III у 1762 годзе. Будучы з паходжаньня немкай, добра ведала заходнюю літаратуру ды навуку й будучы ўзгадованай у гэтай культуры, не перашкаджала ёй стацца патрыёткай Расеі.

За яе ўрадаваньня былі захопленыя Вялікае Княства Літоўскае, Польшча, Крымскія і Азіяцкія тэрыторыі й далучаныя да Расейскай імпэрыі. Сваёй збройнай сілай, Кацярына ўзьняла аўтарытэт Расеі сярод іншых манархаў Эўропы.

Нашчадак Кацярыны II Павал I (1796-1801) быў нэрвова хворым чалавекам, месца якога не павінна было быць на царскім пасадзе. Яго дзіўныя загады й гутаркі былі доказам гэтага. Даволі ўспамянуць загад для Масквы, дзе гаварылася, што гаспадары будынкаў павінны за тры дні даць паведамленьне ў паліцыю ў каго мае быць пажар. Або часта гаварыў, што "ў Расеі вялікі той, зь кім я гутару й пакуль я зь ім гутару". Ён выступаў супраць асьветы, уважаючы яе за падрыўную дзейнасьць і забараніў імпарт замежных кніжак, выезд студэнтаў за граніцу прадаўжаць навуку, адаслаў назад замежных настаўнікаў і са школаў выкінуў некаторыя прадметы навагул. У хворай галаве гэтага манарха пляліся розныя недарэчнасьці й у канцы, у выніку прыдворнага загавору, ён быў замардаваны ў сакавіку 1801 году.

У часе свайго кароткага панаваньня, Павал I пакінуў адзін добры ўспамін сярод сялян. Ён у 1797 годзе выдаў загад, якім агранічаў іх працу на панскіх гаспадарках да трох дзён у тыдзень. Таксама выпусьціў на свабоду Т. Касьцюшку ды на просьбу шляхты, заміж "Уложений царя Алексея Михайловича" напісаных у 1649 годзе, увёў назад Статут Вялікага Княства Літоўскага.

Літоўскі Статут (1588) быў перакладзены на расейскую мову ў 1811 годзе за часоў Аляксандра I і праз некаторы час карысталіся ім у штодзённым жыцьці.

За часоў Паўла I, палякі атрымалі шырэйшыя правы ды нават урад вярнуў ім іхныя ранейшыя маёнткі, якія яны страцілі пры Кацярыне II.



Праз труп свайго бацькі, на царскі пасад уступіў сын Аляксандар I ((1801-1825). Паза ўрадам малады манарх утварыў, са сваіх прыяцеляў, дарадчы камітэт з 4-ох асоб у які ўваходзіў ведамы польскі патрыёт Адам Чартарыскі. У малым кружку сваіх блізкіх дарадчыкаў, Аляксандар I дыскутаваў праблемы свайго гаспадарства й шукаў дарог, як пакончыць з паншчынай, як даць вольнасьць Польшчы, каб утрымаць яе пры Расеі, як даць палітычныя правы іншым народам імпэрыі, каб ня выклікаць гневу арыстакрацыі.

У выніку гэтых дыскусіяў, была агранічаная дзейнасьць палітычнай паліцыі, многа палітычных выгнаньнікаў вярнулася зь Сібіру й многа іншых вязьняў выпушчана на свабоду. За часоў Аляксандра былі адчыненыя тры ўнівэрсытэты і была створаная сыстэма пачатковага навучаньня.

Аляксандар I, пад уплывам францускай рэвалюцыі, праяўляў лібэральныя погляды, але памінаў пытаньне Беларусі. Яно ня было зусім ясным, а пад уплывам Чартарыскага Беларусь лічыліся часткай Рэчы Паспалітай. За Аляксандра вяліся перагаворы аднаўленьня незалежнасьці Польшчы з 1772 году, праз утварэньне дынастычнай сувязі з Расеяй.

Калі Расеі пачаў пагражаць Напалеон, у канцы 1811 і пачатку 1812 году распачаліся перагаворы аб аднаўленьні Вялікага Княства Літоўскага як буфарнай дзяржавы, пад пратэктаратам Расеі. З боку беларуска-літоўскага ў перагаворах прымаў удзел М. Агінскі, пра якога варта сказаць больш.

Агінскія — старадаўні беларускі (літоўскі) род, які ў Вялікім Княстве Літоўскім займаў адказныя становішчы гэтманаў, канцлераў, маршалкаў, ваяводаў, замежных дыпляматаў ды іншыя дзяржаўныя функцыі. У другой палове XVII стагодзьдзя Агінскія перайшлі ў каталіцызм і паступова пачалі палянізавацца, аднак Рыгор Агінскі ў 1696 годзе дамагаўся правоў у зраўнаньні літоўска-беларускай шляхты з польскай і быў ініцыятарам праекту аддзяленьня Вялікага Княства Літоўскага ад Польшчы.

Князь Міхась Агінскі, як і шмат хто зь беларускай шляхты тае пары, у часох польскага засільля на беларускай зямлі, таксама паддаўся моцным польскім уплывам. Але, калі на гарызонце міжнародных падзеяў зьявілася нагода свабоды нацыянальнай, у Агінскага прабудзілася пачуцьцё нацыянальнага адзінства й прыналежнасьці да свайго Народу й Бацькаўшчыны. І вось, неспадзявана, Агінскі бярэцца за актыўную працу дзяржаўнага будаўніцтва.

У 1810 годзе ён наведаў Парыж, дзе бліжэй даведаўся пра пляны збройнага выступленьня Францыі супраць Расеі. У студзені 1811 году, Агінскі пакідае Парыж і накіроўваецца ў Пецярбург.

Каб перашкодзіць у яго замерах, князь А. Чартарыскі напісаў цару пісьмо такога зьместу: "Даведаўшыся, што сп. Агінскі паехаў у Пецярбург, я ўважаю за свой абавязак перасьцерагчы Вашую Вялікасьць, што ён не карыстаецца ў нас спэцыяльным уплывам, ані пашанай..."

Аднак Агінскага цар прыняў 25-га сакавіка. У сваёй гутарцы з царом, Агінскі адкрыта прадставіў Аляксандру шкодную расейскую палітыку й ролю палякаў. Гэтым самым ён стараўся ўзьдзеіць на цара дзеля сваіх намечаных плянаў. А пляны Агінскага палягалі на стварэньні Літоўска-Беларускага гаспадарства ў якое мелі ўвайсьці 8 губэрняў.

Каб атрымаць згоду цара на свой праект, ён прапанаваў на чале Вялікага Княства Літоўскага паставіць вялікую княгіню Кацярыну Паўлаўну. На гэта цар адказаў: "Мне вельмі прыемна, што нашыя думкі зыходзяцца. Ужо шэсьць месяцаў я працую ў гэтым духу...

Калі мая праца будзе закончана, я паведамлю вас, а тымчасам загадваю запрашаць вас кожны раз, калі будуць разглядацца справы, што закранаюць прадмет сёняшняе нашае гутаркі, і будзьце пэўныя, без узгадненьня з вамі не адбудзецца аніводная пастанова ў гэтых справах..."

Згодна супольных думак, цар даручыў Агінскаму канкрэтна апрацаваць на пісьме свой праект. Неўзабаве такі праект быў апрацованы і 15-га мая прадстаўлены цару з далучэньнем.

У "Праекце ўказу аб новай арганізацыі заходніх губэрняў", Агінскі прааналізаваўшы гісторыю заходніх губэрняў, зьвярнуў увагу Аляксандра на неабходнасьць стварэньня Вялікага Княства Літоўскага й стараўся пераканаць цара ў карысьцях, якія атрымае Расея ў залежнасьці ад выкананьня гэтага мінімальнага пляну нацыянальнага жаданьня беларускага жыхарства, пішучы наступнае: "Даручаючы гэтым 8-мі губэрням згодную зь мясцовымі абставінамі й характарам жыхароў арганізацыю й зрабіўшы канец злоўжываньням, якія ўкраліся ў іхнае нутраное кіраўніцтва, Вашая Вялікасьць набудзеце непахіснае права да іхнае ўдзячнасьці й створыце на заходніх землях Вашай імпэрыі сілу больш магутную, чымся ўсе разьмешчаныя там войскі й крэпасьці".

У пляне Агінскага Вялікае Княства Літоўскае мела абняць наступныя губэрні: Горадзенскую, Віленскую, Менскую, Віцебскую, Магілёўскую, Кіеўскую, Валынскую й Падольскую з акругамі Тарнапольскаю й Беластоцкаю. Прадстаўніком улады меў быць царскі намесьнік з рэзыдэнцыяй у Вільні. Адміністрацыйныя справы краю падлягалі-б Адміністрацыйнай Радзе пакліканай зь мясцовых людзей. Меў быць устаноўлены сойм са 160 паслоў і 80 прадстаўнікоў гарадоў выбраных на 6 гадоў. У сэнат — 12 саноўнікаў духоўных, 29 ваяводаў і кастэлянаў, 12 дастойных чыноў і міністраў. У адміністрацыйным падзеле прадбачылася вярнуць ваяводзтвы й паветы. Між іншым праектавалася на працягу 10-ці гадоў (1812-1821) зьнесці падданства ў маёнтках. Літоўскі Статут аставаўся правам у краі. Урадавай мовай у Вялікім Княстве Літоўскім мела быць мова польская.

Зразумелая рэч, што Агінскі змушаны быў лічыцца са становішчам тагачаснае Беларусі, але яго высказваньні зьяўляюцца дакумантам беларускай дзяржаўнай думкі зьвязанай зь гістарычным мінулым, ці прынамся здабыцьця шырокай аўтаноміі.



Але, як бачым, у адным месцы Агінскі зрабіў недарэчнасьць. Будучы сам узгадаваны ў польскай культуры, ён забыўся пра народ, які гутарыць беларускай мовай і тых законах, што ў свой час пісаліся пабеларуску, а прапануе ў беларускай дзяржаве польскую мову. І вось тут ён зьяўляецца ахвярай чужых і варожых уплываў на Беларусі.

Памыліўся Агінскі і ў сваіх разьліках на прыязныя гутаркі з царом Аляксандрам. Цар ведаў аб немінучай вайне з Напалеонам і праз Агінскага выпрабляў свае прыхільныя адносіны да народаў былога Вялікага Княства Літоўскага.

Калі цар даведаўся, што Агінскі едзе ў Літву, дык у верасьні 1811 году сказаў яму: "Скажыце вашым земляком, што я думаю пра іх, што я займаюся іхным лёсам, жадаючы палепшыць яго, і магчыма, я буду мець хутка нагоду давесьці ім гэта. Я лічу на іхную адданасьць і жадаю ад іх даверу".

Як паказалі пазьней факты, цар дзеля палітычных карысьцяў не датрымаў свайго слова ў адносінах да народаў былога ВКЛ, а аддаў перавагу Польшчы. Ён спадзяваўся, што Напалеон творачы Княства Польшчы, захоча выкарыстаць польскі патрыятызм на землях былога ВКЛ і таму стараўся быць добрым для ўсіх, а ў першую чаргу для палякаў.

У міжчасе, адносна надыходзячай вайны, апінія вядучых польскіх палітыкаў была падзелена. Большасьць зь іх спадзявалася на адбудову свае дзяржаўнасьці Напалеонам і хілілася на яго бок. Расейская кіруючая арыстакрацыя ня зусім падзяляла лібэральныя пачынаньні Аляксандра, бо ўважала землі беларускія і ўкраінскія за частку Расеі. Цікава, чым гэта ўсё закончылася-б, каб не паход Напалеона на Маскву ў 1812 годзе, а пры ім і палякаў, што незадоўга выклікала засьцярогі сярод царскай эліты, і польскае пытаньне, у даную хвіліну, апынулася ў няласцы.

Напалеон таксама быў асьцярожным у польскім пытаньні. Усё, што ён ахвяраваў палякам у 1807 годзе, гэта Варшаўскае Княства зпад прускага захвату, якое пабольшыў у 1809 годзе часткай аўстрыяцкага захвату. Аднак вера палякаў у Напалеона, што дзеля іх супрацоўніцтва ён адбудуе Польшчу й далучыць да яе Літву, жыла й мацнела.

1-га ліпеня 1812 году Напалеон паклікаў камісію Тымчасовага Ўраду Вялікага Княства Літоўскага, устанавіў адміністрацыю й загадаў тварыць войска й жандармерыю. Большасьць становішчаў у адміністрацыі Вялікага Княства Літоўскага займалі польскія магнаты. Яны з падтрымкай Варшавы акружалі Напалеона, выслугоўваліся перад ім і абяцалі яму польскі трон за злучэньне Кароны зь Літвой. Сярод іх спатыкаем знаёмыя прозьвішчы магнатаў: Аляксандар Сапега, Эўстахі Сангушка, Аляксандар Хадкевіч, Язэп Касакоўскі ды Аляксандар Патоцкі.

100 тысяч палякаў узяло ўдзел у паходзе на Маскву. Палова іх была арганізавана ў незалежны польскі корпус пад камандай князя

Я. Панятоўскага. Палякі штурмавалі дарогу ў Смаленск, бралі ўдзел у вялікім баі пад Барадзіно й зімою асланялі адступаючую францускую армію з-пад Масквы. На гэтым шляху загінула 70.000 польскіх жаўнераў, а пад Ляйпцыгам у 1813 годзе загінуў і сам Панятоўскі.

Наколькі цікавіўся Напалеон пытаньнем Беларусі, цяжка сказаць. Але ў народзе хадзілі слухі, што Напалеон скідае каралёў і дапамагае малым народам і таму некаторыя беларусы дапамагалі яму збройна. Створана была армія каля 20.000 жаўнераў з адборнай літоўскай (беларускай) моладзі, пераважна шляхты, а сяляне, што ўступілі ў армію, былі запісаны ў актовыя кнігі, як вольныя людзі. І ня гледзячы на захады палякаў, Напалеон 1-га ліпеня 1812 году абвясьціў Літву (Беларусь) асобным гаспадарствам незалежным ад Польшчы.

На Венскім Кангрэсе ў 1814-1815 гадох, дарадчыкам Аляксандра I быў А. Чартарыскі. Дараджаў ён цару так, каб выгадней было для Польшчы й палякаў. І цар слухаў больш Чартарыскага чымся сваіх міністраў і таму ў канцы 1815 году памінуўшы абяцанае Вялікае Княства Літоўскае, стварыў Каралеўства Польшчы з канстытуцыяй і сваім войскам. Ён нават на Венскім Кангрэсе дамагаўся аб'яднаньня разабраных польскіх зямель, але Прусія і Аўстрыя былі супраць і аддалі толькі частку польскай тэрыторыі, а Францыя і Англія ня выказалі большага зацікаўленьня польскім пытаньнем.

Пасьля Напалеонаўскай вайны Аляксандар I аказаўся адным з найбольш магутных эўрапейскіх уладароў, пры якім палітычнае становішча палякаў у межах Расейскае імпэрыі, зрабілася многа лепшым за іх суайчыньнікаў пад панаваньнем Аўстрыі й Прусіі.

Венскі Кангрэс у сваіх прынцыпах блакіраваў дэмакратычны поступ. Быў гэта звычайны паварот да старой імпэрыяльнай палітыкі дэспатызму. На ім пастаноўлена трымацца прынятых пастановаў праз часьцейшае праводжаньне канфэрэнцыяў, каб своечасова запабегчы магчымым беспарадкам, а панад усё, пільна ўважаць на праявы аднаўленьня рэвалюцыянізму й патрэбе супольнымі сіламі здушыць яго. Рэвалюцыя разглядалася імі як бунт супраць аўтарытэту. Такія канфэрэнцыі дэспатычных краін атрымалі назоў Эўрапейскага Канцэрту. Ён меў посьпех аж да 1914 году. *)

Новы цар Мікалай I (1825-1855), асоба зусім адменная ад свайго брата й бацькі. Гэта быў чалавек натуры цьвёрдай, упартай і працавітай. Ад маленства любіў ён ваеннае рамясло, салдацкую дысцыпліну й парадак. Аднавіў ён тайную паліцыю, увёў срогую цэнзуру прэсы й нават сам перагледаў некаторыя рукапісы, якія маглі-б падважыць яго аўтарытэт. Мікалай I агранічыў уступ у сярэднія школы і ўвёў паліцыйны нагляд над унівэрсытэтамі. За часоў яго ўрадаваньня Расея вяла войны, успакойвала рэвалюцыі, паўстаньні й бунты. Пасьля рэвалюцыйных уздымаў на Захадзе ў 1848 годзе, ён зьвярнуў увагу на інтэлектуалістаў у Расеі й многія зь іх былі сасланыя на прымусовыя работы ў Сібір, сярод каторых знайшоўся й пісьменьнік Ф. Дастаеўскі. Агульна, каля 150.000 асоб было выслана ў халодную Сібір. Толькі на Беларусі, за яго панаваньня, зарэгістравана аж 605 сялянскіх бунтаў і не дарма празвалі яго "жандармам".

*) Францыя й Вялікабрытанія, пад узьдзеяньнем свае народнае апініі, пачалі адступаць ад палітыкі абсалютызму й рэпрэсіі, якія былі характэрнымі для Расейскай сыстэмы.



У 1830 годзе выбухла паўстаньне ў Варшаве, якое перакінулася й на Беларусь. Аднак на Беларусі ня мела яно посьпеху й не магло мець, бо ўзьнятае было шляхтай без падтрымкі народных масаў. Польскія паўстаньні 1830 і 1863 гадоў супраць царызму, былі работай арыстакратычных колаў, якія з аднаго боку пабуджалі нацыянальны патрыятызм, а з другога — абміналі аграрную рэформу, пакідаючы з боку пытаньне палепшаньня сялянскага быту, на што яно мела надзеі. У выніку такой палітыкі, здаралася, што ў некаторых мясцовасьцях, сяляне лавілі шляхоцкіх паўстанцаў і аддавалі іх царскім уладам. Толькі адзінкі, як Чацкі й Сташыц, у першых дэкадах XIX стагодзьдзя дамагаліся, каб у змаганьні за незалежнасьць Польшчы, дамагацца й падзелу вялікіх маёнткаў магнатаў.

Пасьля ўпадку студзенскага паўстаньня, палякі ўтрацілі прывілеі, якія даў ім Аляксандар I. Скасавана канстытуцыю і ўведзена ў 1832 годзе статут, паворля якога Польскае Каралеўства інкарпаравалася ў склад Расеі й прыняло новы назоў — Прывісьлянскі Край. Сканфіскована 2.889 двароў зямельнай уласнасьці на тэрыторыі былога ВКЛ. Зачынена Віленскі ўнівэрсытэт, выведзена з ужыцьця законы Статуту ВКЛ і на аснове праваслаўя, самадзяржаўя й народнасьці, распачаўся наступ на "іншародцаў". *)

Мікалай I назначыў новага міністра асьветы — Уварава, у паняцьці якога прадметы геаграфіі й сучаснай гісторыі зьяўляліся для моладзі небясьпечнымі. Ён сказаў: "Чым менш людзі знаюць, тым лягчэй імі кіраваць". Увараў быў першым, што пачаў уводзіць

*) У гэтым часе зьявіўся на захадзе Беларусі асьветнік, Ігнат Кулакоўскі, які быў абураны дэнацыяналізуючай палітыкай царскай рэакцыі. Займаючы пасаду ў дырэкцыі вучылішчаў Гродзеншчыны, Кулакоўскі зьвярнуўся ў 1834 годзе ў міністэрства асьветы Расеі, каб яно дало дазвол на неабходную адукацыю тутэйшых людзей. Як беларус (ліцвін), дамагаўся ён вывучэньня мовы народу, этнаграфіі, мастацтва, мясцовай старажытнасьці й гісторыі. Прапанаваў таксама выдаць «Гісторыю краю».

Шматлікія пісьмовыя захады І. Кулакоўскага заставаліся без адказу. Тады, у 1855 годзе езьдзіў ён у Пецярбург, каб там асабіста прадставіць свае дамаганьні. Царская палітыка, як ведама, не была зацікаўлена асьветай простага народу, а тым больш нацыянальныя матывы не адказвалі палітыцы вялікадзяржаўнай царскай Расеі. Штопраўда, у 1840 годзе царскі ўрад адчыніў Горы-Горацкую сельска-гаспадарчую школу, якую ператварыў пасьля ў сельска-гаспадарчы інстытут. Але інстытут гэты быў слабой палёгкай для народу, калі 82% насельніцтва тагачаснай Беларусі ня ўмела чытаць і пісаць.

расейскую мову ў імпэрыі з мэтай асыміляцыі нацыянальных меншасьцяў. Школу, якую меў стварыць у Расейскай імпэрыі Ўвараў за Мікалая I, стварылі яе Саветы пасьля свае рэвалюцыі, дзе па сёньняшні дзень стараюцца зрабіць свайго грамадзяніна ляяльным і паслушным слугой Расейскай дзяжавы.

Трыццаць гадоў царстваваньня Мікалая I, адзначаюцца мілітарызмам, прасьледам свабоды, упадкам асьветы, а зь ёю інтэлектуальнага застою ў розных галінах. Гэта цёмная балонка ў гісторыі Расеі.

Наступнік Мікалая I, цар Аляксандар II (1855-1881) аказаўся чалавекам шырэйшага палітычнага сьветапагляду й талеранцыі ад свайго бацькі. Узыйшоў ён на пасад у той час, калі стан Расеі аказаўся прыгнечаным, і першай яго мэтай было пакончыць з Крымскай вайной, якая была праграная. Пасьля заключэньня міру, Аляксандар II зьвярнуў увагу на больш паважную й балючую праблему Расеі, на справу становішча сялянства. Але ў міжчасе, згодна з традыцыяй цароў, пашырыў ён межы Расеі, гэтым разам на Ўсходзе. Яго заслугай быў той факт, што ў 1861 годзе скасаваў ён паншчыну, якая на захадзе Эўропы ўжо не існавала ў XV стагодзьдзі, надаў дэмакратычна-лібэральны ўстрой судаводству, увёў самаўрады — земствы, зрабіў прывілеі балтыцкім народам, а асабліва Польшчы, дзе ў 1862 годзе лякальная адміністрацыя выконвалася па-польску,а ў Варшаве быў адчынены ўнівэрсытэт ды была надзея на іншыя палёгкі ў пытаньнях сацыяльных, нацыянальных і палітычных.

І хоць беларускі селянін ня вызваліўся поўнасьцю з залежнасьці ад пана, аднак ён пачуў сябе свабадней. Ён больш не прасіў свайго пана згоды на сужэнства, яго больш не прадавалі й не даравалі, як быдла, і не пераносілі зь месца на месца.

Заможная арыстакрацыя супрацівілася шырокаму зраўнаньню нізоў грамадзтва, баючыся насьлецтваў францускай рэвалюцыі й цар быў вымушаны паўстрымаць свае рэформы ў палавіне дарогі. Гэта выклікала абурэньні й разчараваньні ў прагрэсыўных слаёх грамадзтва, а тым больш у рэвалюцыйна насртроеных элемэнтаў і таксама сялян. Неўзабаве на Беларусі зарэгістравана 311 сялянскіх бунтаў, з гэтага ліку 108 былі здушаны пры дапамозе войска й паліцыі.

Цар аказаўся бяссільны, бо ўся дзяржаўная адміністрацыя і армія знайходзіліся ў руках гэтай арыстакрацыі, якая ўсімі даступнымі спосабамі й мэтадамі параліжавала царскія рэформы. У выніку рэпрэсіяў, 67.000 людзей вывезена ў Сібір за палітычныя праступствы, зь іх тры-чацьвёртыя бяз суду, а 2.000 дадаткова было засуджана на сьмерць.

Палякі на царскі лібэралізм адказалі паўстаньнем у 1863 годзе, яны дамагаліся незалежнасьці ня толькі Польшчы этнаграфічнай, але Польшчы "гістарычнай" зь Літвой. Гэтым палякі паказалі сябе больш ымі нацыяналістамі і імпэрыялістамі за цара. Паўстаньне было жорстка здушана, палякі зноў страцілі свае прывілеі й Польшча вярнулася да старой русыфікацыі.

Калі 1-га сакавіка 1881 году цар вяртаўся ў свой палац пасьля



агляду войска, група народавольцаў кінула ў яго бомбу, якая праляцела з боку. Цар зыйшоў з павозкі, каб прайсьціся й паглядзець бліжэй, што тут дзеецца. Народ расступіўся перад ім даючы яму дарогу і адначасна пытаў, як ён чуецца, на што ўсхваляваны цар адказваў: "Дзякуй Богу, я не крануты". У гэтым часе студэнт, народаволец, беларус — Ігнат Грынявіцкі, стоячы нейкіх два мэтры ад цара, закрычаў: "Зарана дзякаваць Богу!" — і тут-жа кінуў сваю бомбу цару пад ногі, якая моцна парвала яго ногі, жывот і твар. Побач цара ляжаў і І. Грынявіцкі сьмяротна ранены ды таксама шмат іншых, што былі блізка. За дзьве гадзіны цар памёр, а Грынявіцкі каля 9-ай гадзіны вечара апрытомнеў у бальніцы. Яго дагледала паліцыя, якая адразу распачала допыты, на што ён адказваў сваім натуральным, чыстым голасам: "Я нічога ня знаю". Палова адзінаццатай І. Грынявіцкі памёр нікога ня выдаўшы й не сказаўшы нават свайго прозьвішча. Памёр ён маючы 24 гады. Паходзіў з Горадзеншчыны. Забойства цара было адначасна помстай за паўстаньне й сьмерць свайго земляка Кастуся Каліноўскага.

Пару гадзін перад сваёю сьмерцю І. Грынявіцкі напісаў ліст сваім сябром. Вось некаторыя зь яго выняткі: "... Аляксандар II мусіць памерці... Я або хто другі нанясе гэты страшны ўдар, рэха якога будзе чутно па ўсёй Расеі й дойдзе ў далёкія куткі.

Ён памрэ й зь ім мы памром, яго ворагі, яго экзэкутары...

Як многа больш ахвяр будзе жадаць нашая дарагая й нешчасьлівая краіна, пакуль мы асягнем нашую вольнасьць? Я ёсьць страшна занепакоены думкай, калі стаю адной нагой на магіле, што пасьля мяне будзе многа ахвяр, многа людзей будзе забіта ў канчатковым сьмяротным змаганьні з дэстатызмам...

Лёс судзіў мне раньнюю сьмерць і я ня буду бачыць таго дня, тае гадзіны перамогі... Але я веру, што праз сьмерць я раблю ўсё, што ёсьць у маёй сіле зрабіць і ніхто на зямлі ня можа вымагаць ад мяне больш". ("The Fortress" by Robert Payne, London 1967, p. 271-272).

Паліцыя знала аб гэтай арганізацыі й пры допытах адзін з удзельнікаў замаху прызнаўся да віны й выдаў сваіх сяброў. Пяцёх канспіратараў павесілі, а сярод іх і жанчыну — Зофію Пяроўскую, дачку былога губэрнатара Пецярбургу.

Рэформы Аляксандра II, яго наступнікі Аляксандар III і Мікалай II адкінулі й вярнуліся назад да царскага дэспатызму. Асабліва Аляксандар III пад уплывам свайго дарадніка Пабеданосцава, адкінуў канстытуцыйныя прапазыцыі свайго бацькі, агранічыў тыя свабоды, што ўжо былі даныя й праявіў сільную нацыяналістычную палітыку русыфікацыі заходніх акраін свае імпэрыі.

Пры Мікалаю II Канстанцін Пабеданосцаў займаў пасаду пракурора Сьвяшчэннага Сыноду. І тут ён надалей праводзіў свае антыпатыі да парлямэнтарызму й дактрыны сувэрэннасьці народаў. Як заўзяты праціўнік дэмакрацыі, называў яе: "найбольшае зло нашага часу". Яго дзейнасьць не аслабіла праціўнікаў, а нават узмоцніла іх,

што ў значнай меры спрычынілася да рэвалюцыі 1917 году.

Як бачым, гісторыя паўтарылася, а зь ёю няпрымірымы гнеў прыгнечанага народу, і таму нацыянальна-вызвольна-рэвалюцыйны рух з кожным годам рос, разьвіваўся, усебакова пашыраўся й набіраў грозную сілу. Калі да гэтага часу ў Расеі адбываліся зазвычай сялянскія ці казацкія бунты й паўстаньні, дык ужо ў другой палове XIX стагодзьдзя наглядаецца навуковы інтэлектуальна-рэвалюцыйны рух, у аснове якога ляжаў матэрыялізм, які сфармуляваў нямецкі жыд Маркс.

Усе расейскія цары ніколі не паслугоўваліся сапраўднай дэмакрацыяй і лібэралізмам, а ўсьцяж замацоўвалі сваю асабістую ўладу. На ўсе вызвольныя рухі народаў, як у сябе ўнутры, так і за граніцай, яны глядзелі варожа. Калі ў Англіі выбухла рэвалюцыя Кромвэля супраць караля, дык Аляксей Міхайлавіч зьвярнуўся да эўрапейскіх манархаў, каб распачаць сьвятую вайну супраць Кромвэля. А імпэратрыца Кацярына II (1762-1796) адмовіла прызнаць рэвалюцыйны ўрад Амэрыкі, які змагаўся за сваю незалежнасьць.

Няменш выступаў супраць незалежнасьці эўрапейскіх народаў і Мікалай I. Там дзе заносілася на рэвалюцыю, ён слаў свае войска, каб у зародку здушыць вызвольны рух нацыянальных меншасьцяў і нават дапамагаў Турцыі. Адной толькі Грэцыі, з палітычных прычын зрабіў вынятак і згадзіўся на незалежнасьць, а яго сын Аляксандар II дамагаўся ад Турцыі незалежнасьці Балгарыі, якая мела быць пад расейскім уплывам.

У 70-ых і 80-ых гадох XIX стагодзьдзя пачалося ажыўленае зацікаўленьне Беларусяй, а сярод беларускай інтэлігенцыі, бы тыя духі з таго сьвету, пачалі паўставаць тайныя гурткі ў Менску, Магілёве, Горадні ды іншых гарадох, якія пад маркай самаасьветы ставілі сваёй мэтай вырашэньне беларускага пытаньня. Гэтыя гурткі самаасьветы, а ў сапраўднасьці народавольцаў, мелі кантакты й з другімі гарадамі Расеі й народамі ды пашыралі нелегальную літаратуру. Сярод арыштаваных і засуджаных у канцы 1877 і пачатку 1878 гадоў у працэсе 193-ох, былі й беларусы, удзельнікі гэтага руху. Трэба дадаць, што ў працэсе 193-ох выступаў у абароне беларус, ураджэнец Рэчыцы, ведамы ў той час пецярбурскі адвакат па справах палітычных — Уладзімір Спасовіч, якога называлі "каралём адвакатуры". Цікава яшчэ зазначыць, што на ўсіх палітычных працэсах У. Спасовіч выступаў бясплатна.

Актыў народавольцаў складала, пераважна, рэвалюцыйная моладзь, а сярод яе дзеці заможных бацькоў, часта арыстакратаў, якія мелі магчымасьць і доступ да асьветы. Бедны селянін у той час ня сьніў яшчэ пра навуку й ня быў зарганізаваны, таму за яго выступалі гэтыя рэвалюцыйныя рухі пад клічам "Зямлі й Волі". Часта гэтая моладзь у часе канікулаў, або па сканчэньні студыяў, ехала ў вёску й там працуючы сярод сялян праводзіла сваю ўсьведамляючую работу. Народавольцы пакладалі свае рэвалюцыйныя надзеі на сялянскія масы й тэрор, веручы ў нацыянальнае самавызначэньне народаў.



Адным з гурткоў беларусаў-народавольцаў быў "Гоман", арганізаваны І. Грынявіцкім у 1881 годзе. Актыў яго складалі беларусы Пецярбурскага ўнівэрсытэту на чале з А. Марчанкам і Х. Ратнерам. Імі выдаваўся ў расейскай мове нелегальны часапіс такога самага назову — "Гоман", які ў сваім першым нумары за 1884 год пісаў:

"З усіх народнасьцяў, якія ўваходзяць у склад сучаснай Расеі, лёс беларусаў, як вядома асаблівы тым, што на іх ужо з даўніх часоў прывыклі глядзець, як на некаторы матэрыял для рознастайных экспэрымэнтаў, а не як на жывую народнасьць, якая здольная самастойна кіраваць сабою. Выходзячы з гэтага пункту гледжаньня, бліжэйшыя суседзі беларусаў, карыстаючы правам мацнейшага, рабілі над ім свае досьледы й безцырымонна накладалі жорсткія рукі на жывы арганізм беларускай народнасьці, вырашыўшы, што яна павінна пакорліва падпарадкавацца мацнейшым і асыміляваца зь імі, растварыўшыся ў вялікарускім ці польскім моры".

Галоўнай мэтай, якую ставілі гоманаўцы перад беларускімі грамадзка-палітычнымі дзеячамі, даволі ясна выказаная ў нумары 2 "Гоману": "Цяперашні гістарычны момант зьяўляецца найбольш зручным для абуджэньня Беларусі, якая пры дружнай барацьбе нашай інтэлігенцыі перародзіцца ў новае самастойнае жыцьцё й зойме месца сярод іншых фэдэрацыяў Расеі на пачатках свабоднага пагадненьня зь імі".

"Гоман" у беларускай грамадзка-палітычнай думцы XIX стагодзьдзя зрадзіла патрэба жыцьця, дух часу. Ён пасьля "Мужыцкай праўды" Каліноўскага, рэпрэзантаваў барацьбу беларусаў на новым этапе яе разьвіцьця.

Беларускія народавольцы ў сваёй барацьбе, супраць царскага дэспатызму, паслугоўваліся ідэаламі братэрства й дружбы народаў, а пытаньне нацыянальнае спалучалі з праблемай сацыяльна-эканамічнай жыцьця народу й краіны.

Два нумары "Гоману" выразна гавораць, што гэта ня быў абы які часапіс, але ворган зарганізованай групы беларусаў рэвалюцыянераў, якая ведала чаго хацела й на сваіх старонках разглядала пытаньні праграмна- тэарытычныя будучай Беларусі. Гэтыя патрыёты бязупынна пратэставалі супраць палянізацыі й русыфікацыі, заклікалі беларускую інтэлігенцыю глыбей пранікаць у масы свайго народу, вывучаць яго мову, літаратуру, вусную народную творчасьць і змагацца за права свабоднага разьвіцьця свае нацыянальнае культуры ў сям'і славянскіх народаў. У гэтым ужо часе расейскі ўрад давёў беларускі народ да такога стану, што не існавала ніводнага ні культурнага, ні эканамічнага, ні палітычнага беларускага асяродка.

З пасярод народавольцаў Беларусі выйшла шмат шырокавядомых і дзейных яе працаўнікоў, як: Пігулеўскі, Чэховіч, Судзілоўскі і іншыя. У той час амаль уся моладзь Расеі заагітована была рэвалюцыйнымі настроямі. А на Беларусі да гэтага спрычыніўся ў значнай

меры Франьцішак Багушэвіч, якога вершы сталіся праграмай, заклікам да нацыянальнага самавызначэньня, надаючы гэтым самым новы напрамак у вызвольнай барацьбе беларускага народу. Паэтычная творчасьць Ф. Багушэвіча фармавалася пад уплывам сялянскага рэвалюцыйнага руху пачатку 60-ых гадоў. Ён сам прымаў удзел у адным з паўстанскіх аддзелаў Кастуся Каліноўскага й быў паранены.

Сьледам народавольцаў у 1886 годзе ўтворана гурток беларускай інтэлігенцыі каля расейскай менскай газэты "Минский Листок". Сябры яго былі: М. Доўнар-Запольскі, Завітневіч, Ляцкі, Слупскі Янка Няслухоўскі ды іншыя. Яны праявілі асаблівую цікавасьць да мясцовай культуры й навукі. Сабраныя матэрыялы са сваіх досьледаў яны друкавалі ў "Минским Листку", або ў штагодняй кніжцы "Северо Западного Календаря". Дзеля цэнзуры, творы друкаваліся на расейскай мове, але здаралася, што й на беларускай. Быў гэта збор вершаў Янкі Лучыны (Янкі Няслухоўскага) "Вязанка" ў 1903 годзе, які падана цэнзару як балгарскі.

Каля сярэдзіны XIX стагодзьдзя беларуская "простая" мова пачынае замацоўвацца ў літаратуры. Гэта пераважна ананімныя творы "Тарас на Парнасе", "Энаіда на выварат" і многа іншых. На беларускай мове пішуць свае творы П. Бахрым, Я. Баршчэўскі, А. Рыпінскі, Я. Чачот, У. Сыракомля, Б. Каратынскі, Ф. Багушэвіч, А. Абуховіч, А. Гурыновіч, П. Лучына, Ф. Тапчэўскі, А. Ельскі і інш. І хоць гэтая новая беларуская літаратурная мова была афіцыйна пад забаронай і не аформлена, але яна існавала, разьвівалася й паступова набывала штораз большы аўтарытэт.

Рабілася гэта, каб родным словам заахвоціць свой народ да асьветы. Надзея на лепшую долю з кожным годам мацнела, але без асьветы народу цяжка было спадзявацца нечага рэальнага. Таму паэта-дэмакрат Янка Лучына так пісаў у канцы XIX стагодзьдзя ў сваім вершы — "Роднай старонцы":

Сонца навукі скрозь хмары цёмныя
Прагляне ясна над нашай нівою,
І будуць жыці дзеткі патомныя
Добраю доляй — доляй шчасьліваю.

Вучнёўская моладзь беларусаў, якая гуртавала ў сабе пераважна здольны элемент, дзеля пашырэньня свае веды ехала вучыцца ў Маскву, Пецярбург, часам у Харкаў, Кіеў, Адэсу, Варшаву ды іншыя гарады. У гэтых гарадох патрыятычная моладзь закладала беларускія студэнцкія гурткі з культурным і палітычным напрамкам, крытычна настаўленым да пануючага рэжыму, за што часта трапляла ў астрогі.

Праз даўгія стагодзьдзі, ніхто ў царскай імпэрыі не падумаў паважна пра пашырэньне асьветы ў народзе, каб праз яе падняць узравень прымітыўнага жыцьця забітай сялянскай масы, дзе кожны шосты ўмеў толькі чытаць на пачатку XX стагодзьдзя. Пётр Вялікі праектаваў арганізаваць Акадэмію, як інстытуцыю для падрыхтоўкі



навуковых кадраў, што пасьля яго сьмерці ў 1725 годзе ажыцьцявіў ведамы расейскі фізык Міхаіл Ламаносаў. Першыя ўнівэрсытэты паўсталі ў канцы XVIII і пачатку XIX стагодзьдзяў: у Маскве (1755) і Пецярбургу (1819), але іх аснаўной мэтай была падрыхтоўка адміністрацыйных кадраў. Прафэсарамі былі пераважна нанятыя чужынцы, якія ня ведалі расейскае мовы, што стварала дадатковыя цяжкасьці.

Заміж заахвоціць моладзь да навукі, урад усялякімі спосабамі рабіў перашкоды. Ён сьлядзіў асабліва тую навуку, дзе ў ходзе дыскусіяў маглі выявіцца "небясьпечныя ідэі", і таму накладаліся высокія аплаты на студэнтаў. У такіх варунках маглі вучыцца дзеці выключна багатых бацькоў. У XIX стагодзьдзі ў Расеі было 5 унівэрсытэтаў, і ў іх навучалася ў 1836 годзе 2.002; у 1848 годзе 3.998; і ў 1850 годзе 3.018 студэнтаў.

Для жанчын дарога да асьветы была яшчэ больш вузкай і абмежаванай, нягледзячы, што ў 1765 годзе Кацярына адчыніла для дзяўчат першы Смольны Інстытут у Пецярбургу. Але тыя, што сапраўды хацелі нешта асягнуць у сваім жыцьці, змушаны былі ехаць заграніцу, пераважна ў Нямеччыну.

Сярэдняя адукацыя ў Расеі мала была ведамая. Аб адносінах цароў да навукі сьведчыць вось і тое, што ў свой час Кацярына II у гутарцы з губэрнатарам Масквы сказала: " Як толькі нашыя мужыкі пачуюць смак навукі, ані ты, ані я, не застанёмся на сваіх мясцох".

У 1803 годзе была ўтвораная Віленская вучэбная акруга ў якую ўвайшла ўся Беларусь. На чале яе пастаўлена, ужо ведамага нам А. Чартарыскага. Яму на дапамогу прыйшлі такія самыя польскія патрыёты — Тадэўш Чацкі й Гуго Калантай. Такім чынам, пад польскім уплывам апынуліся вельмі важныя дзялянкі выхаваньня моладзі ў польскім духу. Як адзін з польскіх дзеячоў пісаў да Калантая: "Пад расейскаю ўладаю нам адкрываюцца добрыя для нас умовы. Разам з тым арганізацыя ў выбары здольных палякаў на месцы настаўнікаў зробіць тое, што толькі можна спадзявацца ў даным выпадку".

І сапраўды, такія неспадзяваныя ўмовы, палякі выкарысталі поўнасьцю. Першарадную ролю выконваў Віленскі ўнівэрсытэт, які ў сваю чаргу стаўся цэнтрам палянізацыі сярэдняй і дробнай шляхты, дзе адначасна ў яго мурох гуртаваліся нелегальныя польскія рэвалюцыйныя настроі супраць пануючага царызму.

У розных галінах такіх навук, як: археалёгія, гісторыя, старое пісьменства, а таксама адносна звычаяў, быту й культуры Беларусі пачало прабуджацца сярод беларускай спольшчанай шляхты глыбейшае зацікаўленьне. У 1817 годзе газэта Віленскага ўнівэрсытэту "Дзеньнік Віленьскі" замясьціла артыкул Марыі Чарноўскай — "Помнікі славянскай міфалёгіі ў звычаях мясцовага люду на Белай Русі". Акрамя міфалёгіі вясковага люду, Белая Русь у сваёй багатай гісторыі, дала знатных гэтманаў, канцлераў, паўстанцаў, паэтаў і іншых, якія, калі часам і не прызнаваліся беларусамі, то ўсё-ж паходзілі зь беларускага роду. І як на пачатак, прыклад Марыі Чар-

ноўскай быў заахвотай для наступных студыяў дзеля глыбейшага пазнаньня свае краіны й свайго паходжаньня. Адгэтуль і пачалі выходзіць піянеры беларускага нацыянальнага руху, якія насьледавалі традыцыі польскага адраджэнскага руху. Адгэтуль пачала выходзіць і ідэя аднаўленьня Вялікага Княства Літоўскага незалежнага ар Расеі й Польшчы. Ведамы юрыст, праф. І. Даніловіч, парупіўся апрацаваць так званы "Западный Свод Законов", на аснове Літоўскага Статуту, які меў быць кодэксам для Беларусі.

Хоць Віленскі ўнівэрсытэт залажылі палякі, аднак беларуская справа ў ім з кожным годам набірала сілы й папулярнасьці. І каб патрываў ён яшчэ дэкаду, Беларусь мела шансы знайсьці ў ім свой раўнапраўны голас, дзякуючы свабоднаму праяўленьню думкі.

Рэшта насельніцтва, якую складала шматмільённая маса беларусаў, надалей зьяўлялася сацыяльна й палітычна прыгнечаным народам, тым цёмным рабом, які сваім потам узбагачаў паноў і магнатаў. Для іх доступ да навукі ўсьцяж быў закрыты, ды за работай ня бачылі яны сьвету й ня мелі часу думаць зь якога яны паходзяць роду.

Палітыка палякаў і расейцаў бязустанна пераконвала беларуса-селяніна, што яго мова ёсьць мужыцкая, мова некультурная, што на гэтай мове немагчыма ані гаварыць нешта разумнае, ані пісаць, ані чытаць, ані друкаваць кніжкі. Пры такім падыходзе да народнай справы, прыбіты горам беларус, зашыўся ў сваёй курнай хаце і там сярод сям'і ў самабытнай прымітыўнай форме гутарыў і гэтым пераховўваў сваю "мужыцкую" мову, свае вераваньні й свой агульны культурны спосаб жыцьця. Толькі сярод дробнай беларускай шляхты, якая не пасьпела яшчэ поўнасьцю спалянізавацца, дзе-ні-дзе засталіся пачуцьці сваёй нацыянальнасьці.

У такіх абставінах, акупацыйнага прасьледу, голас беларускай інтэлігенцыі прыціх, але ня змоўк і недзе сачыўся струменьчык жыватворчай крыніцы. Аб гэтым пэрыядзе часу ў Беларусі зусім трапна апісвае Я. Карскі ў сваёй капітальнай працы ("Беларусы" т. III. кн. 3, стр. 3): "Здавалася, мясцовай мове быў паложаны канец: галоўны сродак выяўленьня народнага духу быў адабраны... Але...

> у тыя часы мала зьвярталі ўвагі на просты народ, які касьнеў у змроку нявуцтва й жывіў сваё духовае жыцьцё толькі ў вуснай паэзіі. А між тым, ён і быў корань і аснова беларускай народнасьці; у якім свабодна й незабруджана цякла крыніца жывой вады, якая ня высахла й да нашага часу".

А Янка Купала ў сваім вершы "Беларушчына" на гэту тэму пісаў:

І круцілі цябе, як каму падабалася,
Кожны строіў, наводзіў цябе на свой строй, на свой лад,
Ажно часам жальба, як кляцьба разлягалася
Ды нячутнай ляцела, уміраючы ў грудзі назад.
Спаў народ, і ты спала, і ворагі верылі,
Што ніхто не разбудзіць цябе, што заснула навек,



І дзялілі цябе, усімі мерамі мералі,
Што памерла ўжо ты — не адзін так казаў чалавек.

Вось такі нацыянальны прасьлед матэрыяльна-бытавых умоваў многіх пакаленьняў беларускага народу, яго гісторыі й важных падзеяў, якія палажылі сваю пячаць на жыцьцё й разьвіцьцё нацыі пад Польшчай і Расеяй, вісеў над Беларусяй, як туман над лугам.

Паводле перапісу насельніцтва 1897 году, ў Беларусі было 32% пісьменных, крыху менш за адну-трэцюю. Аб гэтай няграматнасьці сьведчыць недахоп нават пачатковых школаў. У 1914-1915 навучальным годзе, мелася толькі 119 няпоўна сярэдніх і 71 сярэдняя школа. Вышэйшых навучальных установаў — унівэрсытэтаў у Беларусі ня было, хоць патрэба ў гэтым адчувалася даўно.

На захады мясцовых патрыётаў адчыніць у Менску ці Віцебску ўнівэрсытэт, у 1913 годзе царскі міністар асьветы Кассо заявіў дэпутацыі, што адкрыцьцё ўнівэрсытэту ў Беларусі справа ня сьпешная й ня так скора наступіць яго чарга.

Гісторыя асьветы пад уладай Раманавых адлюстроўвае тую шырокую й глыбокую пропасьць, што аддзяляла ўрад ад народу. І хоць да вайны 1914 году асьвета ў Расеі зрабіла некаторыя поступы, аднак была гэта заслуга не ўраду, а энеэргіі народных мас і адзінак.

Кіруючая кліка Расеі дзялілася на некалькі катэгорыяў, залежна ад багацьця — колькасьці зямлі, як таксама ад яго паходжаньня — роду. Багачы карысталіся прывілеямі й трымалі манаполь на ўлад... Было іх- ня так многа, 5%, рэшту 95% насельніцтва састаўляла ў сваёй масе тая самая прыгонная, цёмная й забітая горам сялянская вёска. Паза царом былі тры вялікія інстытуцыі на якіх апіралася ўся ўлада Расеі: бюракраты, армія й сьвяшчэнны Сынод. Усе яны назначаліся з волі цара, яго дарадчыкамі, якіх ён сам выбіраў і звальняў.

Як ужо ведама, усебаковыя недахопы адчувала асабліва беларускае сялянства й таму ў канцы XIX і пачатку XX стагодзьдзяў, у пошуках за хлебам, пакідала свае бедныя гаспадаркі й цэлымі вёскамі выязджала ў Сібір на цаліну, або ў Амэрыку, а хто абы куды, толькі далей ад бяды й нэндзы. Селянін, каб толькі вырвацца на свабоду, гатовы быў ісьці басяком на канец сьвету. Такім спосабам, да вайны 1914 году, з дапамогай палітыкі ўраду, каб засяліць падбітую тэрыторыю, выехала зь Беларусі каля 800 тысяч сялян у Сібір і прыблізна такая самая колькасьць у Амэрыку. Гэта сьведчыць, што беларускія сяляне ня мелі надзеі на іншую разьвязку аграрнай праблемы ў Расеі, як толькі эміграцыя. І ехалі яны, як тыя дзеці Ізраіля зь Егіпту ў абяцаную зямлю.

Народ пакідаў родны край і ехаў шукаць шчасьця, а абшырныя палосы ворнай зямлі ў Беларусі належалі дваранам, памешчыкам і прыблізна такая самая прастора зямлі была падзелена між мільёнамі сялян. Сяляне пакутавалі ад малазямельля, а бязьзямельных батракоў налічвалася да вайны каля 200 тысяч. Апрацоўка зямлі й тая

 

была прымітыўнай — саха й барана, мімаволі напаміналі старажытную эпоху. Астаткі паншчыны зь яе абшарніцтвам тармазілі й дэзарганізавалі аграрную рэформу й ня менш індустрыю, дзе таксама адбывалася нялюдзкая эксплуатацыя рабочай сілы.

Нацыянальным меншасьцям імпэрыі царская сыстэма адабрала права на выяўленьне свайго нацыянальна-культурнага жыцьця. Слова Беларусь перахрысьцілі на "Северо-западный край". Прыгнечаныя народы не пагаджаліся з надужыцьцём царскае палітыкі прасьледаў і адказалі буйнымі паўстаньнямі. Царызм срога караў удзельнікаў "мецяжа" расстрэламі, шыбеніцамі, высылкамі ў халодную поўнач Сібіру, саджаў у турмы ды іншымі спосабамі ўспакойваў народы свае абшырнае імпэрыі.

Вайна Расеі зь Японіяй у 1904-1905 гадох пачалася за ўплывы на далёкім Усходзе — у Карэі й Манжурыі. У лютым 1904 году японцы заатакавалі й зьнішчылі порт Артур, занялі паўдзённую Манжурыю й разьбілі расейскую армію пад Мугдэнам. У маі 1905 году Балтыцкі флот, які плыў вакол сьвету, каб ўратаваць ход падзеяў на далёкім Усходзе, быў зьнішчаны японцамі ў баі пад Тушымай. Гэты экпэрымэнт каштаваў Расеі 6.000 мільёнаў рублёў, 400 тысяч жаўнераў, утрату тэрыторыі, прэстыж і бязмала ўтрату трону. А ўсяму сьвету здавалася, што Японія, якая толькі 50 гадоў таму належала да найбольш адсталых краін сьвету, будзе без сумніву разьбіта, але сталася адваротна. Японія аднесла рашучую перамогу над вялікім гігантам — Расеяй. Гэта паказала ўсяму сьвету, а ў першую чаргу народам Расеі, што царская армія, флот і дзяржаўная адміністрацыя ня здольныя абараняць і кіраваць інтарэсамі свае краіны. Збройныя рэвалюцыйныя выступленьні ў арміі й флоце, забойствы адказных асобаў і страйкі, таілі ў сабе грозную небясьпеку.

Граф Вітэ, чалавек лібэральных поглядаў, ведаючы настаўленьне цара, прадставіў яму альтэрнатыву: устанавіць бязьлітасную дыктатуру, або даць народам дэмакратычныя канстытуцыйныя правы свабоды. Ня маючы дастаткова збройнай сілы (знайходзілася яшчэ на далёкім Усходзе), каб трымаць бязьлітасную дыктатуру, цар нехаця стварыў канстытуцыйную манархію, якая часткова спыніла нацыянальны прасьлед і дала магчымасьць на ажыцяўленьне культурнай дзейнасьці народам імпэрыі.

У новы дзяржаўны парлямэнт — Першую Думу, якая была выбрана на пачатку 1906 году, увайшло больш за адну-трэцюю дэпутатаў нацыянальных меншасьцяў імпэрыі: ад украінцаў — 62, ад палякаў — 51, ад жыдоў — 13, ад беларусаў — 12 і іншыя. Рэпрэзэнтанты меншых нацыянальнасьцяў утварылі групу аўтанамістаў з мэтай дамагацца большых правоў.

Нацыянальнае пытаньне, справа амнэстыі ды зямельная рэформа, былі галоўнымі тэмамі дэбатаў у першым парлямэньце імпэрыі. Адказваючы цару на ягоную прамову Дума задэкляравала: "Дзяржаўная Дума апрацуе закон пра поўнае зраўнаньне ў правох усіх грамадзянаў, бяручы пад увагу скасаваньне ўсіх абмежаваньняў і прывілеяў, абумоўленых станам, нацыянальнасьцю, рэлігіяй або родам...

Дзяржаўная Дума ўважае, нарэшце, за канечнае адзначыць у ліку безадкладных заданьняў сваіх і разьвязаньне пытаньня пра задавальненьне даўно насьпелых дамаганьняў паасобных нацыянальнасьцяў. Расея творыць дзяжаву, заселеную шмат якімі плямёнамі й народнасьцямі. Духовае задзіночаньне ўсіх гэтых плямёнаў і народнасьцяў магчымае толькі пры задавальненьні патрэбы кожнага зь іх захоўваць і разьвіваць сваеасаблівасьці ў паасобных галінах быту. Дзяржаўная Дума паруліцца пра шырокае задавальненьне гэтых справядлівых патрэбаў".

Было гэта нешта новае й ніколі не спатыканае ў гісторыі Расеі. У восені гэтага самага 1906 году, адбыліся новыя выбары ў Другую Думу, пашыраныя прадстаўнікамі Азіі й паўдзённа-ўсходняй Расеі, адкуль увайшлі музулманы й казакі.

Дамаганьні лібэральных прадстаўнікоў Думы ўвесьці шырокія рэформы, аказаліся не на часе, бо небясьпечны пэрыяд рэвалюцыі мінуў і цар Мікалай II праз сваю царыцу, а тая праз іншыя рэакцыйныя элементы, байкатаваў пачынаньні Думы і адкідаў аснаўныя дэмакратычныя прынцыпы свабоды, ды нават стараўся адабраць тое, што ў крытычны 1905 год ахвяраваў.

Першая Дума мела перавагу левых элементаў і востра выступала з дамаганьнямі зямельнай рэформы, маючы сымпатыі й падтрымку Вітэ. За свой лібэралізм Вітэ быў звольнены са свайго становішча, а на яго месца цар паставіў прэм'ерам старога Горэмыкіна, якога незадоўга заступіў Пётр Сталыпін, энэргічны й здольны чалавек, але рэакцыйны. З волі гэтых людзей 15-га чэрвеня 1907 году была разьвязана Другая Дума, арыштаваныя некаторыя дэмакратычныя дэпутаты й такім чынам і парадкам ізноў заўладаў аўтакратычны характар манархіі.

Антыдэмакратычнае настаўленьне цара паслужыла прычынай зьмены выбарчага права так, каб у наступныя Думы ўвайшла, у сваёй бальшыні, расейская арыстакрацыя — прыхільнікі палітыкі цара. Нацыянальныя меншасьці былі ў ёй агранічаныя. Створаная такім шляхам Трэйцяя Дума (1907), ня мела дэцыдуючага ўплыву на ўрад, на палепшаньне справы краіны, ня мела ўплыву на масы й магла быць разьвязана царом першага-лепшага дня, як і папярэднія Думы.

Выбраная ў 1912 годзе Чацьвёртая Дума, нічым ня розьнілася ад Трэцяй Думы, а служыла толькі арэнай дыспутаў і крытыкі, што давала магчымасьць яе ўдзельнікам выказаць свае аратарскія здольнасьці й больш нічога.

Такая аднабаковая працэдура цара не знайходзіла сапраўднай апоры ў Думе, у народзе й самасабою хілілася да нямінучага ўпадку. Спробы лібэральных паслоў знайсьці нейкую разьвязку, пагадненьне дэмакратычным спосабам, былі сабатаваныя згары, і так роля Думы, як сапраўднай парлямэнтарнай інстытуцыі, ніколі не ажыцьцявілася. Гэта добра бачылі сацыялісты розных адценьняў і дамагаліся рэ-

 

 

 

спубліканскай сацыялістычнай сыстэмы.

Расея патрэбавала ўсебаковай рэформы, перабудовы. У краіне наглядаўся за востры кантраст паміж рабочымі й фабрыкантамі; паміж малазямельнымі ды бязьзямельнымі сялянамі й памешчыкамі; паміж прыгнечанымі нацыямі й вялікарасейскім панаючым нацыяналізмам-дэспатызмам.

Беларусы, як і іншыя нацыянальныя меншасьці імпэрыі, дамагаліся ад ураду зямельнай рэформы, аўтаноміі й беларусізацыі школаў. Аднак, калі ў некаторых пытаньнях вяліся дыскусіі й была надзея на палёгку, дык у пытаньні беларускай школы царская палітыка не зьмяніла сваіх адносін да свабоднага навучаньня беларускіх дзяцей роднай мовы ў сваіх школах, і гэты праект быў канчаткова адхілены Дзяржаўнай Дувай у 1911 годзе.

На VII дваранскім зьезьдзе ў 1911 годзе, у справе адукацыі, было сказана: "Школа дзяржаўная павінна быць рускай нацыянальна-патрыятычнай, урадавай. Школа ня можа быць іншага характару, у ёй павінна без ніякіх-бы там уступак панаваць дзяржаўная мова, навучаньне павінна весьціся на расейскай мове. Расея — кангламэрат розных народнасьцяў. Дык няўжо-ж мы будзем імкнуцца да стварэньня племяннога сэпаратызму, які праяўляецца ў кожнай народнасьці? Нам, дваранам, належыць сказаць, што школа павінна быць расейскай і Расея — для расейцаў".

Сяргей Вітэ, здольны царскі міністар, хацеў правесьці аграрную рэформу па лініі капіталістычнай і нават за гэта быў звольнены са свайго становішча. Няведама чым закончылася-б і Сталыпінская зямельная рэформа, каб ня куля агента "Ахранкі", ад якой загінуў ён у верасьні 1911 году. Усё-ж і тут надзея была слабая, бо што ў сапраўднасьці маглі спадзявацца малазямельныя й бязьзямельныя сяляне ад кансэрватыўнага прэм'ера Сталыпіна, які да таго сам быў багатым земляўласьнікам і варожа настаўленым да нацыянальных меншасьцяў. Яго рэформа стварыла больш праблем чымсі разьвязала, бо-ж праводзілася яна паводле яго слоў: "Сьпярша парадак, а пасьля рэформа".

У такой абстаноўцы, рэвалюцыйны ўздым 1905 году зь яго забастоўкамі прадаўжаўся на працягу наступных гадоў і цягнуў за сабою далейшыя сьмяротныя пакараньні, а дзесяткі тысяч барацьбітоў казакі гналі ў Сібір без суду. Кара сьмерці прыбрала жудасныя памеры, ад 1905 да 1908 году зьнішчана 3.629 асобаў.

Як дадатковы дзейнік барацьбы, царскі ўрад зарганізаваў "Чорную сотню" з крыміналістаў і садыстаў, якая цесна супрацоўнічала з "Ахранкай" — тайнай паліцыяй. Заданьнем "Чорнай сотні" было вясьці вайну з вызвольнымі рухамі, стасуючы пабоі, забойствы, падпальваньне, пагромы, разгоны сходаў і т. п. Цар ведаў пра "Чорную сотню" і яе дзейнасьць, але сьведама ці нясьведама разам са сваім малым сынам насілі эмблему гэтай бруднай шайкі крыміналістаў.

Цар Мікалай II быў чалавекам слабой волі, ня меў уроджанага таленту й пакліканьня займаць такое высокае становішча, а да таго, як відаць, мала знаў або зусім не хацеў знаць гісторыю засьлепленых каралёў сваёй уладай і іх сумныя вынікі. Найлепш аб гэтым сьведчыць яго дзёньнік, як далёка стаяў цар Мікалай II ад прынятых на сябе абавязкаў. І на працягу 23 гадоў свайго панаваньня (1894-1917), ён нічога не навучыўся.



Незадоўга пасьля яго каранацыі ў Расеі пачаўся індустрыяльны прагрэс. Група ўмеранных рэфарматараў зьвярнулася да цара з прапановай увесьці адміністрацыйныя зьмены, маючы на ўвазе даць большыя магчымасьці народу ў кіраваньні мясцовымі бягучымі справамі. Цар станоўча адмовіў, назваўшы гэта "безучуцьцёвай марай" і дадаў, што ён ведае, як забясьпечыць прынцыпы аўтакрацыі, — так як рабіў яго бацька. Такі адказ нічога добрага не варажыў. Час аднак і працэс індустрыі рабілі сваю работу, якая амаль у 1905 годзе не адабрала царскай манаполіі.

Францускі кароль Людовік XVI (Люіс) таксама быў дыктатарам і сурова распраўляўся са сваімі міністрамі, якія ня так думалі, або ня так гаварылі, як гэта хацелася каралю. Усе дыскусіі й пастановы заканчваліся як Людовік казаў: "Справа ёсьць легальная, бо я так жадаю".

Некаторыя блізкія й шчырыя супрацоўнікі цара дараджалі яму й прасілі, каб прыслухаўся да голасу народу. Нават брытыйскі амбасадар у Петраградзе, Джордж Бучанан, папераджаў і дараджаў цару асабіста "... зламаць бар'еру, якая аддзяляе манарха ад народу й гэтым здабыць давер". На гэта цар горда адказаў: — "Ці спадар мае на думцы, што я маю здабыць давер народу, ці мой народ мае здабыць мой давер?"

Цар Мікалай II меў падобны падход да справаў, як і Людовік XVI і абодва яны былі пад моцным уплывам сваіх жанок-каралеваў. Ангельскі кароль Чарль I таксама надужываў сваёй каралеўскай уладай.

Вось-жа, усе гэтыя бескампрамісовыя манархі выклікалі ў сваіх краінах народны гнеў, які выліўся ў рэвалюцыі за правы, свабоду й справядлівасьць, што ў канцы прывяло да радыкальных зьменаў у сыстэме ўрадаваньня. А каралі дыктатары, у выніку рэвалёцыі, раней ці пазьней, заплацілі сваім жыцьцём за свае недарэчнасьці.

Пачаткам такіх радыкальных зьмен была Вялікая Француская рэвалюцыя, якая нанесла сьмяротны ўдар каралеўскай уладзе й замяніла яе правам народу.

Выхаваньне Мікалая II на цара адбывалася пад тым самым знакам веры ў спэцыяльнае пасланства, якое паходзіць ад Бога, і ня можа падлягаць уплывам людзей сьвецкіх. Так, як і бацька Мікаля II Аляксандар III (1881-1894) заявіў у сваім маніфэсьце ў красавіку 1881 году, што ў будучыні долю сваёй імпэрыі зь нікім ня будзе абмяркоўваць, апрача Бога.

Народ Расеі быў рэлігійным народам, слухаўся наказаў царквы й часта было так, што там, дзе ўрад аказаўся бясьсільным, царква заступала яго месца й несла свой сьветач веры, надзеі й любові да



 

свае дзяржавы.

І нягледзячы на тое, што Праваслаўная царква “Сьвятой Расеі” адыграла калясальную ролю ў палітыцы, аднак яе Візантыйская традыцыя талеранцыі народаў, ніколі не знайшла зразуменьня, ані сярод духоўных, ані сярод сьвецкіх яе кіраўнікоў. Нідзе ў гісторыі Расеі не адзначана, каб хоць адзін з праваслаўных ерархаў выступіў супраць барбарызму паліцыйных органаў. Царква зь яе прыгожымі абрадамі і ўстаноўленымі догмамі, адкідала інтэлектуальную свабоду. Яна, паза сваімі абрадамі, заўсёды была дэпартамэнтам дзяржаўнай палітыкі трыманьня народаў у пакоры й русыфікацыі нерасейскіх народаў.

Ужо так прынята разглядаць гісторыю тае ці іншае краіны паводле тых, што стаялі на чале яе. У Расеі да XX стагодзьдзя ўладу выконвалі цары. Штопраўда, мелі яны вялікую ўладу, але гэта яшчэ ня значыла, што яны маглі рабіць усё, што й калі ім спадабалася. Гісторыя ўспамінае Аляксандра І і Аляксандра ІІ, як лібэральных цароў, але ў практычным жыцьці яны аказаліся бясьсільнымі правесьці мінімальныя дэмакратычныя рэформы, даць палёгкі для свайго народу, бо ў значнай меры залежалі ад сваіх памагатых, якія ўтрымоўвалі гэтую ўладу. І ў некаторых выпадках цары не былі столькі вінаваты, як вінавата была сама сыстэма, якая трымала цароў дзеля выгадаў выбранай клясы. Такая сыстэма прадугледжвала, што нутраная палітыка Расеі ў ніякім выпадку ня можа правесьці рэформы шляхам эвалюцыі, але можа быць асягнута толькі пад націскам нізоў, у выніку чаго наступіць катастрофа, рэвалюцыя.

Аднак, каб цар Мікалай ІІ паслухаў сваіх блізкіх прыяцеляў, парваў з перастарэлай традыцыяй сваіх папярэднікаў і менш прыпісваў увагі свайму спэцыяльнаму пасланству, магчыма, Расея ўнікнула-б рэвалюцыі ў часе вайны і яе дамашнія праблемы маглі-б быць разьвязаны шляхам сапраўднай дэмакрацыі з трыбуны Думы й вольных выбары пры існаваньні манархіі.

А што тычыцца нацыянальных меншасьцяў імпэрыі, дык цяжка прадбачыць, якія канкрэтныя вынікі маглі прынесьці гэтыя дэмакратычныя зьмены. Але, як у свой час паказала рэвалюцыя 1905 году, цар паддаўся й пайшоў на ўступкі. Ды ня толькі нутраныя абставіны, але й зьнешнія, сусьветныя, змусілі-б цара і яго памагатых пагадзіцца з часам і прыняць дэмакратычны строй. Можна, для прыкладу, прывесьці іншы факт уступства царскай адміністрацыі ў часе вайны.

У выніку адступленьня расейскіх войск зь Летувы й Беларусі, у 1915 годзе ў Вільні паўстаў Грамадзкі Камітэт гэтых зямель у склад якога ўвайшлі: палякі, летувісы, беларусы (Ластоўскі, Луцкевіч і яшчэ двух) і жыды. Камітэт гэты меў спаўняць абавязкі Летувіска-Беларускага ўраду ў часе нямецкай акупацыі. Цікава тое, што расейскі губэрнатар Вяроўкін зацьвердзіў гэты Камітэт перад эвакуацыяй зь Вільні й перадаў яму ўладу. Даны факт можна лічыць за гістарычны акт уступства царызму на карысьць мясцовага насельніцтва. У начы з 17 на 18 верасьня 1915 году гэты Камітэт распачаў урадаваньне.



Ад першай рэвалюцыі 1905 году да пачатку вайны 1914 году, а тым больш у часе вайны, сьведамасьць нацыянальных меншасьцяў імпэрыі значна ўзрасла й гэтае пытаньне пасьля вайны не магло прайсьці глуха. Беларускія прадстаўніцтвы ў 1916 годзе публічна выказаліся паабапал фронту за аўтаноміяй або фэдарацыяй Беларусі ў межах Расеі.



Уладзімер Глыбінны (ЗША).

## ВЯЛІКІЯ ДАРОГІ

(раман)

Man becomes a slave when deprived of the right to say no.

Manifesto of the Congress of Cultural Freedom.

### Пралёг ЖЫЦЬ. . .

Ніколі яшчэ ў жыцьці Кастусь не адчуў так глыбака й неперарможна прынаблівa тое зяленіва, якое пакрывала сабой вяршаліну гэтага адзінотнага ясеня, што шырака раськінуў вялізарную шапку свайго лісьця ў баку вуліцы якраз насупраць гэтага вакна. Усё, што ён пабачыў за адну часіну, нейкім раптоўным набегам ускалыхнула глыбока душу вязьня й скранула яе з тае абыякавасьці, што, здавалася, даўно й назаўсёды валодала ёй. І гэтая ціхая бязьлюдная вуліца, што збочыла ад шумлівасьці людзкое сумятні й гармідару ў гэты спакой за колькі крокаў ад водгаласу трамвайнага скрыгату, і абмыты запозьнена-халодным, як для траўня, дажджом брук, і зацісьнены каменнымі панэлямі, але мацнейшы за ўсе штучныя перашкоды, рост маёвае сьвежа-зялёнае траўкі, што прабівалася праз найменшыя шчыліны, нясучы доказ няспыннага росту ўсяго жывога, і тая адзіная жанчына, твар якой зьверху трэцяга паверху нельга было бачыць — усё тварыла ўяву раптам адроджанага жыцьця.

Жанчына перайшла наўскаса вуліцу хадою незаклапочанае, гордае сваёй маладосьцяй і сьведамае сваёй сілы й прывабнасьці. Відавочна, яна была зусім вольная ад думак пра чыесьці пакуты тут-жа, недалёка ад яе, усяго за колькі крокаў.

Зырка зялёны дыван шырака раськінутае вяршаліны схаваў яе на колькі сэкундаў ад звайстрэлага зроку Кастуся, што быццам пранізваў яе суздром. Не магла жанчына ведаць, што да шыбы вакна трэцяга паверху прыпаў бледны няголены твар ніколі няіснуючай для яе асобы, а ягоны зрок сочыць ейны кожны крок, і што яны





© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

становяць сабой нейкія іншыя вехі ў жыцьці невядомага вязьня. Калі вяршаліна схавала яе пад сваім контурам і да часу, калі яна ізноў паказалася спад зяленіва, Кастусь сіліўся сьвідраваць зрокам густую зялёную шапку. Але загустое было лісьцё, каб што-небудзь пабачыць. Адылі адчуваньне жыцьця на нейкую часіну ўзбуяла ў ягонай закарузлай і, здавалася-б, памёрлай для жыцьцёвых усплёскаў душы. Нібы пяруном і маланкай прарэзала ейнае хмарнае неба, а ўлева ўмомант змыла нанесены доўгім часам пыл і бруд жыцьцёвае шэрасьці, спад аськепкаў жыцьця падняўся й пацягнуўся да сонца, сьвятла й шчасьця той жыцьцёвы стымул, што калісьці гэтак красаваў у гэтым маладым чалавеку.

...Жанчына ізноў паказалася з-за дрэва, ідучы той-жа нязьменна-пэўнай хадою. І ў чыстым празрыстым паветры, прарэзаным досыць слабымі, далёка яшчэ нялетнімі, косамі сонца, прад зрокам назіральніка праглянулі некаторыя ейныя рысы. Цяпер, калі ён пабачыў на кароткі міг ейны профіль, яму здалося, што дзесьці бачыў яе, — да таго-ж знаёмымі выдаліся яму рысы яе, уся постаць а, галоўнае, штосьці нявымоўна-знанае ў яе твары. І нат ня гэтак асобныя рысы яе, якіх нельга было разглядзець з вышыні на воддалі, як агульны ейны выгляд, у якім адчувалася самаўсьведамленьне свае годнасьці.

Штосьці ўразьліва-знаёмае прабегла сьценем у сьведамасьці Кастуся, запаланіла ягоныя пачуцьці радасным спадзяваньнем і скаланула ўсю ягоную істоту.

Хто-ж гэта мог быць? — думаў ён і ніяк ня мог даць сабе рады ўспомніць з той азначанасьцяй, каб выклікаць ейнае імя.

Мінула яшчэ колькі часінаў гэтае няўпэўнасьці. Жанчына ішла далей проста ў прасьцяг вуліцы й пачала зьнікаць у далячыні. Ужо ня відаць было ейнага профілю. Воддаль глынула постаць яе і штрыхавала контуры. За колькі часінаў яна зусім зьнікла, зьвярнуўшы недзе ў суседні завулак.

Доўга яшчэ глядзеў-бы Кастусь ўсьлед яе зьнікненьню і яшчэ доўга, мусіць, ягоны бледны схудзелы твар ня мог-бы адарвацца ад шыбы, даючы ў сваёй душы наперамену месца то раптоўна ўзроджанай радасьці жыцьця й адчуваньню, што яно-ткі цячэ сваёй дарогай, неперараможанае ў нягодах гаротнымі дазнаньнямі людзей, то ўступаючы месца той няпэўнасьці, што вырастала зь немагчымасьці даведацца, хто-ж яна такая была. Мусіць, доўга яшчэ цягнулася-б, нябачнае пабочнаму воку й толькі балюча адчуванае самім ім, гэтае ўтрапеньне, разам і радаснае й гаротнае, ад пачатку.

Ніхто ня бачыў ягонага твару, што прыпаў да шыбы з адваротнага боку вакна. А каб сталася гэтае, то льга было-б прачытаць шмат нікім нячытанага, і хіба-ж толькі падобным да яго зразумелага ўзварушаньня адубелае душы, адроджанае смагі да жыцьця, жаданьня ізноў жыць, але, жыць... наўсуперак благому кону, што корчыў, калечыў пачатныя пялёсткі парываньняў і калечыў лепшыя імкненьні маладосьці, падмінаў сваім грубым ботам цьвет ягонага красаваньня.



На нейкую часіну як-бы зьнікла адчуваньне сапраўднасьці, і Кастусь забыўся, што ён зусім ня вольны чалавек, а звычайны вязень, прыведзены з камары на допыт і пакінуты ў карыдоры чакаць свайго выкліку ў пакой да сьледчага. Канвойны, які прывёў яго сюды, атрымаў даручэньне прывесьці яшчэ кагосьці іншага на допыт, паслухмяна зьнік, загадаўшы Кастусю стаяць тварам да сьцяны ня зыходзячы зь месца. Ён, пэўна-ж, і стаяў-бы, ня кратаючыся, каб ня гэтае, тут-жа побач, вакно, якое прывабіла яго спачатку густой зялёнай вяршалінай дрэва. Калі ён зрабіў гэтыя два крокі, што адлучалі яго ад вакна, дык ня мог ужо больш устрымацца, каб не парушыць загаду, і міжвольна, стыхійна зрокам сягнуў далёка за дазволеныя межы. І вось цяпер, па колькіх месяцах поўнае адлучанасьці ад жывога сьвету, людзей і прыроды, доўгага гнібеньня ў сырым скляпеньні каменнага мяшка-камэры "Амэрыканкі" — найноўшага дасягненьня турэмнага будаўніцтва, — адкуль толькі малюсенькі кавалачак неба й быў відаць праз невялічкае вакенца каля столі, Кастусь нарэшце дарваўся да сапраўднага вакна. Праз яго можна было бачыць ня толькі шырокі прасторны купал блакітнага бяздоннага неба зь лёгкімі пуховымі, бялява-ружаватымі хмаркамі, быццам застыглымі ў паднябесьсі. Сама зямля, што прабівалася зяленівам праз каменьні і асфальт, куды людзі яе загналі, ізноў паўстала сваёй адвечнай існасьцяй перад зрокам гэтага пакутніка. Доўгая ростань з навакольным жыцьцём мусіць ня здолела заглушыць у ім адвечнае прагі да жыцьця й не пагасілі яе ніякія перагасы долі. І адразу ўсё нядаўнае здалося яму дарэмным, ня вартым увагі, нікчэмным быльнягом, ды яго нібыта й ня было зусім. Як-бы й ня існавалі ўжо доўгія балюча-марудныя месяцы ляжаньня на каменнай халоднай падлозе камэры, упоруч адзін каля аднаго, стузінай, дзе ў часы доўгіх халодных ночаў адзін другога грэлі сваімі схудзелымі целамі. Быццам і ня было доўгіх гадзінаў, дзён, тыдняў, месяцаў гаротнага чаканьня выкліку на допыт, дарэмных спадзяваньняў на тое, што разьбяруць, ня можа быць, каб невінаватага трымалі, — выпусьцяць, абы выклікалі й пагаварылі. Гэта-ж праз памылку яго забралі, ён-жа нічога не рабіў супраць улады, акрамя затоенага нутранога, нікому ня выказанага болю за свой край і народ, так бессардэчна нашчаны й пустошаны бязьлітаснай чужой уладай. Адыйшлі ў далёкае начныя трызьненьні, азьвярэлыя твары вартавых турэмнікаў і абернутае ў вуснах апошніх абразай у наш адрыс, незразумелае ім слова "нацдэм", якім канваіры-ахоўнікі з добрым прыдаткам расейскага мату надзялялі кожнага вязьня-інтэлігента, даручанага ім. І хоць не надоўга перасталі існаваць шэрыя баланды, змацаваныя драўляным калкам пайкі хлеба, начныя выклікі на допыт бяз рэчаў, або з рэчамі, няма ведама куды, што поўнілі сабой звычайны шэры дзень вязьня.

Але, цяпер усё гэта толькі ўява, і яно зьнікла з памяці як тая "вёска зь яснай явы". Іншы сьвет уразіў зрок і сьведамасьць Кастуся й запаланіў ўсе ягоныя адчуваньні. Толькі гэты зялёны, поўны фарбаў, такі, здаецца, блізкі, а разам і гэткі недасяжны, далёкі сьвет,

 

бязьмежна варты, каб жыць у ім.

Ён заглыбіўся з асалодай у гэтыя самаадчуваньні й не заўважаў, як у калідоры хадзілі ўдоўж і поперак людзі, найчасьцей маладыя, у зеленавата-шэрых, паводле чэкісцкага фасону, кашулях з адзнакамі выслугаў на стаячых каўнярох у выглядзе ромбаў або квадратаў, у галіфэ й высокіх, блїскуча начышчаных, новых ботах, што парыпвалі пры кожным кроку, а абцасамі выраблялі безьліч надаедлівага стуканьня й груканьня. Часта адчыняліся й зачыняліся дзьверы пакояў, выпускаючы і ўпускаючы службоўцаў гэтае бязконца вялікае й страшное канцылярыі. Сакратаркі перабягалі з паперамі, а з-за адчыненых дзьвярэй даносіўся стук пішучых машынак і, часамі, урыўкі грозных покрыкаў сьледчых на свае ахвяры, што да пары, да часу не паддаваліся на настырлівыя вымаганьні прызнацца да віны. Можна было, на кароткі міг, як доўга адчыненыя дзьверы дазвалялі выходзіць адтуль гукам, пачуць прарэзьлівыя ўсхліпы-галошаньні, але дзьверы гэтым разам зачыняліся хутчэй, і йзноў заставалася ў калідоры толькі нявыразьлівасьць агульнае мітусьні й шумятлівасьць па той бок дзьвярэй. У калідоры ў розных мясцох стаялі бледныя, няголеныя людзі ў пацёртай, як папера, вопратцы, чакаючы пакліканьня ў пакой, або прагнаныя на кілідор падумаць зь ліку ўпартых “неразброеных палітычных ворагаў”.

Калі-б Кастусь ня быў так заглыблены ў адноўлены ізноў, паўсталы ў ягоных адчуваньнях сьвет, дык мог-бы ўгледзець сярод чакаючых або прыводжаных каго-небудзь са сваіх знаёмых. Тыя яго бачылі, а адзін зь іх нат хацеў падаць знак, аднак не дачакаўся нагоды адцягнуць увагу Кастуся й быў неўзабаве пакліканы ў пакой. Ён-жа нічога ня бачыў і ня чуў за сваімі плячыма. На шчасьце ніхто не браў увагі на вязьня, прыліпшага да вакна. Кожны рабіў сваю справу, каб выслугоўвацца ды атрымоўваць чарговыя падвышэньні й прасоўваньні ўгару й здабываць новыя нашыўкі з адзнакамі на каўнярох. Усе сьпяшаліся, мітусіліся й ня бралі ўвагі нат адзін на аднаго, а ня тое, каб на вязьня, сьпісанага зь ліку людзей і асуджанага ўжо загадзя, яшчэ задоўга перад арыштам, на засланьне на далёкую Поўнач, як дармовая працоўная сіла.

Зьбег акалічнасьцяў неяк так склаўся, што Кастусь мог на некаторы, хоць і кароткі, час аддаць сябе цалком сваім уявам... і гэта была першая шчасьлівая часіна ў цэлым ланцугу бязрадасных дзён, падобных да сябе, як брудныя памыйныя кроплі вады. Дарма, што гэта быў толькі момант, усяго толькі колькі-часінны перапынак.

Але гэта была часіна даражэйшая можа за колішнія салодкія й не такія ўжо кароткія сьветлыя дні маладосьці. Тады гэта было для яго даступнае, не станавіла яно сабой чагосьці недасягальнага па той бок ужыцьцёўленых жаданьняў. Не сказаць, каб ён карыстаў шырака сякой-такой колішняй “воляй”, абмежаванай шмат якімі немагчымасьцямі з гледзішча матэрыяльнага. Прыроду-ж ён любіў яшчэ ад малых год, калі гадаваўся й рос на ўскрайне гораду, недалёка ад невялікае, але як для малога хлапца багатае магчымасьцямі



марнаваць час, ракі. Тады ён улетку штадня, вольны ад школьных заняткаў, гуляў на рацэ, гадзінамі ловячы келбаў ці яльцаў, стоячы вышэй каленаў ў вадзе, або качаўся ў цёплым пяску, загараючы, або толькі купаўся ў няглыбокіх водах свае роднае Сьвіслачы. Часам рабіў далёкія загарадныя выбегі, у часе якіх ваколіцы Менску, ад Кальварышак, Драздоў, Крупцаў, Ясьнінак ды аж да Банцараўшчыны й Ждановічаў сталіся яму блізкімі куткамі. Тады яму палюбіліся багатыя паплавы, мокрыя грэблі, цераз якія няраз прабіраўся да паловы мокры, гаі й дубнякі ўздоўж рэчкі, па якіх яму даводзілася туляцца, шукаючы багатага рыбнага месца. Няраз, начуючы ў лесе, засынаў пад аднастайныя сумныя гукі зязюлі, а сярод кароткае летняе ночы ён прачынаўся, удыхваючы глыбока здаровы смаляны пах сасны і ўслухоўваўся ў таемныя шорахі начнога лесу. Даводзілася яму назіраць, як займалася адкульсьці спад ускраю зямлі на ўсходзе ружовасьць, якая набірала выразьлівасьці, зырчыні, ды першыя сьветла-празрыстыя косы сонца залацілі вяршаліны стагодніх соснаў і заімшэлых хвояў. Пад іх жыцьцятворчай сілай ажываў й налiваўся праскамі, рухамі ды поўніўся шумамі шырокі лясны прастор, што быццам і не здагадваўся аб прысутнасьці тут-жа істоты з роду ягонага адвечнага ворага — чалавека.

Няраз спатыкаючы й праводзячы сонца на рачным узлоньні, Кастусь пазнаваў характво прыроды, напаўняў сэрца мэлёдыямі адвечнай ейнай музыкі, зрадняўся зь ёю. Яна сталася ягонай другой істотай, зь якой духова ніколі не разлучаўся надоўга, дарма што жыў усё жыцьцё ў вялікіх гарадох. Яму заўсёды вялікім адпачынкам і супакаеньнем ад зямных клопатаў было пабыць на берагох ракі, пацешыць свае вочы ейнымі мяккімі сьвежа-зялёнымі паплавамі, пабадзяцца між бярэжнымі кустамі, зачараваным вокам углядацца ў бягучыя па каменьчыках і пяску цуркі, або прабегчы поглядам па люстраной паверхні вады на глыбіні, цьмянай на погляд, з лапухамі лялейных лістоў і лялеямі пасярод іх. Гэты сьвет таіў у сабе неперамoжную прынаднасьць, і ён мог гадзінамі, як зачараваны, хадзіць наўкола, або сядзець на месцы, углядаючыся то ў ваду, то ў зьнікаючы ў далёкай смузе далягляд із сінявата-лялёвымі зубцамі суцэльных лясоў у далечыні. У гэткія часіны ягоныя вусны маглі шаптаць словы ўлюбёнага паэты:

> У прасторы зоры лушчаць
> сузор'яў срэбра-стынь.
> Лясы, дубровы, пушчы
> вартуюць нашу сінь.

— І чаму гэта я раней не заўважаў гэтых зялёных лісточкаў, не карыстаў з асалоды адчуваньня іхнае клейкасьці на руцэ? — мільгнула думка, дарма што гэта было ня зусім праўдай, бо ён заўсёды ў жыцьці ён іх і бачыў і адчуваў. Цяпер, у гэтую часіну растаньня з прыродай і немагчымасьці дакрануцца да яе, ён быў узбуджаны бачаным. Жарсьць нязбытных жаданьняў раптоўна ўзрасла з нячуванай



 

сілай і, падагрэты ёй, ён стаў сябе асуджваць за ўяўную былую абыякавасьць да жывое прыроды. І здалося яму, што магчыма ў сьвеце й няма нічога лепшага акрамя гэтых зялёных лісточкаў. Ён з асалодаю пачаў адчуваць іхны даўкі смак, гаркаваты пры канцы, і іхную клейкасьць, калі яны, яшчэ больш белавата-чырвонаватыя, чымся зялёныя, вылупіліся з веснавых пупышак. Уява ўзрастала й выціскала сабой рэальны сьвет. Ізноў прыйшлі ўспаміны пра стараслабодзкія гароды на Сьвіслачы, скрозь абсаджаныя ад даўна дрэвамі берагі. Малым хлапчанём ён сядзіць на кладцы. Вялізная вярба распасьцерла сваё нагнутае да вады вецьце. У люстры вады яна, перавернутая, зьвесілася зь нябеснага прадоньня, укрытага белымі раськідзістымі пуховымі хмарынкамі. Абедзьве вярбы — і гэтая праўдзівая на галавой, і тая адбітая ў вадзе — зьвесілі над ім свае бялявыя пэрлы, а ён, зачараваны, ня ведае, да якой працягнуць рукою, каб крануцца гэтых мяккіх, пакрытых ценькім пухам, так прынадных руцэ й зроку, каткоў. Хіба-ж над галавой далей, а тут, унізе ў вадзе, абы рукой працягнуць, — яны блізка, блізка... зусім блізка.

Вясновы ветрык чуць кранае ваду, маленечкія хвалькі ледзь калышуць паверхню. Адбітая вярба, калыхаючыся, робіць адбітак больш зыбкім і, разам з тым, чароўным. Вочы хлапчука ўглядаюцца ў трымценьне, ягоныя вушы ловяць зыкі шалясьценьня, спачатку ён думкай сіліцца дасягнуць нагледжанага, за ёй і рука міжвольна працягнулася, каб ухапіць і адламаць сабе галінку з каткамі. Хлапчук нагінаецца і, ад хараства забыўшыся, што перад ім рака, хуткім рухам апускае руку ў халодную красавіковую ваду ракі і ... аж уздрыгнуўся ад раптоўнага адчуваньня мокрага, халоднага на бялявhousing ружаватай скуры свае тонкае ручкі. Тут толькі ён уськідвае галоўку ўгару і, заміж зыбкае ўявы, перад ягоным зрокам паўстае вялізная шапка ўкрытага каткамі вецьця й маладога красавіковага зяленіва, што выбівалася з-падыспаду. А вышэй, над вярбой, бясконца васільковы купал сапраўднага неба, і хмурынкі, што плылі павольна выяўляючы вечны спакой і мір на небе й на зямлі.

І цяпер, узнавіўшы ў сваёй памяці гэты абразок, Кастусь як-бы дадумаў да канца ўсё тое, што тады ўзбудзілася ў яго маладых пачуцьцях, але магло быць асьветлена дасьпелай думкай дарослага чалавека. Кастусь узьняў зрок угару... Таксама, як і тады ў маленсьцьве, плылі лёгкія хмурынкі... Вялікія прагаліны паміж імі гэтак сама аддавалі вечным блакітам... Цяпер, праўда, можа ня гэткім ясным, як тады выглядала ў дзяцінстве... Пашарэў зрок чалавека... Пашарэў і адбітак навакольля... Адылі пад гэтым пашарэлым напластаваньнем, што затуманіла крыху перад зрокам паверхню гэтага васількавага прадоньня, уяўлялася ізноў тое самае... Яна ёсьць, гэтая сінь, і ніякая пашарэласьць яе не схавае ад вока чалавека, што хоча бачыць яе.

Сіняе неба... Зялёныя лісточкі... можа акрамя вас ня было й няма нічога вартага на гэтым сьвеце — пачаў ізноў думаць ён...

— Какого черта высматриваешь? — раптоўна пачуўся грубы, настырлівы голас канваіра, што вяртаўся зь іншым вязьнем пакліканым на допыт, і згледзеў прытуленага да шыбы Кастуся.



— Назад, к стенке! Как ты смел, сукин сын, подходить к окну? Невелено! В карцер пойдешь, собака, — крычаў пачырванелы ад раптоўнага прыліву злосьці, нізкі, каржакаваты постацяй, кірпаты канваір Ніканор. І ня гэтак ад сапраўднае свае злосьці, як ад робленае з абавязку службы выпрацаванае за колькі год выслугоўваньня й нядатнасьці хоць-бы як падняцца ў сваёй кар'еры ды прыдбаць хоць-бы які чын, вышшы за звычайнага "рядового". І мусіць гэта толькі й падганяла яго на яшчэ большую злосьць, каб даць выхад хоць на бяспраўным нявольніку, бо-ж апрача нявольнікаў ня меў ніжшых за сябе.

Кастусь адчуў, што каб гэта было ня ў гэтым людным, поўным руху калідоры "важнае" цэнтральнае ўстановы, а недзе ў ціхім таежным закутку, давялося-б яму зараз выціраць свой твар ад сьлядоў, а галаве прышлося-б пазнаёміцца з бітым шклом. Зьбялелы ад раптоўнага, зьнячэўку, спалоху, ён ірвануўся ад вакна і адразу стаў у загаданую позу тварам у куток. Мусіць, заўважыў канваір, як дрыготна краталіся плечы пранятага Кастуся, і прыняўшы гэта за адзнаку пярэпалаху й паслухмянасьці, гэтым разам устрымаўся ад новых словаў да свае прывычнае лаянкі і, раптоўна, зьмяніўшы свой гнеў на ціхую, яму аднаму ведамую пахмурную ўсьмешку, пакінуў вязьня ізноў у спакоі.

Зьбянтэжаная ўтрапёнасьць і безнадзейная немарасьць запанавалі ў сэрцы Кастуся. Перад ягонымі вачыма была цёмная непраходная сьцяна, зрок упіраўся ў цемнаваты шэры куток. Ён адгароджваў ад сьвету, гасіў сьвятло й сонца жыцьця, што ішло за сьценамі сваім недасяжным цяпер Кастусю адвечным поступам. Сярод белага дня ў ягонай душы запанавала чорная ноч. Неўзабаве яго паклікалі на допыт у пакой сьледчага. На сьцяне каляндар паказваў травень 1933 году.

## 1. КАЛІ ПАЧАЛОСЯ

Акрамя звычайнага сьпякотнага чэрвеньскага дня, гэтая нядзельная раніца нічога асаблівага не варажыла. Ужо даўно сонца пазалаціла бляшаныя дахі меставых камяніцаў, і ўжо колькі часу гадзіньнікавая вежа на гарадзкім пляцы ўсходняй сваёй палавіцай купалася ў шчодрым, яшчэ ня так палыхаючым, як апаўдні, мяккім цяпле яго ранічных косаў.

Ужо даўно маці Кастуся адчыніла аканіцы, і разам з цуркамі сьвятла ў пакой улівалася абуджаная гаварлівасьць знадворнага жыцьця. Праз ускрай аднаго вакна, што было да саду, уліваліся зыкі абуджанае прыроды, птушыныя посьвісты, вераб'інае шчабятаньне, а калі прыслухацца — розлагалосны й разам з тым зьліты ў адзіны, гоман летняе прыроды й гарадзкога тлуму, што тварыўся разам з шапаценьням featured рознастайных жучкоў і кузурак на зямлі, і трэскам скакуноў у траве, і аддаленым шумам места зь ягоным трамвайным скры-

гатам, гудам машынаў і гомам мескага натоўпу.

Уводдаль ад самога цэнтру, на Старажоўскай ускраіне, гарадзкі тлум даходзіў ужо толькі хіба сваім водгульлям і таму не рабіў жыцьцё тут так нясьцерпным нат і ўлетку. Гул места ня мог тут адолець галасоў вечнажывучае прыроды й тварыў хіба толькі фон, каб выгадна адцеміць несьмяротную прыгажосьць адвечнае музыкі шчасьліваe ў сваім буяньні прыроды.

Кастусёва вуха заўсёды цешылася ранічнымі шолахамі лёгкага ветрыку, што змушаў шаптаць вясёлую песьню быцьця тысячы лісточкаў на антонаўскай яблыні недалёка вакна, тварам да якога ён заўсёды быў на сваёй канапе.

Гэтым разам ён прачнуўся можа ня гэтак ад гукаў, што поўнілі сабой пакой, як ад настырлівага казытаньня ягонага твару праменьчыкамі, што прабіваліся скрозь вецьце й праз шыбу пэўна ды проста сьвяцілі на ягоную галаву. Ён колькі разоў крывіўся, варочаў галавой то налева, то направа. Нарэшце, калі сьветлы праменьчык заказытаў у носе, расплюшчыў вочы і, адразу-ж, лыпнуўшы разы са два ад асьляпеньня, усхапіўся й борзда пачаў адзявацца.

— Ого, як-жа я заспаў сёньня, сонца ўжо цішком устала, — падумаў ён зірнуўшы праз вакно ў ягоны бок і, на часіну асьлеплены, перавёў пагляд на вялікі сьценны гадзіньнік. Той, яшчэ ад часоў, як бацькі пабраліся, вісіць усё на тым-жа месцы й дакладна што паўгадзіны то адным ударам, то па колькі адбівае гадзіны. Кастусь яшчэ з маленства звык да гэтага адбіваньня, а можа дзеля заглыбленасьці ў сябе самога, што перастаў заўважаць, калі гадзіньнік б'е, і толькі зірк на цыфэрблят мог давесьці да ягонай сьведамасьці, якая цяпер гадзіна.

І цяпер, дарма што гадзіньнік адбіў кагадзе выразьліва й гучна сваіх 8 удараў, ён іх ня чуў, і толькі кінуўшы свой погляд угару, ён пабачыў, што ўжо за восьмую гадзіну. Іншымі днямі каля палавіны сёмай ён быў звычайна на нагах. Гэта вырабілася за гады службы й сталася інстынктам, каб крый Божа, не спазьніцца й ня лучыць ізноў у турму. Гэта ўжо зрабілася ягонай другой натурай, і ён нязьменна ды аўтаматычна датрымоўваўся яе, як нейкага збаўчага ад няшчасьцяў зароку.

Пабачыўшы, што так позна, яму стала нат трохі сорамна й ніякавата, быццам ён парушыў якісь абавязак. "Дык гэта-ж нядзеля", — супакойліва падумаў ён, — "дый нічога пільнага рабіць ня маю", — супакоіў сябе. З гэтай думкай ён вышаў у сенцы памыцца, каб сьцюдзёнай вадой адразу зьнесьці з вачэй адзнакі заспанасьці.

Не пасьпеў ён яшчэ як сьлед выцерці ручніком твару, як убачыў сваю маці з пустым кошыкам у руках. Чамусьці яму адразу кінулася ў вочы ейная нязвычная зьбянтэжанасьць і ўстрывожанасьць. Звычайна нядзельнымі раніцамі яна хадзіла на рынак. Па зьліквідаваньні ў 1930 годзе блізкое, рукой было сягнуць, Траецкае гары, ды іншых бліжэйшых кірмашоў, даводзілася ёй уставаць куды раней, каб пасьпець на адзіны цяпер, у нядзелю толькі магчымы, рынак за колькі



кілямэтраў на іншай ускраіне места, за Людамантам. Яно, штопраўда для маці было й прыемна ў ранічнім халадку, пакуль яшчэ сонца ня ўсплыло над галавой і не пачало моцна прыграваць, прайсьціся ўскрайнымі ціхімі вуліцамі, вольнымі ад руху й натоўпу.

У гэтым часе яшчэ ня было чуваць таго галасу, які пазьней выявіць сваю ўзрастаючую сілу ў меру таго, як сонца будзе вышэй і вышэй уздымацца й глушыць усе трымценьні зялёнага сьвету навокал. Таму з такім здавальненьнем заўсёды раней, чымся ўсе прачнуцца ў хаце, яна выходзіла й вярталася.

Гэтым разам яна вярнулася нешта занадта рана, і ейны кошык зусім невыдаваў адзнакаў кірмашовага шанцу. Наадварот, тая лягчыня, зь якой яна трымала яго ў руках, сьведчыла найбольш пра няўдачу. Зірнуўшы ў твар, Кастусь не заўважыў звычайнае ветлапяшчотнае мяккае выразьлівасьці старэчых матчыных вачэй, якія прыхоўвалі ў такім выпадку прыемную стомленасьць. Яны неяк збляклі, а твар выяўляў задуменнасьць і зьбянтэжанасьць.

(далей будзе)

---

Ларыса ГЕНІЮШ

* * *

У нас белы дзень і белы сьвет,
Палотнаў бель у каморах,
У кашулі белай белы дзед
Зь бялявым унукам поруч.

Бярозаў белым-белы стан,
Ля іх красуня ў белі,
Зьвісае белая каса,
Як белы лён з кудзелі.

І белы сыр і белы стол,
Паважныя аж люба,
Усе бела ўмытыя наўкол,
Сядзяць ля белай бульбы.

Над імі маці са збанком,
І дочкі, як галубкі,
Струёю белай малако,
Паволі льецца ў кубкі.

Абраз пад белым ручніком,
Бялявыя дзяўчаты,
І белы бэз, што пад вакном,
Як сьнег, — буслы над хатай.

І вішні бела зацьвілі,
І зь белай грывай коні,
— Чарнеюць толькі мазалі,
Рубцамі на далонях...



## НОВАЕ НА КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ



**Укладальніца спд. Зора КІПЕЛЬ**

**The images swarm free.** A bi-lingual selection of poetry by Maksim Bahdanovič, Aleś Harun and Zmitrok Biadula.
Translated by **Vera Rich.** Edited with an introduction by **Arnold McMillin.**
London, The Anglo-Byelorussian Society, 1982. 135 p.

Аўтарытэтная кніжка перакладаў і аналізу творчасьці «слупоў адраджэнскае нашаніўскае літаратуры», якая дапаўняе папярэднія зборнікі й працы выдаваныя ў Ангельшчыне ў галіне беларускае літаратуры ды гэтулькі дадае да беларускае літаратуры ў ангельскай мове.

**Галяк, Леанід. Успаміны.** Кніга 2-ая.
ЗША. Выдавецтва «Летапіс», 1983. 166 б.

Другая кніга «Успамінаў» нябожчыка Л. Галяка пакрывае пэрыяд ад 1944 г. У гэтай кнізе апісана быцьцё беларускае палітычнае эміграцыі ў Нямеччыне ды яе палітычнае й культурнае жыцьцё. Даволі маляўніча апісваецца пачатак беларускае новае эміграцыі ў ЗША. Кніга ілюстравана рознымі цікавымі здымкамі.

**ЗАПІСЫ Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва,** кніжка 17, 1983.

Кніжка выдадзеная пад рэдактарствам праф. Томаса Бэрда з Гарадзкога Каледжу гор. Нью Ёрку й зьмяшчае шмат розных артыкулаў. Апрача гэтага ў кнізе зарэгістравана навуковая хроніка беларусаведы, выстаўкі ды колькі рэцэнзыяў.

**Anthologie de la poésie biélorusse "au pays des poètes".**
Paris, Le Méredien Editeur, 1982, 281 p.

Анталёгія беларускай паэзіі па-француску. Выдадзена ў сэрыі рэпрэзэнтацыйных працаў УНЭСКА. Прадмова напісаная У. Гніламёдавым. Гэта першая большая публікацыя зь беларускае літаратуры ў мове французкай.

**Kipel, Vitaŭt and Zora Kipel. Byelorussian-American Theatre,** p. 67-100.
У кнізе: Ethnic Theatre in the United States.
Westport, Conn., Greenwood Press, 1983, 606 p. Edited by Maxine Schwartz Seller.

У кнізе 20 разьдзелаў прысьвечаных тэатрам розных нацыянальных групаў Амэрыкі пачынаючы ад армянскага тэатру да тэатру на ідыш. У разьдзеле прысьвечаным беларускаму тэатру даецца багатая дакумантацыя ды пададзены сьпіс п'есаў пастаўленых рознымі беларускімі арганізацыямі й групамі пачынаючы ад 1926 году.

**Касараў, Васіль. Ангельска-Беларускі разгаворнік з вымоваю.**
ЗША. 1982. 24 б.

Набор ангельскіх сказаў у перакладзе на беларускую мову з вымоваю.



## СЁЕ - ТОЕ... і яшчэ НЕШТА...

**Быў прынцып адзіны заўсёды ў Агаты: — Калі ты разумны, чаму не багаты?**

Не ўстаяў перад спакусай і... сеў.

**Адны карыстаюцца акулярамі, а іншыя глядзяць на ўсё праз пальцы.**

Кола — яскравы прыклад таго, як трэба хаваць канцы.

**Выбіўся ў людзі, і цяпер да яго не прабіцца.**

Падман без ашуканства — вось дзе штука.

**Навошта апладысмэнты, калі песенька сьпета?**

Аб вырашэньні цякучых пытаньняў рабіў справаздачу віламі па вадзе.

**Чаму сьмяротных грахоў сем, а запавядзеў аж дзесяць?**

**Падкупляў усьмешкаю, а браў грашамі.**

Прыслухаўшыся, можна пачуць і тое, што не гаварылася.

**У кожнага з нас сьпіць талент, але паспрабуйце яго разбудзіць!**

На людзях салавей, а дома ястраб.

**Нішто так ня зьбліжае, як супольныя ворагі.**

Вар'ят, дурань, крэтын, ідыёт, асёл, ёлупень... Ці можна абразіць больш? Можна, дадаўшы да кожнага слова: "стары".

**Кожны праходзіць па жыцьці пад канвоем уласнага сумленьня.**

— Працы хапае, — скардзіцца далакоп, — жыцьцё не стаіць на месцы.

**Каб лунаць — неабавязкава лятаць; дастаткова ўявіць іншых ніжэйшымі за сябе.**

Нішто так не аддаляе суседзяў, як іх блізкасьць.

**Круглы дурань: і ўхапіцца няма за што.**

Бывае, што й бяззубая цешча мае зуб на зяця.

# ЖАРТАМ І ЎСУР'ЁЗ



— Кажуць, што ты хутка будзеш мець мужа?
— Магчыма, бо ўжо дзіця маю.

— Ідзі зь мірам, сын мой, — кажа яму ксёндз пасьля споведзі.
— Але... Войча... вы не прызначыце мне пакараньня?
— Сын мой, заўтра ты жэнішся. Гэтага ўжо досыць.

— Мая жонка хоча пахудзець і цяпер увесь час езьдзіць вярхом.
— А які вынік?
— За тыдзень конь страціў у вазе дзесяць кіляграмаў.

— Вы нічога ня маеце супраць, калі мы заўтра павячэраем разам?
— Вядома, з задавальненьнем!
— Ну тады заўтра ў восем, у вас!

— Ты чамусьці засмучаны?
— Так, на працы меў непрыемнасьці.
— І што ты на гэта?
— Як заўсёды; прыйшоў дамоў і вылаяў жонку.

— Што з табой Васіль?
— Даўгі мяне мучаць.
— Што, ня можаш зь іх вылезьці?
— Не, бяда, што далей не магу залезьці.

— У вас гэтулькі недахопаў...
— Але затое якія?! Усе буйныя!..

— Навошта вы разбаўляеце піва вадой?
— А чым вы параіце?



Аўтапартрэт рэдактара «Беларускага Сьвету».

— ● —

**Крыху з эміграцыйнае бочкі...**

Сяргей схаваўшыся за Хмару,
«Голасам» віляе.
І ўсіх чыста, без разбору,
Брудам палівае...

«Зважай!» — крычыць Акула,
Ухапіўшыся за дула...
— Аўтамату?!
— Ты што, маленькі? —
За «дула» паўпустой бутэлькі.



С. Хмара — беларускі пісьменьнік?! Паводле «Б. Голасу» — так. На здымку з жыдоўскімі пісьменьнікамі прычапіўся й Сяргей з краю... як «беларускі пісьменьнік.»

Вуй, прышлося-б яму ад сораму ды чорнага сумленьня пад стол хавацца, каб тыя запыталі: «Ну, пакажы, браток, хоць адзін твор з твайго «пісьменьніцкага» даробку...»

Самахвальства ў крайнасьці бывае, так як бывае й прыпісваньне сабе розных дурных небыліц... але трэба-ж ведаць хоць скромную меру...

# Вясёлы кутОчак



— Мама, памажы мне паставіць бацьку на ногі.



— Сядайце, калі ласка. Мама хутка прыйдзе.





— Васіль! Гэта што значыць?!



— Зноў ты вёў палітычную дыскусію з цырульнікам?



